

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.

Пяць гадоў працаваў Анатоль Гардзей (на фота — у цэнтры) рабочым прэсавага корпуса вытворчага аб'яднання «Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна». За гэты час ён скончыў энергетычны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута, стаў камуністам. Зараз камуністы прэсавага абралі яго сакратаром сваёй партыйнай арганізацыі.

За справу, сакратар!

АКТУАЛЬНЫ ПОГЛЯД

# ФІНІШУЕ ПЯЦІГОДКА

Беларусь, як і ўся краіна, знаходзіцца на парозе завяршэння XI пяцігодкі. Ужо сёння можна азірнуцца і падвесці некаторыя вынікі.

Забяспечваюцца, і са значным перавышэннем, заданні пяцігадовага плана па росту нацыянальнага даходу. Сярэднегадавы прырост яго складзе 5,8 працэнта. 95 працэнтаў гэтага прыросту будзе атрымана за кошт павышэння прадукцыйнасці працы.

Паскоранымі тэмпамі развіваюцца галіны, якія забяспечваюць тэхнічны прагрэс у народнай гаспадарцы і павышаюць узровень спецыялізацыі рэспублікі ва ўсесаюзным размеркаванні працы. На яе долю ў машынабудаванні прыходзіцца 14 працэнтаў трактароў, 12 працэнтаў металарэжучых станкоў, 19 працэнтаў матацыклаў, 14 — гадзіннікаў, 11 — бытавых халадзільнікаў, а таксама 18 працэнтаў вытворчасці краіны па мінеральных угнаеннях, 23 працэнты хімічных валокнаў і нітак. Прадукцыя рэспублікі экспартуецца зараз больш чым у 100 краін свету.

У народнагаспадарчым комплексе рэспублікі надаецца вялікая ўвага хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці. Адно з асноўных вытворцаў калійных угнаенняў у краіне аб'яднанне «Беларуськалій» выпускае ў год прыкладна 5 мільёнаў тон угнаенняў.

Нафтахімічная прамысловасць прадстаўлена аб'яднаннем «Бабруйскшына».

Развіццё энергетыкі рэспублікі выклікана неабходнасцю забеспячэння ўзрастаючых патрэбнасцей у электрычнай і цеплавой энергіі ўсіх галін народнай гаспадаркі. Распачата будаўніцтва атамнай ЦЭЦ. Атрымала далейшае развіццё традыцыйная для рэспублікі лясная, дрэваапрацоўчая і цэлюлозна-папяровая прамысловасць па глыбокай перапрацоўцы дрэва.

За апошнія гады практычна нанова створана вытворчасць керамічных дрэнажных труб і даламітавай мукі для сельскай гаспадаркі, дахавых матэрыялаў і азбестацэментных труб, вялікай колькасці назваў аддзелачных і абліцовачных матэрыялаў, порыстых запаўняльнікаў, матэрыялаў для ўзвядзення сцен пабудоў і цеплаізаляцыі дахаў з сілікатабетону.

Развіццё прамысловасці рэспублікі за апошнія чатыры гады і апошні год пяцігодкі забяспечыла датэрміновае выкананне заданняў пяцігадовага плана.

Павышаецца эфектыўнасць прамысловай вытворчасці. Прадукцыйнасць працы за пяцігодку па нашых падліках узрасце на 21,3 працэнта супраць 18,6 па заданню. Гэта стала магчыма за кошт здзяйснення буйных мерапрыемстваў па ўкараненні дасягненняў навукі і тэхнікі ў вытворчасць, укараненні прагрэсіўнай тэхналогіі, механізацыі і аўтаматызацыі вытворчасці, удасканаленні кіравання і арганізацыі працы. За 4 з паловай гады пяцігодкі на комплексную механізацыю і аўтаматызацыю пераведзена больш як тысяча цэхаў, участкаў і вытворчасцей, укаранёна 1,9 тысячы механізаваных паточных і аўтаматычных ліній, больш як 3,5 тысячы робатаў і маніпулятараў, асвоена 1,3 тысячы новых тыпаў машын, абсталявання, апаратаў і прыбораў. За пяцігодку выпуск прадукцыі высокай якасці павялічыцца ў 1,6 раза.

Вялікія задачы вырашаны ў капітальным будаўніцтве. Выконваецца пяцігадовы план па ўводу ў дзеянне асноўных фондаў і асваенні капітальных укладанняў. Пабудавана за пяцігодку дзесяткі новых дзяржаўных прамысловых прадпрыемстваў.

За гады пяцігодкі значнае развіццё атрымала сельская гаспадарка рэспублікі. Гэта стала магчыма дзякуючы вялікім матэрыяльным і фінансавым укладанням дзяржавы ў гэту галіну, узбраенню яе высокапрадукцыйнай тэхнікай, значным сацыяльным пераўтварэнням на сяле.

Пастаянны клопат нашай партыі і дзяржавы — павышэнне жыццёвага ўзроўню людзей. Усё гэта знайшло канкрэтнае ўвасабленне ў пяцігодцы. Вось некалькі лічбаў. Сярэднямесячная грашовая заработная плата рабочых і служачых павялічыцца на 15 працэнтаў, а аплата працы калгаснікаў — у 1,5 раза.

Зараз рэспубліка не толькі завяршае XI пяцігодку, але і рыхтуецца да новай. Вызначаюцца асноўныя напрамкі далейшага развіцця народнай гаспадаркі. Галоўнае патрабаванне, якое пры гэтым пасоўваецца на першы план і вынікае з рашэнняў кастрычніцкага (1985 г.) Пленума ЦК КПСС,— гэта інтэнсіфікацыя, рэзкае павышэнне прадукцыйнасці працы, эканомія ўсіх відаў рэсурсаў, забеспячэнне на гэтай аснове далейшага росту дабрабыту людзей.

**Яўсей МАХЛІН,**
**начальнік упраўлення Дзяржплана БССР.**

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Беларусь

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1930 годзе.

**№ 12 (564)**
**СНЕЖАНЬ**
**1985 г.**

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.



НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: дыктары Беларускага тэлебачання (злева направа) заслужаная артыстка БССР Зінаіда Бандарэнка, Кацярына Несцяровіч і Марына Таўсташэева.

Фота Віктара ГАНЧАРЭНКІ.



Журнал «Беларусь» на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.10.85. Падпісана да друку 15.11.85. АТ 12343. Фармат $70 \times 108^1/_8$. Глыбокі друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 11. Ум. фарбаадб. 12,6. Т. 13 000 экз. Зак. 514.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вуліца Захарава, 19.
Тэлефоны: намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

# ПАДАРОЖЖА Ў КАЗКУ

□ Самы цікавы ў свеце занятак...



— А што, Снягурачка, ці не зрабіць нам людзям к Новаму году незвычайны падарунак? — прапанаваў аднойчы, пагладжваючы сівыя вусы, Дзед Мароз.— Вось толькі які?

— Давай прыбяром ёлку, зробім яе лясной каралевай,— весела заскакала Снягурачка.

— Вось гэта ідэя! — узрадаваўся Дзед Мароз і пашыбаваў на паляну, дзе расла самая прыгожая ў лесе ёлка. Злавіў па дарозе некалькі сняжынак і накалоў на іголкі. Асцярожна зняў з кустоў пакрытыя шэранню павуцінкі і ўпрыгожыў імі, як гірляндамі, галінкі ёлкі. Потым наламаў на бярозах ледзяшоў, пачапляў пад лапкамі, і яны зазззялі вясёлымі агеньчыкамі. Самы вялікі лядзяш Дзед Мароз прымацаваў на макаўцы ёлкі, і яна стала яшчэ больш прыгожай і стройнай з гэтай бліскучай каронай. А гарэза Снягурачка знайшла саломінку і пачала пускаць мыльныя бурбалкі. Яны ўзніманіся ў паветра і асцярожна садзіліся на пушыстыя галінкі.

□ Раней афіцыйнага тэрміну стаў Аляксандр Спецыян высокакваліфікаваным шкловыдзімальшчыкам, бо ў гэтай справе галоўнае — талент. Зараз брыгадзіру змены, камуністу Спецыяну давяраюць самыя складаныя вырабы.





□ Не мароз, а высокая тэмпература дапамагае металізатару Марыі Візнерператвараць шкляныя шарыкі ў сярэбраныя.

— Ну і выдумшчыца ты, Снягурачка,— задаволена паляпаў рукавіцамі Дзед Мароз, і ў тое ж імгненне бурбалкі замерзлі і ператварыліся ў сярэбраныя шарыкі. Сярэбранымі сталі ўсе шышкі на ёлцы, дый сама яна зазззяла на марозе мільёнамі залацістых іскрынак...

З таго часу людзі пад Новы год заўсёды прыбіраюць ёлку. З асаблівай нецярплівасцю чакаюць гэта незвычайнае свята дзеці. Як толькі выпадзе снег, яны пачынаюць меркаваць, чым упрыгожыць ёлку на гэты раз. Ім хочацца бачыць на галінках лясной прыгажуні цацкі не толькі з таго няхітрага прыроднага матэрыялу, які меў пад рукою Дзед Мароз, але і вясёлых лясных звяркоў, і шматлікіх казачных персанажаў, аўтамабілі і авіялайнеры, фантастычныя планеталёты... А дапамагаюць ім у гэтым добрыя чараўнікі, што працуюць на ўчастку шкляных ёлачных упрыгажэнняў Мінскай люстэркавай фабрыкі.

— Наш невялікі ўчастак,— расказвае старшы майстар Віктар Уладзіміравіч Пургін,— адзінае ў Беларусі прадпрыемства, якое вырабляе ёлачныя ўпрыгажэнні. І хоць для мяне і маіх таварышаў Новы год — круглы год, мы ўсё ж стараемся да кожнага навагодняга свята падрыхтаваць дзецям новыя цацкі. Сёлета, напрыклад, мы значна абнавілі асартымент такімі вырабамі, як «карусель», «рэпка», «радыска», «ледзяшы», «двухшаравая верхавіна з трыма пражэктарамі», шары «сняжынка», «матылёк», «вавёрачка», «Дзед Мароз», «Снягурка» і іншыя. Спадабаюцца дзецям і ёлачныя наборы «Зіма» і «Вясёлка» (у камплект уваходзяць 12—16 розных цацак). Пачалі таксама асвойваць выпуск набору на тэму казкі «Рэпка», распрацаванага адным з маскоўскіх інстытутаў.

— Скажыце, Віктар Уладзіміравіч, а хто прыдумвае новыя цацкі?

— Новыя ўзоры распрацоўвае для нас тэхнічны аддзел люстэркавай фабрыкі. Іншы раз мы капіруем лепшыя ўзоры цацак, якія выпускаюць ГДР, братнія рэспублікі, але часцей за ўсё новыя цацкі ствараюць самі шкловыдзімальшчыкі. Не так даўно, напрыклад, Яўгенія Антонаўна Цёрачкіна прапанавала выпускаць вельмі прыгожы шар-«рамонак», а Георгій Кіргет прыдумаў некалькі новых цацак — «грыбок», «снегавік», верхавіну для маленькай ёлачкі. Наогул жа, фантазія шкловыдзімальшчыкаў бязмежная,— Віктар Уладзіміравіч усміхнуўся і паказаў на падаконнік, дзе ў вазе, абліскваючы тонкімі шклянымі «вусікамі», стаялі адмыслова зробленыя жытнёвыя каласы.— І планеталёт мы таксама можам зрабіць. Але справа ў тым, што наша прадукцыя надзвычай крохкая. Таму і даводзіцца пакуль што выпускаць тыя ўпрыгажэнні, якія можна транспартаваць.

Самы цікавы цэх на гэтай «фабрыцы радасці», вядома ж, шкловыдзімальны. Як нажом, разразаюць майстры шкляныя трубкі блакітным струменем агню газавай гарэлкі. Потым разаграваюць запаяную з аднаго боку шкляную «пульку» да пластычнага стану і праз тонкую трубачку (якраз, як мыльныя бурбалкі!) выдзімаюць рознага дыяметра «шары», «званочкі», «ледзяшы», складанай канструкцыі верхавіны... Спрытныя рукі майстра на вачах ствараюць цуд. А з плаката на сцяне, хітравата пасміхаючыся, пазірае на работу шкловыдзімальшчыкаў Дзед Мароз, быццам пытаецца: «Ну, а хто зробіць лепш за мяне?» У суседнім цэху працуюць паўаўтаматы, але ім давяраюць больш простую прадукцыю — «слонікаў», «рыбак», «шышкі», «будзільнікі», «памідоры», «лімоны», «лясныя хаткі»,— бо ніводзін аўтамат не можа замяніць чуйныя чалавечыя рукі, гэтак дакладна, як чалавек, адчуць стан шкла і ўбачыць у разагрэтай да чырвані масе абрысы новага твора.

Народжаная ў полымі прадукцыя паступае ў вакуумную камеру, дзе «шарыкі», «ледзяшы» і «званочкі», пакрыўшыся алюмініевым пылам, становяцца «сярэбранымі». Потым цацкі фарбуюць рознакаляровым лакам, азабляюць разнастайнымі малюнкамі і нават пасыпаюць, быццам снегам, бязважкім акрылатным парашком.

Лепш за ўсё прадукцыю ўчастка можна ўбачыць ва ўпаковачным цэху, дзе цацкі, акуратна абгортваючы ў мяккую паперу, складваюць у скрыні. Застаўлены скрынямі, даверху напоўненымі сінімі, чырвонымі, зялёнымі, аранжавымі шарыкамі, цэх нагадвае кладоўку Дзеда Мароза, дзе вочы літаральна разбягаюцца. Ужо заканчваючы наша невялікае падарожжа, ля выхада з цэха мы заўважылі скрыню з чырвонымі шарамі, на якіх прыгожымі літарамі было напісана: «З Новым годам!» Падумаць толькі, цэлая скрыня віншаванняў! А колькі іх яшчэ ўчастак вырабіць да канца года!..

Давайце і мы з вамі, дарагія чытачы, павіншуем з Новым годам працаўнікоў «фабрыкі радасці», пажадаем ім шчасця, добрага здароўя і новых працоўных поспехаў. А яшчэ пажадаем ім як мага хутчэй атрымаць доўгачаканы падарунак ад Міністэрства мясцовай прамысловасці БССР — новыя прасторныя і светлыя цэхі з сучасным абсталяваннем і ўласным канструктарскім бюро, дзе будуць працаваць гэткія ж, як і яны, улюбёныя ў сваю справу людзі.

**Навагодні рэпартаж вялі *Людміла* СУХАНАВА
і *Віктар* ГАНЧАРЭНКА (фота).**



Больш як 700 муляраў выхаваў за час работы ў ПТВ-57 будаўнікоў г. Віцебска В. Ф. Шасцітка. Васіль Фёдаравіч — член КПСС, заслужаны майстар прафтэхадукацыі БССР, узнагароджаны ордэнам Леніна.

Фота Уладзіміра БАЗАНА.

### ЖЭНЬШЭНЬ У ...ЗАВОДСКІМ КОРПУСЕ

Першы ўраджай жэньшэню атрыманы прамысловым метадам на Бабруйскім гідролізным заводзе. Па тэхналогіі, распрацаванай маскоўскімі вучонымі, заводскія ўмельцы стварылі ўчастак, дзе на штучна падрыхтаванай глебе пры дакладным рэжыме тэмпературы і вільготнасці нарошчваецца біямаса жэньшэню, якая па сваіх якасцях не ўступае тым актыўным рэчывам, што атрымліваюцца з таежнай расліны.

### НОВАНАРОДЖАНЫ СТАРАЖЫТНАГА ГРОДНА

У Гродне нарадзіўся 250-тысячны жыхар. Ім стаў сын токара завода гандлёвага машынабудавання Аляксандра Мікалаевіча Навумчыка і швачкі вытворчага аб'яднання «Хімвалакно» імя 60-годдзя СССР Святланы Іосіфаўны. За апошнія дваццаць гадоў насельніцтва Гродна павялічылася ў два з паловай раза.

### ВАКЗАЛ ДЛЯ СТАЛІЦЫ

Пачалася рэканструкцыя чыгуначнага вакзала Мінска. Пабудаваны ў 1871 годзе і ўшчэнт разбураны ў гады вайны, ён быў адноўлены ў 1944 годзе, але ў наш час яго будынак перастаў адпавядаць свайму назначэнню і па сваёй напружанай рабочай нагрузцы, і архітэктурна-мастацкаму значэнню як «уязной брамы горада». Новы будынак будзе адпавядаць апошнім дасягненням айчыннай архітэктуры і самым патрабавальным густам пасажыраў.

### НАВАСЕЛЛІ Ў КАЛГАСЕ

У вёсцы Астрамечава — цэнтральнай сядзібе калгаса-камбіната «Памяць Ільіча» Брэсцкага раёна — вялікае наваселле. На вуліцы Свабоды будаўнікі здалі каля сарака добраўпарадкаваных кватэр. Падрыхтавана да здачы ў эксплуатацыю яшчэ 17 катэджаў. Усяго па заказу калгаса-камбіната будаўнікі ўзводзяць у пасёлку 350 кватэр. На будаўніцтва цэнтральнай сядзібы гэтай буйной гаспадаркі асігнавана больш як дзесяць мільёнаў рублёў.

### ЁСЦЬ ПЛАНЕТА МІНСК!

Каля трох тысяч малых планет абарачаюцца вакол Сонца паміж арбітамі Марса і Юпітэра. Гэтыя астэроіды ўтвараюць цэлы пояс у Сонечнай сістэме.

Пастаяннае назіранне за зорным небам вядуць супрацоўнікі Інстытута тэарэтычнай астраноміі АН СССР і Крымскай астрафізічнай абсерваторыі.

Крымскімі астраномамі зроблены дзесяткі тысяч негатываў, адкрыта каля 300 малых планет. Ім прысвойваюцца імёны, якія рэгіструюцца ў Міжнародным планетным цэнтры (Кембрыдж, ЗША).

Нядаўна з цэнтра прыйшла вестка, што зацверджана назва планеты — Мінск. Ёсць у небе і такія планеты, як Беларусь і Хатынь, адкрытыя раней. Усе яны знаходзяцца на адлегласці соцень мільёнаў кіламетраў ад Зямлі.




Урачыста адзначылі жыхары Заслаўя 1000-годдзе свайго горада. У святкаванні ўдзельнічалі прадстаўнікі прамысловых прадпрыемстваў, працаўнікі сельскай гаспадаркі, інтэлігенцыя, школьнікі, госці з беларускай сталіцы.

□ На здымку: выступае фальклорны народны ансамбль «Крупіцкія музыкі» з калгаса «Новы быт» Мінскага раёна.

Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА.




□ Магілёўскі завод «Тэхнапрыбор» пачаў выпускаць робаты новага тыпу, якія па тэхнічных характарыстыках значна пераўзыходзяць сваіх папярэднікаў.

Фота Мікалая ЖАЛУДОВІЧА.

# РЫТМЫ ПЯЦІГОДКІ




**ЦЯПЕР ПЕРАД НАМІ СТАІЦЬ ЯК ПЕРШАЧАРГОВАЯ ЗАДАЧА — ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ВЫСОКУЮ АДДАЧУ АД УСЯГО ТАГО, ШТО МАЕ СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА, АГРАПРАМЫСЛОВЫ КОМПЛЕКС У ЦЭЛЫМ.**

**М. С. ГАРБАЧОЎ**
**(З выступлення на нарадзе партыйна-гаспадарчага актыву ў Цалінаградзе)**

# ...ГРАМАДОЙ

**Чым іншым, а ўрадлівасцю тутэйшыя палі ніколі не вызначаліся. Скупая, засмечаная ледніковым каменнем зямля. Сонца таксама не скажаш, каб занадта шчодрае. Лета кароткае, даждлівае. Прырода нібыта падказвае селяніну: хочаш быць з ураджаем — не марудзь, дзейнічай. Вось і спяшаюцца людзі. Спяшаюцца зазелянець, пакрыцца сакавітай рунню палеткі. Як не спяшацца, калі не, не дый прыпарушыць іх снегам у маі, а там ужо і да белых жнівеньскіх рос недалёка.**

**Спрадвеку нялёгкі хлеб здабывалі людзі на гэтай зямлі. Аб заможным жыцці толькі марылі. Рашучы крок да яго быў зроблены ў першы ж пасляваенны год, калі сяляне Вілейшчыны, гэтага занядбанага кутка былой Заходняй Беларусі, рашылі выбівацца з галечы не кожны паасобку, а ўсе разам, грамадой. І аб'ядналіся для калектыўнага вядзення гаспадаркі.**

**Аб тым, колькі яны здалі мяса і малака дзяржаве ў першы свой год, звестак не захавалася. Аднак лёгка ўявіць сабе, якія-такія малочныя рэкі маглі цячы з Вілейшчыны, калі жывёлы кожны калгас меў тады ў сярэднім усяго па трыццаць галоў. Гэта, калі лічыць усю разам — і буйную рагатую, і коней, і авечак з козамі, і нават парасят. На што яшчэ маглі разлічваць калгаснікі? На два невялічкія даваеннага выпуску трактары, два прычапныя плугі, адзін лушчыльнік глебы і дыскавую барану. Столькі тэхнікі на ўвесь раён мела створаная ў тыя гады Куранецкая МТС.**

**А вось і першае, занатаванае ў раённых аналах дасягненне калгаснікаў. У 1950 годзе яны атрымалі па 9,3 цэнтнера зерня і 82 цэнтнеры бульбы з кожнага калгаснага гектара. Па тым часе такімі паказчыкамі можна было ганарыцца.**

**Прайшлі гады, і не пазнаць сёння вёску. Змяніўся не толькі яе знешні выгляд, істотныя перамены адбыліся і ў сельскагаспадарчай вытворчасці. Зараз адных толькі трактароў — ды не якіх-небудзь, а энерганасычаных К-700 і Т-150К, манеўраных МТЗ-80 і МТЗ-82 — на палетках Вілейскага раёна працуе каля паўтысячы. Малочныя статкі калгасаў і саўгасаў налічваюць па дзве з паловай — тры тысячы кароў кожны. Узрасла аддача палёў. Значны крок наперад зрабілі гаспадаркі раёна за гады адзінаццатай пяцігодкі, і тэма гэта, канечне ж, заслугоўвае асобнай размовы.**

**Аднак не дзеля таго, каб хваліцца дасягненнямі, сабраліся за «круглым сталом» часопіса «Беларусь» першы сакратар Вілейскага гаркома партыі Кузьма Кузьміч ДЗЯГІЛЕЎ, намеснікі старшыні савета раённага аграпрамысловага аб'яднання Міхаіл Мікалаевіч КУЛЕШ і Мікалай Канстанцінавіч НАРКЕВІЧ, кіраўнік раённай Сельгастэхнікі Валерый Уладзіміравіч ГАРЭЛІК, старшыня райаб'яднання Сельгасхіміі Валерый Аляксандравіч ІГНАТАЎ, дырэктар саўгаса «Вілейскі» Дзмітрый Аляксандравіч МАРКЕВІЧ, старшыня калгаса «Світанне» Раман Іванавіч ДОРСКІ.**

**Ішла дзелавая, зацікаўленая гаворка аб надзённых праблемах сённяшняй вёскі, аб шляхах далейшага ўдасканалення сельскагаспадарчай вытворчасці. У ёй прынялі таксама ўдзел загадчык сектара арганізацыі кіравання Беларускага навукова-даследчага інстытута эканомікі і арганізацыі сельскай гаспадаркі, кандыдат эканамічных навук Аляксандр Іванавіч КРУПІЧ, дырэктар эксперыментальнай базы «Русінавічы» Мінскага раёна Віктар Васільевіч ЦІСЕЦКІ, адзін з аўтараў тэлевізійнага фільма «Кантрольны варыянт «Вілія», каментатар Дзяржтэлерадыё БССР Уладзімір Аляксандравіч БЛАХІН, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Беларусь» паэтэса Таіса Мікалаеўна БОНДАР і рэдактар аддзела нарыса часопіса пісьменніца Ніна Васільеўна МАЕЎСКАЯ.**

**БОНДАР.** Яшчэ нашых бацькоў засталі часы, калі праца на зямлі была звязана з вялікай рызыкай. І не чым-небудзь — сваім дабрабытам, часам нават жыццём рызыкаваў селянін. Здарыцца неўрадлівае лета, застанецца без хлеба — хто дапаможа? Адсюль — адказнасць перад сям'ёй, полем, уласным сумленнем. Немалаважным было і тое, што людзі скажуць. Не пашчыруеш на зямлі-карміцельцы — ганьба! Цяпер жа рызыкі амаль ніякай. За севазвароты адказвае навука, за тое, калі сеяць, жаць,— начальства. Чытаеш артыкулы ў друку, размаўляеш з людзьмі, і іншы раз такое складваецца ўражанне, быццам больш балючай праблемы, чым праблема абыякавасці, нядбайнасці работнікаў, у нас няма. Вось і нядаўна знаёмы старшыня калгаса скардзіўся мне на аднаго свайго не надта свядомага механізатара, які жыве па прынцыпу: мая хата з краю. Адсеяўся — заплаці яму, не марудзь, унёс угнаенні, зжаў — зноў за свежай капейкай бяжыць. А што там зжаў, які ўраджай сабраў — аб тым няхай у старшыні галава баліць. Грошы ў кішэні — не прападзе. Было б, канечне, кашчунствам шкадаваць, што мінулі і ніколі ўжо не вернуцца тыя часы, калі, перабіваючыся з хлеба на квас, ледзь дацягваў селянін да новага ўраджаю. Добра, што даўно ўжо не пагражаюць яму колішнія беды, бо кожны цяпер не сам па сабе на зямлі шчыруе, а ў грамадзе, і грамада гэта расце: сёння мы ўжо гаворым не пра асобныя гаспадаркі, а пра аграпрамысловыя аб'яднанні, аграпрамысловыя комплексы. Аднак ёсць моманты, якія насцярожваюць. Матэрыяльна-тэхнічная база калгасаў і саўгасаў новымі трактарамі, камбайнамі, машынамі, вытворчымі памяшканнямі пастаянна ўмацоўваецца, капіталаўкладанні ў сельскую гаспадарку кожны год павялічваюцца, а вытворчасць прадукцыі ад гэтага расце далёка не так, як разлічваем — зусім не прапарцыянальна ўкладанням. Вось і хочацца задаць пытанне: ці не губляюць людзі (а, можа, ужо згубілі?) адказнасць за вынікі сваёй працы, тую самую спрадвечную адказнасць перад сваёй зямлёй, якая трымае, як кажуць, дух у целе. Можа страцілі гэта пачуццё людзі, і штосьці, як вада на дне калодзежа, перасохла ў душы. Перасыхаюць жа вясковыя студні пасля бяздумнага асушэння вярховых балот і выраўноўвання малых рачулак. Ці не таму расце сабекошт прадукцыі палёў і ферм, што мала калі яшчэ пытаюцца ў селяніна, як той сабекошт знізіць? Ці не таму зніжаецца фондааддача, што не заўсёды запрашаюць яго ўдзельнічаць у вырашэнні тых пытанняў, ад якіх залежыць лёс ураджаю?

**ДЗЯГІЛЕЎ.** Столькі пытанняў, што хоць ты адсылай іх Акадэміі навук. Але ж варта мусіць і нам самім падумаць над сваімі ўласнымі праблемамі. Не таму, што дагэтуль нам і ў галаву не прыходзіла над імі задумвацца — якраз у гэтым нас, я думаю, ніхто абвінаваціць не можа,— а па той простай прычыне, што сёння мы можам абмеркаваць іх не ў сваім вузкім коле, а разам з чытачамі часопіса «Беларусь», якія, я ўпэўнены, адгукнуцца на наш «круглы стол». Адкуль такая ўпэўненасць? Вопыт партыйнай работы падказвае. Праблемы сяла сёння нікога не пакідаюць абыякавым... Па-першае, хацеў бы ўдакладніць наконт рызыкі. Дарэмна вы, Таіса Мікалаеўна, лічыце, што гаспадаранне на зямлі сёння справа «безрызыкоўная». Рызыка застаецца, і немалая. Не навучыліся мы яшчэ, на вялікі жаль, працаваць, не звяртаючы ўвагі на надвор'е. Ёсць, канечне, і ў нас спраўныя гаспадаркі, кіраўнікі якіх пасмейваюцца сабе ў вус, калі гаворка заходзіць пра надвор'е: у суседзяў, маўляў, яно, можа, і дрэннае, а ў мяне дык не нарадуюся — і цяпла ўволю, і дожджычку — у меру, якраз столькі, колькі трэба. Але ж, згадзіцеся, не так ужо й шмат у нас такіх незалежных, у добрым сэнсе саманадзейных гаспадароў. Пакуль што не яны, прабачце за каламбур, робяць надвор'е. Так што рызыка пакуль застаецца. Для селяніна, вядома, гэта ўжо зусім не тая рызыка. У заўтрашнім дні ўпэўнены кожны. Іншая справа — адказнасць за вынікі сваёй працы. Тут і сапраўды людзі не заўсёды спадзяюцца не тое што адзін на аднаго, а бывае і на саміх сябе. Глыбокі аналіз гэтай з'явы рабіць не бяруся, але павінен заўважыць: не варта, відаць, ідэалізаваць мінуўшчыну, кажучы, што вось было пачуццё адказнасці ў людзей, а потым раптам некуды знікла. Працаўнікі, што балеюць душой за агульную справу, за грамадскі інтарэс, былі раней, і цяпер — іх большасць. Гэтак жа, як былі і, на жаль, сустракаюцца сёння тыя, хто лічыць за лепшае корпацца ў сваім уласным агародчыку і з-за ўласнага паркана свету белага не бачыць. Я ўжо не кажу пра гультаёў і абібокаў. Гэтыя таксама не перавяліся. Але ж несправядліва будзе казаць, што апошніх стала больш, што працавітыя людзі аказаліся ў меншасці. Само жыццё паказвае, што гэта не так. Хіба можна з гультаяватымі людзьмі выконваць нашы грандыёзныя планы, здзяйсняць велічныя задумы? Канечне, ёсць і людзі раўнадушныя, або, як іх яшчэ называюць, абыякавыя. Але і тут я вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што нават у самага, на першы погляд, раўнадушнага чалавека баліць душа. Не можа яна не ба-









**На здымках (злева направа): К. К. Дзягілеў, Т. М. Бондар, Н. В. Маеўская, В. У. Гарэлік, А. І. Крупіч, Д. А. Маркевіч, В. В. Цісецкі, В. А. Ігнатаў.**





лець за агульную справу. Не можа такога быць, каб не хацелася яму жыць лепей, чым ён жыве. А паколькі дабрабыт свой падымаем усе разам, грамадой, дык чаму б яму не жадаць, каб як мага хутчэй спраўдзілася тое, аб чым марым, на што накіроўваем свае намаганні? Баліць у любога душа, калі, на яго думку, нешта не так робіцца. Іншая справа, што часта гэты боль так і застаецца нявыказаным, маўклівым. І пытанне ў тым, як абудзіць гэтага абыякавага з выгляду, раўнадушнага чалавека да пэўных спраў і ўчынкаў. Актыўная жыццёвая пазіцыя — вось што нам сёння патрэбна. Каб адкрыта, уголас выказвалі людзі свае думкі, крытыкавалі недахопы і свядома прыкладалі намаганні для іх выкаранення.

**МАЕЎСКАЯ.** Як жа нам дабіцца таго, каб людзі так вось чуйна, без усялякай аглядкі рэагавалі на ўсё, што тычыцца іх працы, жыцця?

**ЦІСЕЦКІ.** Дзеля гэтага я, у першую чаргу, ведаеце, ад чаго пазбаўляцца заклікаў бы? Ад «ведамаснай крытыкі».

**МАЕЎСКАЯ.** «Ведамасная крытыка?» Што гэта такое?

**ЦІСЕЦКІ.** Лічыцца, што крытыка толькі тады бывае кампетэнтнай, а, значыць, і канструктыўнай, калі крытыкуе спецыяліст. Ты аграном — ну і змагайся за свае севазвароты, крытыкуй, пераконвай. Тут цябе і ў раёне, і нават у вобласці могуць выслухаць. А калі ты ніякі не спецыяліст, проста працуеш на зямлі, калі не паспеў яшчэ за працу ордэн атрымаць, дык паспрабуй, знайдзі гэткія словы, каб да тваёй парады прыслухаліся. Не надта прыслухоўваюцца. А дарэмна. Сачу за «Літаратурнай газетой». Час ад часу з'яўляецца ў ёй такая рубрыка: «Калі б я быў дырэктарам». Карысная рубрыка. Іншая прапанова знізу на першы погляд, можа, і наіўная, а разбярэшся з ёй — у самую кропку трапляе.

**ДЗЯГІЛЕЎ.** А, можа, усё ж, Віктар Васільевіч, не будзем пазбаўляцца ад «ведамаснай крытыкі», можа, няхай яны мірна суіснуюць — «ведамасная» і «пазаведамасная»?

**ЦІСЕЦКІ.** Я за мірнае суіснаванне.

**БЛАХІН.** «Ведамасная крытыка», «ведамасны кантроль»... А чаму мы маўчым пра кантроль грамадскі? Незалежны ад ведамаснага інтарэсу, ён куды больш дзейсны. А значыць, ёсць упэўненасць, што будуць гарантаваны не групавыя ці няправільна зразуметыя дзяржаўныя інтарэсы, а сапраўды агульныя, грамадскія. Грамадскі кантроль, на маю думку,— якраз той плацдарм, на якім можа і павінна фарміравацца актыўная жыццёвая пазіцыя людзей.

**КРУПІЧ.** Давайце канкрэтызуем, што і каго мы ўсё-такі збіраемся кантраляваць. Я, напрыклад, прапанаваў бы ўзмацніць кантроль за мерай працы і спажывання. Справа ў тым, што агульны ўзровень дабрабыту ў нас зараз знаходзіцца на такім узроўні, што гэта прывяло да парадаксальнай сітуацыі: адпала неабходнасць напружана працаваць дзеля таго, каб мець сродкі для існавання. Мала таго: рэальнай стала магчымасць працаваць дрэнна і, нягледзячы на гэта, зусім нядрэнна жыць. Прычым, здараецца — і не так ужо рэдка — гэтак жывуць цэлыя калектывы. Я маю на ўвазе калгасы, саўгасы, прадпрыемствы і іншыя арганізацыі, якія настолькі прывыклі да бюджэтных ін'екцый, што часта і не ўяўляюць ужо свайго існавання без датацый.

**НАРКЕВІЧ.** Ну, я разумею, калі там недзе адзін чалавек акажацца гультаём. А вось цэлы калектыў гультаёў, прабачце, не ўяўляю.

**КРУПІЧ.** Відаць, не ў калектыве тут справа, а ў тых недасканалых эканамічных умовах, у якіх яму даводзіцца дзейнічаць і якія не даюць прасторы для разгортвання ініцыятывы яго членаў. Урэшце, гэта справядліва і ў адносінах да аднаго чалавека. Чаму б не паставіць яго ў такія эканамічныя ўмовы, каб яны выключалі ўжо саму магчымасць дрэнна працаваць і пры гэтым жыць прыпяваючы.

**НАРКЕВІЧ.** Тут і сапраўды павінен быць жорсткі кантроль. Прычым сродкамі адміністрацыйнага парадку бадай што не абыдзешся, таму што ў такім выпадку, калі ўжо быць да канца паслядоўным, трэба над кожным кантралёрам ставіць яшчэ аднаго. Выходзіць, што і сапраўды нічога не застаецца, як толькі актывізаваць кантроль з боку грамадства.

**КРУПІЧ.** Грамадскі кантроль у нас дзейнічае, я б сказаў, дастаткова актыўна. Прапановы, заўвагі, крытычныя выступленні народных кантралёраў друкуюцца ў газетах, гучаць з трыбуны сходаў, па радыё і тэлебачанні. Але настолькі складаным стаў сёння наш гаспадарчы механізм, столькі ў ім розных вінцікаў, шасцярэнек, так у ім усё ўзаемазвязана, хітра сплецена, што нават пазаведамасны грамадскі кантроль тут часта бывае бяссільным. Тым больш, што ў ролі кантралёраў, як ужо тут было сказана, выступаюць у гэтым выпадку ў асноўным не спецыялісты, а дылетанты.

**БЛАХІН.** Не дылетанты, а людзі, у якіх за агульную справу баліць душа, у адрозненне ад тых, у каго яна зачарсцвела.

**КРУПІЧ.** Інтуіцыя, а тым больш эмоцыі ніколі не заменяць веды, вопыт. А ён падказвае, што сёння ні грамадскі, ні, тым больш, адміністрацыйны ведамасны кантроль за дзейнасцю гаспадарчага механізма нас ужо задаволіць не могуць. Яны ўжо не спраўляюцца. Возьмем да прыкладу сельскую гаспадарку. З таго часу, як узніклі калгасы, суадносіны паміж адміністрацыйнымі і эканамічнымі метадамі кіраўніцтва гэтай галіной амаль што не мяняліся. Адміністрацыйныя па-ранейшаму пераважаюць. А патрэбен менавіта эканамічны інструмент, прычым інструмент універсальны, які б забяспечыў аўтаматычнае, без усялякіх каманд і валюнтарысцкіх рашэнняў, функцыяніраванне, ну, скажам, таго ж аграпрамысловага комплексу на ўзроўні раёна, вобласці, рэспублікі, краіны.

**БЛАХІН.** Аўтаматычнае, кажаце. Спакуслівая ідэя. Асабліва для дрэнных кіраўнікоў. Запусціў гаспадарчы механізм, і няхай сабе ў адпаведнасці з эканамічнымі законамі круцяцца яго шасцярэнькі, а кіраўніку застанецца толькі рукі пацірадь.

**КРУПІЧ.** Дарэмна вы іранізуеце. Якраз для нядбайных работнікаў такая сістэма і нявыгадная. Яна ж створыць умовы, пры якіх дынамічныя, смелыя кіраўнікі змогуць без усялякіх перашкод праявіць свае лепшыя якасці — ініцыятыву, прадпрымальнасць. Гэта людзі кваліфікаваныя, энергічныя, якія імкнуцца да поўнай самарэалізацыі ў працы, адчуваюць, што пры адпаведных умовах маглі б лепш працаваць і больш цікава жыць. Такія работнікі будуць заўсёды ў выйгрышы. А прайграюць тыя, хто такімі якасцямі не валодае. Якраз гэтыя людзі як агню баяцца ўскладнення абавязкаў, павышэння патрабаванняў, неабходнасці перавучвацца, мяняць стыль работы. Універсальны эканамічны інструмент, аб якім мы гаворым, і павінен стварыць такую зваротную сувязь паміж вынікамі працы і становішчам кіраўніка, пры якой недахопы кіраўніцтва як мага хутчэй станавіліся б відавочнымі, і тыя, хто не ўмее кіраваць, не затрымліваліся б «ля руля».

**ДОРСКІ.** Паколькі інструмент гэты універсальны, то і ўздзейнічаць ён павінен не толькі на кіраўнікоў, але і на радавых работнікаў, на ўвесь народнагаспадарчы механізм.

**КРУПІЧ.** Вядома.

**МАЕЎСКАЯ.** Скажыце нам, нарэшце, што гэта за інструмент такі цудоўны.

**КРУПІЧ.** Вядома ж, гаспадарчы разлік. Ён умацоўвае адказнасць працоўных калектываў за вынікі работы, пашырае самастойнасць прадпрыемстваў. Звернемся зноў да практыкі сельскагаспадарчай вытворчасці. Тут мала стварыць матэрыяльную базу. Трэба яшчэ так ар-














ганізаваць працу людзей, каб і сельская гаспадарка, гэтак жа, як і іншыя галіны, давала ўстойлівы прыбытак, а не толькі паглынала капітал.

**БОНДАР.** Ну, і як жа адчувае сябе гаспадарчы разлік у Вілейскім аграпрамысловым аб'яднанні?

**КУЛЕШ.** Летась на яго былі переведзены восем гаспадарак раёна. Сёлета ўжо ўсе калгасы і саўгасы Вілейшчыны вядуць вытворчасць па прынцыпу самаакупнасці. Усе работнікі, пачынаючы з кіраўнікоў гаспадарак, атрымліваюць грошы за канчатковую прадукцыю палёў і ферм, прададзеную дзяржаве. Думаю, старшыня калгаса «Світанне» больш красамоўна можа расказаць пра гаспадарчы разлік, паколькі ён на сабе адчуў, што гэта такое.

**ДОРСКІ.** Была такая справа — некалькі месяцаў у мінулым годзе атрымліваў урэзаны аклад. Шчыра скажу: калі б гэта быў звычайны штраф (а з нас, кіраўнікоў, іншы раз па акладу, а то і па тры здымаюць), крыўдна было б. Цяпер не пакрыўдуеш. Эканамісты на лічбах і фактах паказваюць, дзе мінусуем, нясём неапраўданыя страты, дакопваюцца да памылак, даказваюць, па чыёй віне яны дапушчаны. Ну, а ўжо хто памыліўся — таму спуску не даюць. Даводзіцца плаціць. Крыўдаваць няма калі, трэба выпраўляць становішча.

**КУЛЕШ.** Зазначу, што калгас «Світанне», якім кіруе Раман Іванавіч, не якая-небудзь адсталая гаспадарка, а адна з лепшых у раёне. На Вілейшчыне, хачу падкрэсліць, наогул не стала ў апошнія гады нерэнтабельных калгасаў і саўгасаў, ёсць слабейшыя і ёсць мацнейшыя, але ўсе даюць прыбытак. Важна тое, што гаспадарчы разлік і перадавікоў прымушае адшукваць і выкараняць недахопы, уключаць усе рэзервы, не кажучы ўжо пра тых, каму тэрміновa патрэбна паляпшаць свае паказчыкі.

**МАРКЕВІЧ.** Ой, не скажыце, Міхаіл Мікалаевіч, не скажыце. Не заўсёды так яно бывае, як вам таго хочацца. Узяць хоць бы той жа гаспадарчы разлік. Згодзен з вамі ў тым, што ягоны механізм павінен арыентаваць калгасы і саўгасы на дасягненне высокіх канчатковых вынікаў, згодзен, што аслабленне гаспадарчага разліку непазбежна параджае ўтрыманскія тэндэнцыі. Але паглядзіце, што адбываецца, калі мы плануем усе нашы заданні ад дасягнутага ўзроўню (а менавіта такой сістэмы планавання мы даўно ўжо прытрымліваемся, і нешта не бачна, каб збіраліся ад яе адмаўляцца). Стымуляванне сельскагаспадарчай вытворчасці вядзецца, зыходзячы з сярэднегадавога ўзроўню, дасягнутага за папярэднія пяць гадоў. Ці зацікаўлены ў такім выпадку гаспадаркі ў тым, каб пераўзысці ўзровень мінулых гадоў? На першы погляд, здаецца, зацікаўлены. За гэта і прэміі і пашана. А цяпер пастаўце сябе на месца кіраўніка гаспадаркі і задайце самому сабе пытанне, як атрымаць вялікую прэмію ў будучым? Адказ доўга шукаць не трэба, ён ляжыць на паверхні. Самы лёгкі шлях — не надта «ўпірацца» сёння і такім чынам спакваля рыхтаваць сабе лёгкі старт да будучых прэмій. Тут усё можа пайсці ў ход. Нават неўрадлівыя гады становяцца знаходкай. На іх спісваюць і меншую ўраджайнасць палёў, і нізкую прадуктыўнасць жывёлы. Бяда ўся ў тым, што пры планаванні ад дасягнутага стымуляванне працы вядзецца незалежна ад таго, за кошт якіх фактараў забяспечваецца прырост прадукцыі і прыбытку. Тыя гаспадаркі, якія раней недастаткова выкарыстоўвалі свае рэзервы і рэсурсы, ва ўмовах існуючага цяпер прынцыпу стымулявання спакойна сабе могуць з меншымі намаганнямі забяспечыць паскарэнне тэмпаў росту і атрымліваць больш надбавак, чым тыя калгасы і саўгасы, якія ў гэтай пяцігодцы выкарыстоўвалі свае рэсурсы з максімальнай эфектыўнасцю. Парадаксальна, але факт: той, хто напружана працуе сёння, заўтра будзе мець меншыя стымулы ў параўнанні з тым, хто здолее прыхаваць свае рэзервы.









**МАЕЎСКАЯ.** Дык гэта ж ашуканства, іншага слова тут і не падбярэш. Ашуканства дзяржавы, грамадства, нас з вамі.

**МАРКЕВІЧ.** На мой погляд, стымуляваць трэба, зыходзячы не з дасягнутага за апошнія пяць гадоў узроўню, а за максімальнае выкарыстанне ўсіх рэсурсаў гаспадаркі — тых, што ў яе ёсць у наяўнасці, і новых, выдадзеных дзяржавай. Высокія надоі, прыбаўкі ў вазе яшчэ не поўнасцю характарызуюць узровень гаспадарання. Не менш важна ведаць, якія выдаткі за гэтымі цэнтнерамі і тонамі, колькі ў іх вытворчасці ўдзельнічала людзей і тэхнікі, ці шмат патрачана кармоў, гаручага, угнаенняў, электраэнергіі. Тут, канечне, патрэбен карпатлівы, самы што ні на ёсць дакладны падлік усяго таго, што кожная гаспадарка мае, строгая інвентарызацыя фондаў. Тады гэта будзе сапраўдны гаспадарчы разлік на строгім нарматыўным узроўні. З вопыту нашай гаспадаркі, саўгаса «Вілейскі» відаць: многага можна дасягнуць, многія былыя прарэхі закрыць, калі ўсе, ад кіраўнікоў да рабочых, будуць зацікаўлены ў эканомным гаспадаранні. Тут мы разлічваем на калектыўны падрад.

**ЦІСЕЦКІ.** Стварэнне безнарадных брыгад і перавод іх на гаспадарчы разлік само па сабе яшчэ не гарантуе поспеху. Арганізаваць брыгаду не такая ўжо цяжкая справа, галоўнае — стварыць ёй умовы для высокапрадукцыйнай працы, даць шырокую гаспадарчую самастойнасць. На жаль, часта яшчэ ўзаемаадносіны кіраўнікоў з такімі калектывамі будуюцца па прынцыпу: «Вам загадана — выконвайце!» Не сама брыгада вызначае для сябе тэрміны работ, зыходзячы з мясцовых умоў і абставін, а часцей за ўсё ёй навязваюць нечыя, часта непрадуманыя рашэнні. Да чаго гэта вядзе? У выпадку якой-небудзь няўдачы брыгадзір апраўдаецца тым, што ён, маўляў, выконваў загад зверху. Відавочна, што ў такім выпадку адказнасць за вынікі працы зніжаецца, а пра творчыя адносіны да справы і гаворкі не можа быць.

**МАРКЕВІЧ.** У дагаворы калектыўнага падраду, які заключае дырэкцыя саўгаса ці праўленне калгаса з гаспадарчаразліковым падраздзяленнем, трэба абавязкова агаварыць такія ўмовы: калі рэкамендацыі, напрыклад, галоўнага спецыяліста не адпавядаюць тэхналогіі, якую выконвае вытворчае падраздзяленне, але галоўны спецыяліст настойвае на сваёй рэкамендацыі, трэба прадугледзець матэрыяльную адказнасць гэтага спецыяліста. Рублём можна пакараць, можна і аддзякаваць. Калі рэкамендацыя адмоўна адбілася на выніках працы брыгады, трэба зрабіць на спецыяліста налік, і, наадварот, заахвоціць, у выпадку, калі яго ўмяшанне прынесла добры плён.

**ДОРСКІ.** У нас такая сістэма дзейнічае, і, ведаеце, куды дзеліся аматары камандаваць. Добра было б у такія ж умовы паставіць і розных упаўнаважаных з вышэйшых інстанцый. Тады яны таксама перад тым, як даваць рэкамендацыі, калі араць-сеяць, што сеяць, калі жаць, сем разоў адмералі б... Вяртаючыся да нашай размовы пра гаспадарчы разлік, хачу падкрэсліць: тут вельмі важна ўмела спалучаць меры маральнага і матэрыяльнага заахвочвання, не шкадуючы, плаціць людзям за шчырую працу. У нашым калгасе, напрыклад, сярэднямесячны заробак жывёлаводаў складае 177 рублёў. Даяркі ж, якія надойваюць па тры з паловай — чатыры тысячы літраў малака ад кожнай каровы, атрымліваюць і па 260, і па 280 рублёў у месяц. Пры такім дыяпазоне зарплаты, а мы яго мяркуем яшчэ больш пашырыць, прыклад перадавікоў выглядае даволі пераканаўча. Калі ж стымулы адсутнічаюць, ці яны недастатковыя, людзям становіцца выгадна працаваць, эканомячы сілы на калгаснай ферме, затое ўдарна, не шкадуючы сябе, завіхацца ў сваім індывідуальным кароўніку. Выгада пераважае нявыгаду — вось вам гаспадарчы разлік у чыстым выглядзе.

**ДЗЯГІЛЕЎ.** Нам з вамі такую яго форму браць на ўзбраенне, відаць, не варта. Лепш будзем думаць над тым, як, не стрымліваючы ініцыятывы людзей, ствараць спрыяльныя ўмовы для далейшага развіцця калектыўнага падраду. Так, як гэта робяць, напрыклад, у саўгасах «Любань», «Стайкі», «Беларускі», калгасах «Світанне», «Ленінскі камсамол», «Чырвоны сцяг», «Зара», «Праўда», імя Леніна і некаторых іншых гаспадарках нашага раёна, дзе за брыгадамі замацоўваецца зямля ў рамках поўнага севазвароту і неабходная для яе апрацоўкі тэхніка, пастаўляюцца неабходныя матэрыялы і рэсурсы. Чаму мы замацоўваем за брыгадамі севазварот, а не асобныя культуры? Ды для таго, каб зрабіць механізатара гаспадаром зямлі, каб пачуццё гэта — пачуццё гаспадара — можна было канкрэтызаваць рэальным полем, якое брыгада атрымлівае не для якога-небудзь аднаго рабочага працэсу на адзін сезон, а для поўнага цыкла абслугоўвання на некалькі гадоў. Адказнасць за поле, за зямлю падмацоўваецца мэтанакіраванасцю вытворчасці на канечны прадукт, на высокую эфектыўнасць і якасць работы. Як вынік — у падрадных калектывах многіх гаспадарак рост вытворчасці адбываецца выключна за кошт павышэння прадукцыйнасці працы, свядомых, добрасумленных адносін людзей да сваіх абавязкаў. Вось гэта больш за ўсё і радуе — тое, што ўдалося абудзіць у людзях любоў да зямлі. Сёння ўжо многія палі замест нумарнога знака севазвароту носяць імёны людзей, якія сталі іх сапраўднымі гаспадарамі. І ніхто не здзіўляецца, калі мы гаворым аб палях брыгадзіраў Казіміра Юркевіча, Эдуарда Клентака, іншых майстроў высокіх ураджаяў, імёны якіх добра вядомы на Вілейшчыне. Зацікаўленасць асабістая ў падрадным падраздзяленні рэалізуецца праз зацікаўленасць калектыўную, зацікаўленасць усёй брыгады. І такая ўзаемасувязь мае вялікую сацыяльную і выхаваўчую каштоўнасць. Пры новай форме арганізацыі працы — там, дзе яна сапраўды арганізавана па-новаму, — складваюцца зусім іншыя адносіны паміж кіраўнікамі гаспадаркі і брыгадай, паміж самімі ўдзельнікамі падраду.

**НАРКЕВІЧ.** Шляхі павышэння эфектыўнасці шукаюць таксама нашы эканамісты. Для ўмацавання гаспадарчага разліку мы ў дванаццатай пяцігодцы мяркуем укараніць у калгасах і саўгасах раёна чэкавую сістэму аператыўнага кантролю затрат, размеркавання фонду матэрыяльнага заахвочвання ў залежнасці ад якасных паказчыкаў. Справа ў тым, што зараз работнікі ферм, загадчыкі, брыгадзіры, як правіла, не ведаюць, як у іх складваюцца справы з лімітамі на зарплату, кармы для жывёлы, гаручае, іншыя матэрыяльныя рэсурсы. Толькі раз у год, калі ў бухгалтэрыі складаецца план-справаздача, можна даведацца аб эканоміі ці перарасходзе сродкаў. Адсюль і адсутнасць дзейснай паўсядзённай барацьбы за іх эканомію, што, канечне, не можа не падрываць гас-

падарчы разлік. Цяпер усе прамыя затраты будуць запісвацца ў чэкавую кніжку, і брыгадзір сам будзе разлічвацца з іншымі гаспадарча-разліковымі калектывамі за паслугі, сам падаб'е рахунак і ў любы момант будзе мець дакладнае ўяўленне аб наяўнасці тых ці іншых сродкаў.

**МАЕЎСКАЯ.** Гаворачы аб важнасці ўмацавання гаспадарчага разліку, хацелася б спыніцца яшчэ вось на чым. Добра, што эканамічныя службы пачалі супастаўляць ураджайнасць палёў і прадукцыю ферм з рэальна патрачанымі на вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі матэрыяльнымі і працоўнымі рэсурсамі. Але вось каб яны яшчэ і суадносілі рэалізаваны гаспадаркамі канечны прадукт з захаваным, грыш для калгасаў і саўгасаў — сотні тысяч рублёў. А галоўнае — ліквідавалі страты прадукцыі. Тое ж можна сказаць і пра цэнтралізаваны вываз жывёлы. Раней, стоячы ў чэргах на мясакамбінаты, гублялі тысячы тон прадукцыі. Цяпер і тут страт стала значна менш.

**ІГНАТАЎ.** Чаго не скажаш пра лён. Хоць і тут савет РАПА спрабаваў навесці парадак. Раней мы вазілі здаваць лён у Пухавічы, а бывала, што нават у Слуцк. Уяўляеце, што значыць вазіць лён у Слуцк з Вілейкі? Што ні кіламетр — то рубель накладных выдаткаў на кожны цэнтнер прадукцыі. Вось і пастанавіў савет РАПА: пабудаваць ільнопрыёмную пляцоўку прама на месцы, у Вілейцы. І пабудавалі. Ды толькі нядоўга радаваліся. Пляцоўку тую









было б зусім выдатна. Таму што менавіта на дыстанцыі ад вытворчасці да спажыўца мы маем вельмі вялікія страты, якія часцей за ўсё з надзвычайнай лёгкасцю спісваюцца на сабекошт прадукцыі нават без спробы выявіць вінаватых. Страты між тым такія сур'ёзныя, што яны, здараецца, пераважаюць увесь прырост вытворчасці. У Вілейскім раёне, пэўна, нешта робіцца для таго, каб пазбавіцца ад такіх страт?

**ГАРЭЛІК.** Прадухіленне іх — адна з галоўных задач нашага раённага аграпрамысловага аб'яднання. Прывяду такі прыклад. Раней сапраўднай праблемай было даставіць малако з гаспадарак у райцэнтр на малаказавод. Асабліва з далёкіх ферм. Бывала, пакуль давязуць прадукцыю па нашых дарогах — яна ўжо ні на што не вартая, сапсавалася ўся. Да таго ж малаказвозы выкарыстоўваліся ў гаспадарках крайне нерацыянальна — усяго па некалькі гадзін у дзень. Была яшчэ адна праблема: рознагалоссі пры вызначэнні тлустасці малака. На заводзе пры прыёмцы яе чамусьці заўсёды заніжалі. Узнікалі ўзаемныя прэтэнзіі, спрэчкі, непаразуменні. Шмат гадоў вялася ў раёне размова аб укараненні цэнтралізаванага вывазу малака, а справа стаяла на месцы. Рашыць гэту праблему здолелі толькі пасля стварэння раённага аграпрамысловага аб'яднання. Па-першае, трэба было адрамантаваць пад'езды да ферм. На гэта выдзелілі грошы з цэнтралізаванага фонду развіцця вытворчасці, куды адлічваюць сродкі партнёры па РАПА. Затым, па прапанове савета раённага аграпрамысловага аб'яднання, гаспадаркі заключылі дагаворы з Райсельгастэхнікай, якая адказвае цяпер за бездакорную работу халадзільных установак на фермах і якасць ахаладжанага малака. Пасля гэтага сабралі ўсе малаказвозы і стварылі раённую службу цэнтравывазу. Дзякуючы гэтаму амаль усё малако рэалізуецца цяпер першым гатункам. Выйў нас амаль што адразу ж забралі і нават дзякуй не сказалі. Міністэрства лёгкай прамысловасці пасадзіла сваіх прыёмшчыкаў — здавайце. Ну мы і здаём. Год здаём, два гады, тры... А прадукцыю не вывозяць. Сабралася на прыёмнай пляцоўцы ўжо некалькі тысяч тон ільнотрасты, ляжыць, псуецца. У каго павінна галава балець? Раён лён здаў, яму яго ў план залічылі. Прыёмшчыкі — не нашы прыёмшчыкі — прынялі і разышліся па хатах. Зарплата ідзе, чаго ім хвалявацца. Ды і не іх гэта справа — лён на льнозавод вывозіць. Хто вінаваты, хто адкажа за тое, што каштоўная прадукцыя губляе свае кандыцыі? А найгорш тое, што кожны дзень ходзяць мае хлопцы з Сельгасхіміі міма тых ільняных стагоў і ціха пасмейваюцца, калі я потым заклікаю іх павярнуцца тварам да льнаводаў, разам з імі змагацца за канчатковыя вынікі.

**МАРКЕВІЧ.** Лён для гаспадарак — вялікая праблема. Пасей яго, апрацуй, выцерабі, абмалаці, рассцялі пад жнівеньскія росы, потым падымі, нарыхтуй трасту. Рассцялі, падымі — работы ўсё ручныя, працаёмкія. А дзе ўзяць тыя рукі, калі ў жніўні — верасні столькі работ збягаецца — не паварнуцца. Канечне, можна здаць на завод не трасту, а саломку, перапрацаваць там яе метадам мачэння. Затраты ў такім выпадку скараціліся б, як мінімум, у паўтара раза, дый выхад валакна павялічыўся б значна. Але ж не ўпраўляюцца льнозаводы мачыць лён. Не ўсе для гэтага абсталяванне маюць. А вось быў бы такі заводзік пад страхой нашага РАПА, мы б яго сваімі сіламі абсталявалі і, я ўпэўнены, хутка ператварылі б льнаводства ў высокарэнтабельную галіну.

**НАРКЕВІЧ.** Я, напрыклад, не ўзяў бы на сябе смеласць заяўляць, што, залучыўшы ў РАПА яшчэ аднаго партнёра, мы пры існуючай зараз ведамаснай цераспаласіцы здолеем так вось адразу наладзіць з ім паўнацэннае ўзаемадзеянне.

**БЛАХІН.** Чатыры гады назад, калі мы здымалі тэлевізійны фільм «Кантрольны варыянт «Вілія» пра першыя крокі Вілейскага аграпрамысловага аб'яднання, праблема ведамаснай раз'яднанасці партнёраў па АПК стаяла, наколькі я памятаю, вельмі востра. Мяркуючы па рэпліцы Мікалая Канстанцінавіча, праблема засталася.

**НАРКЕВІЧ.** Зараз яна стала яшчэ больш балючай. Што такое раённае аграпрамысловае аб'яднанне сёння? Гэта калгасы і саўгасы, а таксама прадпрыемствы і арганізацыі, без якіх намаганні калгасаў і саўгасаў могуць аказацца неэфектыўнымі. Адны заняты нарыхтоўкай сельскагаспадарчай прадукцыі, другія — яе перапрацоўкай, трэція — рамонтам і абслугоўваннем тэхнікі, чацвёртыя — падкормкай палёў угнаеннямі, пятыя — меліярацыяй, шостыя — будаўніцтвам на сяле... Ёсць яшчэ і сёмыя, і восьмыя, і гэтак далей. Адна з асноўных задач аграпрамысловага аб'яднання, нараўні з павышэннем эфектыўнасці сельскагаспадарчай вытворчасці, выкананнем дзяржаўных планаў,— арыентацыя арганізацый аграсэрвісу на паляпшэнне канчатковых вынікаў калгасаў і саўгасаў. На ідэі і матэрыяльнае ўзнагароджанне прадпрыемстваў, якія абслугоўваюць сельскагаспадарчую вытворчасць, павінна залежаць ад прыросту вытворчасці канчатковага прадукту. Аднак на практыцы мы сутыкнуліся з пэўнымі цяжкасцямі. Справа ў тым, што адсутнічаюць дакладныя крытэрыі для вызначэння долі ўдзелу таго ці іншага прадпрыемства аграсэрвісу ў дасягненні канчатковага выніку. Адсюль і рознагалоссі паміж партнёрамі аграпрама. Былі гэтыя рознагалоссі і раней, але ж тады не існавала РАПА і мы не надта давяраліся ілюзіям. Не было таго расчаравання, якое з'яўляецца іншы раз зараз, калі бачыш, як партнёры па аграпраму працягваюць змагацца кожны за свае інтарэсы. Нічога сабе партнёры! У кожнага свой план, свой «напрамак галоўнага ўдару».

**ГАРЭЛІК.** Вось і Сельгастэхніку часта абвінавачваюць у тым, што яна, маўляў, аблічвае гаспадаркі. Што на гэта адказаць? Можа, яно і так, але ж мы дзейнічаем у строгай адпаведнасці з прынятымі інструкцыямі. На ўсе паслугі ўстаноўлены пэўныя цэны, і мы іх строга прытрымліваемся. Калі яны не адпавядаюць сапраўдным затратам, значыць трэба іх перагледзець і ўстанавіць новыя. Але ж гэта ўжо не ў нашай, як кажуць, кампетэнцыі.

**КУЛЕШ.** Затое ў кампетэнцыі РАПА. Пазмагацца давялося, але было за што: расцэнкі за паслугі Сельгастэхнікі і Сельгасхіміі ўдалося знізіць. Выйгралі для калгасаў і саўгасаў раёна каля ста тысяч рублёў.

**НАРКЕВІЧ.** Рублі, аб'ёмы выкананых работ — па-ранейшаму галоўныя паказчыкі ў дзейнасці прадпрыемстваў аграсэрвісу. Эканамічна яны слаба звязаны з канчатковымі вынікамі на палях і фермах. Гаспадаркі імкнуцца зэканоміць на запчастках, а тая ж Сельгастэхніка, наадварот, зацікаўлена ў павелічэнні аб'ёмаў паслуг, інакш не выканае план.

**ДЗЯГІЛЕЎ.** РАПА па задуме — гэта якасна новы падыход да рашэння праблем сельскагаспадарчай вытворчасці. Аграпрамысловы комплекс трэба разглядаць як адно цэлае і кіраваць ім, як адзіным арганізмам. Не заўсёды гэта ўдаецца. У аб'яднанне ўваходзяць арганізацыі і прадпрыемствы, якія, падпарадкоўваючыся, скажам так, «па гарызанталі» — савету РАПА, працягваюць «па вертыкалі» падпарадкоўвацца свайму міністэрству, ведамству. І надзвычай цяжка ўвязаць інтарэсы аб'яднання з інтарэсамі гэтых міністэрстваў і ведамстваў. А інтарэс павінен быць адзін — атрымаць з фермы, з поля як мага больш прадукцыі з мінімальнымі затратамі. Удасканаленне планавання і кіраўніцтва эканомікай — працэс, безумоўна, складаны, але гэта — працэс творчы. Таму ён патрабуе і творчага падыходу, і пэўнай смеласці, і эксперыментаў, інакш не пераадолець інерцыі, застою ў гаспадарчай рабоце, не пазбавіцца ад аджыўшых традыцый і звычак. Эксперыментуе ў рамках дазволенага законам і наша Вілейскае РАПА, умацоўвае гаспадарчы разлік, імкнецца пераадолець ведамасныя бар'еры, дабівацца каардынацыі намаганняў партнёраў па аграпрамысловаму комплексу. Шляхі далейшага ўдасканалення сельскагаспадарчай вытворчасці намацваюць сёння спецыялісты, вучоныя, практыкі і ў маштабах вобласці, рэспублікі, краіны. Праблемы, ад вырашэння якіх залежыць далейшае павышэнне дабрабыту савецкіх людзей, хваляюць шырокія колы грамадскасці. І няма ніякага сумнення ў тым, што пры такой шчырай зацікаўленасці, агульнымі намаганнямі мы ўсе нашы праблемы паспяхова вырашым.

**Калі матэрыял ужо стаяў у часопіснай паласе, прыйшло паведамленне аб тым, што ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР прынялі пастанову «Аб далейшым удасканаленні кіравання аграпрамысловым комплексам», якая вызначыла шляхі больш эфектыўнага выкарыстання створанага ў галінах аграпрама эканамічнага патэнцыялу, матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў, паскоранага ўкаранення дасягненняў навукі і тэхнікі. Адказы на многія пытанні, пастаўленыя ўдзельнікамі «круглага стала», можна знайсці ў гэтым дакуменце. Слова цяпер за працаўнікамі сельскай гаспадаркі, калектывамі ўсіх прадпрыемстваў і арганізацый аграпрамысловага комплексу, якія павінны ўнесці важкі ўклад у вырашэнне пастаўленых задач па далейшаму росту дабрабыту савецкіх людзей.**

Матэрыял падрыхтавалі Уладзімір БЛАХІН, Іосіф КАЛЮТА, Валерый ЯНОЎСКІ і Уладзімір МЯЖЭВІЧ (фота)




# ТВАЯ СЛАВА, НАРОД

**ЗАКОНЧЫЛАСЯ ВЫДАННЕ ТРОХТОМНІКА «ВСЕНАРОДНАЯ БОРЬБА В БЕЛОРУССИИ ПРОТИВ НЕМЕЦКО-ФАШИСТСКИХ ЗАХВАТЧИКОВ В ГОДЫ ВЕЛИКОЙ ОТЕЧЕСТВЕННОЙ ВОЙНЫ», ПАДРЫХТАВАНАЕ ІНСТЫТУТАМ ГІСТОРЫІ ПАРТЫІ ПРЫ ЦК КПБ І ВЫДАВЕЦТВАМ «БЕЛАРУСЬ».**

Аб першым томе ў часопісе «Беларусь» была ўжо размова. Другі том раскрывае вопыт партыйнага кіраўніцтва барацьбой беларускага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 годзе — годзе карэннага пералому ў вайне. На акупіраванай ворагам тэрыторыі Беларусі ў гэты перыяд было ў асноўным завершана стварэнне шырока разгалінаванай сеткі падпольных партыйных органаў і арганізацый. Пад іх кіраўніцтвам шырыліся і мацнелі партызанскі рух, партыйнае і камсамольскае падполле, расла эфектыўнасць барацьбы супраць акупантаў. Барацьба народа ў тыле ворага развівалася ў цеснай сувязі і ўзаемадзеянні з баявымі аперацыямі Чырвонай Арміі.

Характарызуючы карэнны пералом у вайне, аўтары кнігі падкрэсліваюць, што Савецкія Узброеныя Сілы ў ходзе другога перыяду вайны нанеслі паражэнне 218 дывізіям ворага, з якіх 56 былі знішчаны, паланёны або расфарміраваны. Са строю было выведзена каля 50 тысяч гармат, да 7000 танкаў, 14300 баявых самалётаў ворага, акупанты былі адкінуты на захад ад 500 да 1300 км, было вызвалена больш палова захопленай гітлераўцамі тэрыторыі. Аднак вораг меў яшчэ ў сваім распараджэнні вялікую сілу, значныя матэрыяльныя і людскія рэсурсы. У гэтых умовах для разгрому ворага патрабаваліся вялікія намаганні народа.

На часова акупіраванай тэрыторыі гітлераўцы імкнуліся агнём і зброяй, шыбеніцамі і турмамі падавіць барацьбу народа, знішчыць яго патрыятычныя сілы. У 1943 годзе яны правялі шэраг буйнамаштабных карных аперацый з выкарыстаннем матарызаваных падраздзяленняў, танкаў, авіяцыі. Карнікі па-зверску распраўляліся з насельніцтвам, забіралі жывёлу, зерне, бульбу і іншую сельскагаспадарчую прадукцыю, грабілі маёмасць, гвалтоўна адпраўлялі працаздольных мужчын і жанчын на катаржныя работы ў Германію. Супраць партызан на пачатку 1944 года на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі каля 250 тысяч фашысцкіх салдат і афіцэраў. Аднак ні палітычнае лавіраванне, ні тэрор з боку гітлераўцаў, якi ўзмацняўся штодзень, не аказалі ўплыву на няўхільны рост усенароднай барацьбы.

На шматлікіх яркіх і пераканаўчых фактах аўтары кнігі паказваюць плённую работу ЦК КП(б)Б па павышэнні і ўмацаванні партыйнага падполля. Важнае значэнне ў гэтым меў V Пленум ЦК КП(б)Б, які адбыўся ў Маскве 26— 28 лютага 1943 года і абмеркаваў пытанне «Аб абстаноўцы і задачах работы партыйных органаў і партыйных арганізацый у акупіраваных раёнах Беларусі». Падпольныя абкомы і райкомы КП(б)Б уважліва сачылі за расстаноўкай камуністаў у партызанскіх падраздзяленнях, дамагаліся дзейснага ўплыву партыйцаў на ўсе бакі жыцця і барацьбы народных мсціўцаў. Да канца 1943 года ў партызанскіх атрадах і брыгадах на тэрыторыі Беларусі ўжо было каля 100 пярвічных партарганізацый. Павялічвалася колькасць падпольных арганізацый і груп у гарадах і вёсках. У 1943 годзе ва ўсіх партызанскіх атрадах былі створаны і дзейнічалі камсамольскія арганізацыі. Па няпоўных звестках у рэспубліцы мелася каля 2 тысяч камсамольскіх і маладзёжных антыфашысцкіх арганізацый, была створана шырокая сетка друкаваных выданняў — выходзілі рэспубліканскія «Звязда», «Чырвоная змена», абласныя і раённыя газеты — усяго 134 выданні. У партызанскіх атрадах выдаваліся таксама баявыя лісткі і рукапісныя часопісы.

Цэнтральнае месца займаюць у кнігах раздзелы аб пашырэнні партызанскага руху і баявых справах народных мсціўцаў. У 1943 годзе ў партызанскія атрады, якія мелі сувязь з Беларускім штабам партызанскага руху, уступіла 96 тысяч чалавек, з іх 85 працэнтаў складалі мясцовыя жыхары. Істотную ролю ў стварэнні партызанскіх атрадаў і іх арганізацыйна-баявым умацаванні займалі пасланцы Вялікай зямлі. ЦК КП(б)Б у 1943 годзе накіраваў у Беларусь 13 атрадаў і 111 арганізатарскіх і дыверсійных груп. З кастрычніка 1942 года да снежня 1943 года на акупіраваную тэрыторыю Беларусі з савецкага тылу прыбылі 310 арганізатараў партызанскага руху, 175 радыстаў, 97 намеснікаў камандзіраў па разведцы і разведчыкаў, 23 рэдактары газет, 58 наборшчыкаў, 231 інструктар мінападрыўной справы, 1071 падрыўнік.

У авангардзе ўсенароднай барацьбы ішлі камуністы: у 1943 годзе ў партызанскіх фарміраваннях практычна кожны шосты быў членам партыі. У канцы 1943 года на тэрыторыі Беларусі ўжо мелася каля 800 партызанскіх атрадаў. Да сказанага трэба дадаць, што 166 атрадаў на той час ужо злучыліся з часцямі Чырвонай Арміі.

У аснове партызанскага руху былі такія пастаянна дзеючыя фактары, як узмоцненае партыйнае кіраўніцтва вызваленчай барацьбой народа, натхняючы ўплыў перамог Чырвонай Арміі. Менавіта рост партызанскіх сіл і іх рэзерваў, сацыяльнае і інтэрнацыянальнае адзінства патрыётаў адлюстроўвалі ўсенародны характар барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, вялікую сілу сацыяльна-палітычнага і ідэйнага адзінства савецкага грамадства, брацкай дружбы народаў СССР.

Значнае месца ў кнізе адведзена і пытанням удасканалення структуры партызанскіх сіл і кіраўніцтва імі, росту партызанскіх рэзерваў, баявой падрыхтоўкі партызан, іх узбраення, дзеянням народных мсціўцаў на варожых камунікацыях. Матэрыялы спецыяльных раздзелаў расказваюць аб барацьбе супраць гарнізонаў і карных экспедыцый акупантаў, аб партызанскіх рэйдах і падпольнай барацьбе ў Мінску, узмацненні баявой дзейнасці падполля, пашырэнні і ўзрастанні ролі партызанскіх зон.

У год карэннага пералому ў вайне народныя байцы ў тыле гітлераўскіх войск ажыццявілі 6567 крушэнняў варожых эшалонаў, вывелі са строю 21 браняпоезд, разбілі 5058 паравозаў, больш як 46540 вагонаў, платформ і цыстэрнаў, знішчылі 476 чыгуначных і 3108 іншых мастоў, падарвалі каля 210 тысяч рэек, разграмілі 620 варожых гарнізонаў і валасных упраў. Народныя мсціўцы вывелі са строю 625 танкаў і бронемашын, шмат іншай тэхнікі, знішчылі сотні тысяч гітлераўскіх салдат і афіцэраў.

У трэцім томе разглядаецца далейшы рост накіроўваючай дзейнасці ВКП(б) і яе баявога атрада — КП(б)Б у барацьбе з ворагам.

Асноўныя намаганні партыйных арганізацый на гэтым этапе барацьбы былі поўнасцю накіраваны, з аднаго боку, на павышэнне баявой і палітычнай актыўнасці партызан і падпольшчыкаў, аказанне дзейснай дапамогі савецкім войскам, якія ішлі ў наступ, а з другога — на ўсямернае захоўванне народнага дабра ад знішчэння і разрабавання яго фашысцкімі варварамі.

Уступленне Чырвонай Арміі на зямлю Беларусі і разгортванне баявых дзеянняў па канчатковым вызваленні яе тэрыторыі паставілі перад падпольнымі партыйнымі арганізацыямі і партызанскімі атрадамі новыя задачы — неабходнасць арганізацыі яшчэ больш цеснага ўзаемадзеяння з савецкімі воінскімі часцямі і злучэннямі, аказання ім усебаковай і эфектыўнай дапамогі. У кнізе сабраны і асэнсаваны вялікі фактычны матэрыял аб высокай эфектыўнасці сумесных дзеянняў Чырвонай Арміі і партызан, аб баявой актыўнасці народных мсціўцаў.

Характарызуючы арганізатарскую і ідэалагічную дзейнасць КП(б)Б, аўтары кнігі падкрэсліваюць, што гэтая дзейнасць вылучалася выключнай канкрэтнасцю і мэтанакіраванасцю. Падпольныя партыйныя камітэты і арганізацыі, умела спалучаючы агульныя і лакальныя задачы, адшуквалі і знаходзілі новыя формы і метады ідэйнага ўздзеяння на масы, якія адпавядалі канкрэтнай абстаноўцы, няўхільна праводзілі курс на палітычнае забеспячэнне ўсенароднай барацьбы супраць фашысцкіх акупантаў. У кароткія мінуты зацішша друкарні партыйных камітэтаў выпускалі не толькі газеты і лістоўкі, але і невялікія зборнікі літаратурных твораў. Выступала з канцэртамі партызанская самадзейнасць, натхнёна працавалі майстры мастацтваў. Дзякуючы мэтанакіраванай арганізатарскай і палітычнай рабоце КП(б)Б насельніцтва акупіраваных раёнаў не было ізалявана ад Савецкай краіны. Яно жыло адзіным жыццём з усім савецкім народам, мела агульныя думкі і імкненні хутчэй разграміць фашысцкіх акупантаў і выгнаць іх з роднай зямлі.

Да пачатку 1944 года партызаны кантралявалі да 108 тысяч квадратных кіламетраў з 184,7 тысячы квадратных кіламетраў тэрыторыі рэспублікі, што яшчэ знаходзілася пад акупацыяй. Звыш 38 тысяч квадратных кіламетраў складалі партызанскія зоны, куды ворагу толькі зрэдку ўдавалася праравацца, дый то з дапамогай буйных воінскіх сіл. Аналізуючы шматлікія факты, аўтары выдання падкрэсліваюць, што партызаны давялі да высокага воінскага майстэрства тактыку раптоўных нападаў на ворага як вялікімі сіламі, так і асобнымі групамі, актыўна выкарыстоўвалі засады, навязвалі ворагу нечаканыя сутычкі, што наносіла акупантам вялікія страты ў жывой сіле і тэхніцы, паралізавала транспартныя магістралі, пазбаўляла іх магчымасці бесперашкодна манеўраваць рэзервамі. Вялікі ўплыў на выніковасць партызанскага руху ў 1944 годзе мелі таксама цесныя кантакты з камандаваннем часцей і злучэнняў Чырвонай Арміі, рэгулярны абмен інфармацыяй аб абстаноўцы ў раёне баявых дзеянняў, узгадненне часу аперацый, форм узаемадзеяння і аператыўных задач.

За студзень — чэрвень 1944 года партызаны Беларусі правялі больш за 3730 аперацый па падрыву варожых эшалонаў, разграмілі 152 варожыя гарнізоны, 16 валасных упраў, 23 маёнткі, 162 розныя склады, пашкодзілі 6 электрастанцый і 28 іншых прадпрыемстваў, 19 радыёстанцый і вузлоў

сувязі. Больш як паўмільёна гітлераўцаў вывелі са строю беларускія партызаны і падпольшчыкі.

Толькі ў Мінскім падполлі актыўна змагаліся з ворагам больш як 9 тысяч патрыётаў — прадстаўнікоў усіх сацыяльных пластоў насельніцтва, мужных сыноў і дачок 25 нацыянальнасцей. Сярод іх былі і антыфашысты з дзевяці замежных краін. Восем удзельнікаў Мінскага падполля, якія найбольш вылучыліся ў барацьбе з ворагам, удастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза, вялікая колькасць падпольшчыкаў узнагароджана баявымі ордэнамі і медалямі. За мужнасць і гераізм, праяўленыя мінчанамі ў барацьбе супраць гітлераўскіх акупантаў, вялікую ролю ў разгортванні ўсенароднага партызанскага руху гораду Мінску прысвоена ганаровае званне «Горад-герой». У кагорце гарадоў-герояў ганаровае месца займае і Брэсцкая крэпасць-герой.

У выніку нацысцкай акупацыйнай палітыкі ў гарадах нашай рэспублікі значна скарацілася колькасць жыхароў. У гарадах Беларусі фашысты знішчылі больш як 600 тысяч чалавек. Сотні тысяч жанчын, старых і дзяцей вымушаны былі шукаць прытулак у партызан. У Полацка-Лепельскай зоне ў лістападзе 1943 года жыло звыш 70 тысяч чалавек мясцовага насельніцтва, а ў студзені 1944 года — звыш 100 тысяч чалавек. У часе карных акцый гітлераўцы знішчылі 5295 вёсак разам з усім ці часткай насельніцтва. На часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі налічвалася звыш 260 лагераў смерці, іх філіялаў і аддзяленняў. У выніку вялізных людскіх ахвяр у 1943 годзе насельніцтва Беларускай ССР складала крыху больш як 6 мільёнаў чалавек. Агульныя страты, што нанеслі акупанты народнай гаспадарцы рэспублікі, склалі 75 мільярдаў рублёў (у цэнах 1941 года). Гэта лічба ўлічвае толькі страты ад прамога знішчэння маёмасці грамадзян, калгасаў, грамадскіх арганізацый, дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстаноў. У яе не ўваходзяць такія страты, як зніжэнне народнага прыбытку ад таго, што спыніліся работы дзяржаўных прадпрыемстваў, калгасаў і грамадзян, кошт канфіскаваных захопнікамі прадуктаў харчавання і іншых каштоўнасцяў. А злачынствы фашысцкіх захопнікаў па сваёй масавасці, планамернасці, вытанчанасці не маюць аналагаў у гісторыі. Але якімі б жудаснымі гэтыя ўчынкі і злачынствы не былі, яны не паставілі савецкіх людзей на калені.

Цэнтральнае пытанне трэцяга тома — падрыхтоўка і разгром Чырвонай Арміяй нямецка-фашысцкіх войск, вызваленне БССР, дапамога партызан у разгроме ворага. Беларуская бітва вылучалася сярод многіх аперацый Чырвонай Арміі найперш сваім размахам, палітычнымі і ваенна-стратэгічнымі вынікамі, выдатным ваенным майстэрствам. Вялізны наступ, пачаты ў Беларусі 23 чэрвеня 1944 года войскамі чатырох франтоў, закончыўся 28 ліпеня 1944 года поўным вызваленнем рэспублікі. Фронт наступлення, які спачатку складаў 700 кіламетраў, пашырыўся больш чым на 1100 кіламетраў. Варожая група армій «Цэнтр» была канчаткова разгромлена. З 97 дывізій і 13 брыгад поўнасцю былі разгромлены 17 дывізій і 3 брыгады, 50 дывізій страцілі ад 60 да 70 працэнтаў свайго складу. Усе чатыры франты ў часе Беларускай аперацыі цесна ўзаемадзейнічалі не толькі адзін з адным, але і з партызанамі. За перыяд з 1 студзеня да 1 чэрвеня 1944 года партызанскай разведкай былі ўстаноўлены і пацверджаны месцы дыслакацыі звыш 1800 варожых гарнізонаў, 100 штабоў карпусоў і дывізій, а таксама месцы размяшчэння 93 асобных, 23 ахоўных і паліцэйскіх палкоў, 225 асобных і да 50 ахоўных і паліцэйскіх батальёнаў, 163 палявых паштовых станцый. На працягу трох тыдняў перад пачаткам аперацыі «Баграціён» беларускія партызаны і падпольшчыкі выявілі і пацвердзілі размяшчэнне ў тылавых раёнах групы армій «Цэнтр» 287 часцей і злучэнняў вермахта, 33 штабы і 900 гарнізонаў, устанавілі састаў і арганізацыю 108 воінскіх часцей праціўніка. Буйнейшай баявой аперацыяй партызан было правядзенне трэцяга этапа «Рэйкавай вайны», пачатага за тры дні да пераходу ў наступ савецкіх войск.

Дапамога партызан, падпольшчыкаў і насельніцтва рэспублікі Чырвонай Арміі з'явілася адным з яркіх сведчанняў моцы і жыццёвасці сацыялістычнага грамадства. Напярэдадні поўнага вызвалення Беларусі ў рэспубліцы ўжо дзейнічалі 9 падпольных абкомаў КП(б)Б, 4 гаркомы, 2 гаркомы-райкомы, 6 міжрайкомаў, 109 райкомаў партыі.

Сімвалам вечнай славы воінам нашай арміі і партызанам, якія аддалі сваё жыццё ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў за гонар, свабоду і незалежнасць Радзімы, стаў узведзены ў Мінску на плошчы Перамогі велічны манумент, які вянчае ордэн «Перамога». За мужнасць і стойкасць, праяўленыя ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у тыле ворага, звыш 140 тысяч народных мсціўцаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі, 88 удастоены звання Героя Савецкага Саюза. Баявыя справы камсамола Беларусі адзначаны ордэнам Чырвонага Сцяга, камсамольская арганізацыя Любанскага раёна ўзнагароджана ордэнам Айчыннай вайны I ступені. Гарады Орша, Магілёў, Барысаў таксама ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны I ступені.

Спецыяльныя раздзелы буйнога навуковага даследавання прысвечаны раскрыццю інтэрнацыянальнага характару партызанскага руху, удзелу у ім зарубежных антыфашыстаў, а таксама дзейнасці КП(б)Б па мабілізацыі сіл і сродкаў на аказанне дапамогі фронту.

Трохтомнік «Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны» — фундаментальная праца. Шматгадовая работа вялікага аўтарскага калектыву завершана паспяхова. Чытач атрымаў змястоўнае шматпланавае выданне, якое раскрывае велічную карціну жыцця і барацьбы беларускага народа, гераізм і самаадданасць савецкіх людзей у барацьбе з акупантамі з першых дзён вайны да поўнага выгнання захопнікаў з тэрыторыі рэспублікі. У трохтомніку названа каля 7 тысяч актыўных удзельнікаў вайны, змешчаны 23 карты, 939 фатаграфій і 36 рэпрадукцый карцін беларускіх мастакоў.

Праўдзівае асвятленне гісторыі другой сусветнай вайны, яе вынікаў і ўрокаў, барацьбы супраць фашызму з'яўляецца важным сродкам ідэйна-патрыятычнага выхавання працоўных, магутнай ідэйнай зброяй у барацьбе за мір, сацыяльны прагрэс, супраць ідэалогіі і палітыкі вайны і агрэсіі.

**Станіслаў МАРЦЭЛЕЎ,**
**член-карэспандэнт АН БССР.**





**Фёдар ШЛЫК,**
**Пётр ШОПА**

# ЖЫЦЦЁВЫЯ СКРЫЖАВАННІ

**У ПАРТЫЗАНСКІХ АТРАДАХ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ РАЗАМ З НАШЫМІ ЗЕМЛЯКАМІ СУПРАЦЬ ВОРАГА ЗМАГАЛІСЯ ПРАДСТАЎНІКІ РОЗНЫХ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЕЙ НАШАЙ КРАІНЫ. СЯРОД ІХ БЫЎ І ГРУЗІН ВАНО ГАРГІШЭЛІ. ЦІКАВЫ ЛЁС У ГЭТАГА ЧАЛАВЕКА. АПЫНУЎШЫСЯ Ў АКРУЖЭННІ, ЁН ПРЫЙШОЎ У ПАРТЫЗАНСКУЮ БРЫГАДУ «ДУБОВА», СТАЎ РАЗВЕДЧЫКАМ, А ПОТЫМ КАМАНДЗІРАМ УЗВОДА. ПРАЯВІЎ СЯБЕ АДВАЖНЫМ ПАРТЫЗАНАМ, УДЗЕЛЬНІЧАЎ АМАЛЬ ВА ЎСІХ БАЯВЫХ АПЕРАЦЫЯХ. ТУТ ЁН І СУСТРЭЎ СВАЁ ШЧАСЦЕ — НАДЗЕЮ КЛАПЦОВУ — МЕДЫЦЫНСКУЮ СЯСТРУ. ПРА ІХ ЛЁС Ф. ШЛЫК І П. ШОПА НАПІСАЛІ ДАКУМЕНТАЛЬНУЮ АПОВЕСЦЬ «ВАНО І НАДЗЕЯ». УРЫВАК З ГЭТАГА ТВОРА ПРАПАНУЕМ НАШЫМ ЧЫТАЧАМ.**

У рэйд у раён Чашнікаў адправіліся тры атрады з дзвюма пушкамі. У Пышне, партызанскім гарнізоне на дарозе Лепель — Беразіно, застаўся чацвёрты атрад на чале з памочнікам начальніка штаба брыгады Аляксеем Ярмошам, капітанам Чырвонай Арміі, які нядаўна прыбыў у брыгаду і быў прызначаны на гэту пасаду. Камбрыг Дуброўскі дамовіўся з кіраўніцтвам суседніх брыгад Кароткіна і «Жалязняк», што ў выпадку чаго яны акажуць дапамогу пышнянскаму гарнізону.

Заняўся зімовы дзень. Марозны вецер шамацеў па сценах, стрэхах, у дрэвах. На дарозе — крута збітыя сумёты.

Пайшлі па лясной дарозе. Калона расцягнулася. Наперадзе разведка на чале з Вано Гаргішэлі, ззаду — паходная кухня. Першы прыпынак зрабілі ў вёсцы Зацякляссе. Выставіўшы пасты, партызаны па аддзяленнях размясціліся ў хатах, адпачывалі, прыводзілі сябе ў парадак. На досвітку зноў адправіліся ў дарогу. За дзень дайшлі да Свядзіцы. Зноў прыпынак, кароткі адпачынак.

Камісар трэцяга атрада Мікіта Цікавы сабраў мясцовых жыхароў, расказаў ім аб перамозе нашых войск пад Сталінградам. Агітатары раздалі брашуры, лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро.

На трэці дзень вечарам брыгада прыбыла ў Васькаўшчыну — канцавы пункт рэйду. Выбар на Васькаўшчыну выпаў не выпадкова. Вёска размешчана за ракой Ульянкай, воддаль ад чыгункі і шасэйных дарог, навокал лес. За ноч партызаны добра адпачылі.

Наступны дзень выдаўся цёплы, мароз адступіў, і неба зацягнулі свінцовыя хмары. Пайшоў снег.

Пасля снедання ў паходны штаб выклікалі ўсіх камандзіраў і камісараў атрадаў, начальнікаў штабоў, разведчыкаў. Прызначана апошняя нарада. Належала канчаткова абмеркаваць план блакіроўкі фашысцкага гарнізона Чашнікі. Дуброўскі разаслаў на стале сцэрчаную карту і пачаў называць пункты, дзе, па апошніх даных, сканцэнтраваны сілы праціўніка. Камбрыг ахарактарызаваў прысутным становішча ў Чашніках і навакольных гарнізонах.

— А цяпер я павінен выказаць самую гарачую падзяку нашым разведчыкам,— Дуброўскі, як заўжды, гаварыў павольна, крыху расцягваючы словы.— Вялікае дзякуй табе, Вано, і тваім сябрам. Калісьці я ў табе, Вано, сумняваўся, лічыў, што не атрымаецца з цябе разведчык. Аказваецца, памыліўся. Але гэта добрая памылка. Я ёй рад. Яшчэ раз віншую цябе, Вано,— камбрыг падняўся і падышоў да партызана, Вано патануў у яго абдымках. Дуброўскі зноў звярнуўся да прысутных: — Спадзяюся, што разведка і надалей не падвядзе. Прашу, таварышы, выказацца.

Выказаліся ўсе камандзіры атрадаў. Камісары паведамілі, як падрыхтаваны людзі. Наступаць на гарнізон вырашылі з трох бакоў.

(Заканчэнне на 23-й стар.)

# ТАМ, ДЗЕ НАРАДЖАЮЦЦА ВЯСЁЛКІ

Падоўгу можна любавацца пералівам арнаменту і колераў упадабанай тканіны. Аднак, набываючы яе, мы, як правіла, нічога не ведаем пра тых, ад каго залежаць мастацкія вартасці нашай пакупкі. Пакуль што не прынята на этыкетках серыйных вырабаў прамысловасці ставіць побач з цаной, нумарам артыкула і назвай тканіны прозвішча мастака, аўтара яе малюнка. А рабіць гэта, магчыма, прыспеў ужо час, бо малюнкі на прадукцыі нашых тэкстыльных фабрык становяцца ўсё больш цікавымі і арыгінальнымі... Каб пераканацца ў гэтым, заглянём у мастацкія майстэрні Віцебскага камбіната шаўковых тканін — прадпрыемства, якое адзначыла сёлета 30-годдзе з дня свайго заснавання.

Улюбёныя ў сваю справу людзі, сапраўдныя творцы працуюць тут. Яшчэ ў 60-я гады пачалі ствараць свае першыя малюнкі для віцебскага шоўку М. Церахава-Есація і В. Цітова. Поруч з імі шчыруюць сёння над сонечнымі ўзорамі С. Крупская, А. Паплаўская, Н. Кузьмічова — прадстаўнікі сярэдняга пакалення мастакоў, свае першыя крокі ў прафесію зрабілі на камбінаце выпускнікі мастацкіх і тэхналагічных навучальных устаноў Н. Шчасная і М. Фаміна.

Працу сучаснага мастака-тэкстыльшчыка, канечне ж, цяжка параўноўваць з дзейнасцю колішніх майстроў-набойшчыкаў, што вандравалі з вёскі да вёскі ў розных кутках Беларусі, набіваючы пры дапамозе драўляных штампікаў і алейных фарбаў розныя ўзоры на дыванах, абрусах, ручніках, фіранках. Майстэрня камбіната нечым нагадвае праектна-эксперыментальную лабараторыю. Менавіта тут, за рабочым сталом мастака, на паперы старанна выконваецца эскіз будучай тканіны, у якім дакладна распрацоўваецца яе арнамент і каларыт. Пасля зацвярджэння на мастацкім савеце новы ўзор запускаецца ў вытворчасць, дзе тыражуецца на тысячах метраў тканіны.

Вялікую ролю ў яе дэкарыраванні адыгрывае колер ва ўсім сваім багацці адценняў. Бляклыя або, наадварот, строката-крыклівыя, дрэнна дапасаваныя паміж сабой колеры звычайна не выклікаюць пачуцця гармоніі. І тут на дапамогу мастаку прыходзіць прырода. Менавіта яна можа падказаць уважліваму воку розныя, часам самыя нечаканыя спалучэнні фарбаў.

Цікавасць да прыродных матываў заўсёды жывіла творчасць мастакоў Віцебскага камбіната, дарыла ім новыя арыгінальныя знаходкі. Ужо з сярэдзіны шасцідзесятых гадоў, калі на прадпрыемства прыйшла працаваць група маладых мастакоў, выкарыстанне вобразаў роднай прыроды было непарушна звязана са смелым творчым эксперыментам. Мастакі, напрыклад, не абмяжоўваліся аднастайна-роўнай зафарбоўкай усіх элементаў малюнка. Шырока практыкаваліся самыя разнастайныя прыёмы выканання: графічная штрыхоўка, расплывістая «акварэльная» заліўка колераў, імітацыя розных фактур і г. д. Такімі арыгінальнымі сродкамі з вялікай фантазіяй і раскаванасцю можна было значна цікавей выяўляць непаўторную прыгажосць прыродных форм у іх свабоднай інтэрпрэтацыі для патрэб тэкстыльнай прамысловасці. Маладыя мастакі ўсімі сродкамі імкнуліся пазбегнуць шаблонных, стэрэатыпных вырашэнняў, якія яшчэ, на жаль, сустракаюцца ў афармленні сучасных набіўных тканін. Напрыклад, у кампазіцыях з натуралістычна прарысаваных руж, нібы «наклееных» на аднатонны фон тканіны, або схематызаваных рамонкаў у адвольным чаргаванні з «гарохамі» — кружочкамі рознай велічыні і г. д.

Пэўная эскізная недапрацаванасць, незавершанасць, якая адчувалася ў малюнках віцебскага шоўку ў 70-я гады, пачала паступова ўступаць месца большай прадуманасці, дасканалай стылізацыі буйнамаштабных малюнкаў. Творчыя здабыткі сваіх старэйшых калег узбагаціла новае пакаленне мастакоў. Яны прыйшлі на камбінат з грунтоўнай прафесійнай падрыхтоўкай, з вялікім жаданнем працаваць. Гэта дазволіла ім, арыентуючыся на існуючыя ўжо ўзоры малюнкаў віцебскага шоўку, уключыцца ў актыўны творчы пошук.

У сваёй рабоце мастакі камбіната кіруюцца агульнымі патрабаваннямі, прадугледжанымі перспектыўнымі накірункамі моды і развіццём асартыменту тканін. Але ў кожнага з іх ёсць найбольш упадабанае кола матываў, індывідуальны падыход да стылізацыі, захопленасць мяккімі або наадварот кантрастнымі колернымі спалучэннямі.

Не пералічыць усіх малюнкаў для тканін, што былі створаны М. Церахавай-Есація і В. Цітовай за дваццаць гадоў іх творчай дзейнасці. Для іх і зараз уласціва няспыннае імкненне да смелых эксперыментаў. Мастачкі не «затрымліваюцца» на інтэрпрэтацыі якога-небудзь удалага дэкаратыўнага вырашэння, а кожны раз шукаюць новае.

Вельмі паслядоўна і плённа М. Церахава-Есація на працягу сямідзесятых гадоў выкарыстоўвала элементы беларускага ткацтва і вышыўкі: ромбікі, зорачкі, трохкутнікі, дробныя квадрацікі і іншыя фігуры ў малюнках з геаметрычным арнаментам. Пры іх спалучэнні штораз ствараліся непаўторныя дэкаратыўныя кампазіцыі. Тканіны з ацэтатнага шоўку сталі выглядаць шыкоўна і святочна: запоўніліся жывымі, мігатлівымі арнаментальнымі шлячкамі, заззялі агеньчыкамі дробненькіх зорачак. Такім чынам, старадаўнія традыцыйныя тэкстыльныя элементы аказаліся прыдатнымі пры стварэнні набіўных малюнкаў, якія адпавядаюць сучаснаму моднаму адзенню, яго стылю і крою.

У пачатку васьмідзесятых гадоў геаметрычныя малюнкі мастачкі, не губляючы сваёй выразнасці, набываюць больш канструктыўны, «дызайнерскі» характар. У іх заўсёды пануе дынамічны, нястрымны рух, утвораны спалучэннямі адвольных геаметрычных форм (тканіна «малінаўка», 1982 год) або вузкіх палос з квадратамі (тканіна «кветка», 1983 г.). Выяўленчыя сродкі тут вельмі ўмоўныя, падпарадкаваныя перш за ўсё выяўленню арыгінальнай рытмічнай пабудовы, якую адкрыла для сябе мастачка ў народных арнаментах.

Матывы народнага ткацтва зрабілі прыкметны ўплыў на характар геаметрычных малюнкаў В. Цітовай, мастачкі, схільнай да стварэння ўскладненых і фантастычных арнаментальных форм (аб чым сведчыць шэраг яе паліэфірных тканін, выкананых у сямідзесятыя гады). Сярод шматлікіх работ мастачкі сваёй насычанай чырвона-вохрыстай гамай, кампаноўкай арнаментаў у шлячкі па ўсёй шырыні тканіны (што аналагічна ткацтву) адрозніваецца тканіна «вярбінка», высока адзначаная на Усесаюзным мастацкім савеце па разгляду новых малюнкаў серыйнага тэкстылю. Здавалася б, простыя на першы погляд рамбічныя формы, актыўныя па колеру, цікава дапоўненыя дробнымі кропкамі, палосачкамі, стварылі запамі-









нальны дэкаратыўны матыў. Арыгінальнымі і простымі сродкамі выконваюць свае геаметрычныя кампазіцыі ў шлячкі і іншыя мастакі камбіната.

Немагчыма ўжо уявіць афармленне віцебскага шоўку без шырокага кола раслінных кампазіцый: ад нескладаных і сціплых да насычаных і дэтальна распрацаваных. Нельга таксама не адзначыць першай спробы стварэння далікатных раслінных матываў, па стылістыцы сваёй набліжаных да ўзораў беларускай ручной набойкі дзевятнаццатага стагоддзя. Дарэчы, у Віцебскім абласным гісторыка-археалагічным музеі знаходзіцца унікальная, самая вялікая ў рэспубліцы калекцыя набоечных дошак. Іх рэльефныя драўляныя і металічныя элементы даюць дакладнае ўяўленне аб малюнках, што ў колішнія часы набіваліся на тканінах. У такіх выпадках кампазіцыя ўтвараецца ў выніку разнастайнага паўтору адной-дзвюх раслінных форм. Пры гэтым дасягаецца асаблівая выразнасць: напрыклад, пры дапамозе выразаных светлымі сілуэтамі лісточкаў ліпы і галінак рабіны, нібы адвольна раскіданых на цёмна-карычневым фоне (тканіна «вярбінка» М. Церахавай-Есація), або рознакаляровых яловых лапак, выкладзеных у форме хвалістых стужак (тканіна «чарацінка» С. Крупскай), ці пры дапамозе чаргавання шлячкоў арнаменту з белых, блакітных, залацістых кропак і звілістых сцяблінак з гнуткімі лісточкамі на глыбока-сіняй паверхні (тканіна «хваля» А. Паплаўскай), а таксама іншага лаканічнага дэкору, што з'явіўся на віцебскіх шаўках.

Падсумоўваючы першыя пакуль што сціплыя прыклады стварэння малюнкаў, дзе няма ніводнай неасэнсаванай дэталі, а ўмоўна стылізаваныя раслінныя элементы падпарадкаваны добра чытэльнаму агульнаму рытму, без ценю хаатычнасці і заблытанасці (менавіта ў гэтых асаблівасцях і адчуваецца набліжанасць да ўзораў традыцыйнай беларускай набойкі) можна гаварыць пра невычэрпнае дэкаратыўнае характво лаканічных, сугучных народнаму мастацтву выяўленчых сродкаў. Яны значна больш адпавядаюць сучасным патрабаванням афармлення тэкстылю, у адрозненне ад ненатуральных загрувашчаных форм, што маскіруюць безгустоўнасць і эклектыку. Гэтыя прыклады яшчэ раз пераконваюць у тым, што для сучасных беларускіх тэкстыльшчыкаў традыцыйная ручная набойка можа стаць каштоўным матэрыялам для далейшага вывучэння, творчага пераасэнсавання і выкарыстання ў самым шырокім рэчышчы: ад фальклорных матываў да апошніх модных навінак...

У штодзённай працы віцебскіх мастакоў-тэкстыльшчыкаў не абыходзіцца і без праблем. Адна з іх заключаецца ў тым, што, падпарадкоўваючыся агульнаму правілу, мастак вымушаны на працягу ўсяго рабочага дня знаходзіцца ў майстэрні на камбінаце, хоць задума будучай тканіны не з'яўляецца аўтаматычна адразу ж, як толькі ён сядзе за свой рабочы стол. Мастаку неабходна больш свабодна карыстацца сваім рабочым часам, як мага часцей выходзіць на натурныя замалёўкі, што спрыяла б плённаму збору неабходных для працы матэрыялаў. А колькі новых мастацкіх уражанняў, ідэй дае кожная творчая камандзіроўка, удзел у выстаўках дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, наведванне мастацкіх музеяў! Стварэнне на вытворчасці ўмоў для развіцця здольнасцей і талентаў мастакоў-тэкстыльшчыкаў значна палегчыла б ім працу над новымі арыгінальнымі тканінамі, не дазваляла б спыняцца на дасягнутым.

У калектыве мастацкіх майстэрань Віцебскага камбіната шаўковых тканін нязменна пануе настрой творчай апантанасці. У плённым спалучэнні тут аказаўся багаты мастацкі вопыт і нястомнае маладое імкненне да новых мастацкіх пошукаў і адкрыццяў, якія тояцца ў неабмежаваных магчымасцях сучаснага тэкстылю.

**Яўген ШУНЕЙКА.**

**На рэпрадукцыях: узоры, створаныя мастачкамі Віцебскага камбіната шаўковых тканін М. Церахавай-Есація, С. Крупскай і А. Паплаўскай.**

**Фота аўтара.**

ПАЭЗІЯ

# „Дзе ты, мая Лаура, дзе сяброў сям'я?"

**Пра тую ролю, якую адыграла ў паэзіі вялікага Адама Міцкевіча беларуская шляхцянка з маёнтка Туганавічы на Навагрудчыне Марыля Верашчака, пісалася нямала. Чысты і зыркі агонь першага юнацкага кахання, што запаліла яна ў сэрцы Адама Міцкевіча, быў пераліты ім у чароўныя радкі неўміручай паэзіі. Сярод твораў, непасрэдна навеяных гэтым каханнем, былі і санеты, напісаныя паэтам у 1825 годзе ў Адэсе, куды ён трапіў пасля выгнання з родных прынёманскіх аколіц за ўдзел у таварыстве філаматаў — тайным згуртаванні моладзі ў Вільні. Неадольная туга па Марылі (А. Міцкевіч схаваў яе пад імем Лауры), з якой цяпер ён быў — ужо назаўсёды — разлучаны, і нарадзіла гэтыя поўныя святла санеты паэта-выгнанца.**

## *Да Лауры*

Ледзь зірнула ты, позірк твой чысты дзявочы
У душу мне запаў, нейкі родны, шчымлівы,
А цябе ўсю заліў быў румянец цнатлівы —
Распусцілася ружа сама пасля ночы.

А запела — мне слёзы замружылі вочы,
Даставаў аж да сэрца твой голас журлівы.
Бы табе памагаў сам анёл, што, зычлівы,
На гадзінніку неба збавенне прарочыў.

Калі сэрца крану твае чым, ты прызнацца
Мне не бойся ўжо: я ж пра цябе толькі мрою.
Супраць нас будуць людзі і лёс — мажа стацца,

Мо з другім пойдзеш ты пад вянец, не са мною,
Толькі ведай, о любая — што мне хавацца! —
Заручыў бог душу маю ў небе з тваёю.



Дзе ні йду я, з сабою ўвесь час размаўляю,
На людзях жа, свой плач прыглушыўшы, маўчу.
Сэрца б'ецца бязладна, і іскры ўбачу,
Пра здароўе маё ўсюды шмат хто пытае.

Ці глядзіць падазрона: мо з глузду з'язджае?
Цэлы дзень так блукаю, за сонцам сачу:
Як ратунку, чакаю я ночы — хачу
У сне забыцца, ды сон ад мяне уцякае.

Я зрываюся з ложка, бягу стрымгалоў
Куды вочы глядзяць, я ў агні палымнею,
Тваю жорсткасць кляну цэлай лаваю слоў.

Ды цябе ледзьве ўбачу — раптоўна нямею,
Астываю, раблюся спакойным ізноў,
А пасля зноў гару я і... зноў камянею.



У цябе не іскрыцца вучонасцю слова,
І сама ты не ззяеш пыхлівай красой.
Прыглядзецца ж, дык ты — каралева, якой
Даў адзець хтосьці ўбор пастухоўскі часова.

Песні ўчора гучалі, лілася размова,
Ля равесніц тваіх — кавалеры гурмой,
Жарты сыпалі весела наперабой,
А ўвайшла ты — застыла на вуснах іх мова.

Так на балі, калі хор высока спяваў,
А танцоры віхурай віліся па залі,
Нечакана ў тым танцы ўвесь гурт застываў,

І не ведаў ніхто, з-за чаго ўсе пасталі.
Ды паэт падказаў: «Тут анёл пралятаў!»,
І віталі яго, хоць не ўсе і пазналі.



Асудзіць нас ханжа, распуснік асмяе:
Адны ў пакоі мы — о міг доўгачаканы!
Яна — сама краса — і я — так закаханы,
Ды голаў я схіліў, сляза ўбаччу ў яе.

Гашу спакусы я, як і яна — свае:
Як быццам нас знарок зацiснулі ў кайданы,
Што злою доляй абаім наканаваны —
Бязладдзе ў сэрцах нам во ўжо яна снуе.

Ну што ў іх? Асалода? Боль? Калі мяне
Рукамі абаўеш ты і зірнеш з лагодай —
Назваць пакутай гэта? Не і не!

Калі ж мы слёзы льём — перад якой нягодай? —
Калі з уздыхам кожным нас бы нешта гне,
Ці ж звацьмем, любая, мы гэта асалодай?

## *Ранак і вечар*

На ўсходзе сонца ў хмар вянку — дзівіся ранку!
А на заходзе бледны месяц твар азмрочыў.
Бутон раскрыла ружа, сонная шчэ з ночы,
Раса да долу гне фіялку-выхвалянку.

Лаура — у акне! Укленчыў я на ганку,
Яе чароўны голас чуць я так ахвочы:
«Чаму такія смутныя ва ўсіх вас вочы —
Фіялка, ружа месяц, мілы мой каханку?»

Я вечарам прыйшоў. Усё інакшым стала:
Вярнуўся месяц — ясны гэткі, зіхатлівы,
Зямной красой мяне фіялка чаравала.

Зноў за акном пачуў я любай смех гуллівы,
Вось і сама перада мной красуня стала.
І зноў я ўкленчыў — як і раніцай, тужлівы.

## *Да Нёмана*

Рака маленства, дзе ты, Нёман мой,
Чые струмені браў калісьці я ў далоні?
Тут юнаком праз даль — што мне віры і тоні! —
Я ўслед за марай плыў тваёю сінізной.

Лаура часта тут, над гладдзю люстраной,
Любіла волас заплятаць, уквечваць скроні.
Яе адбітак любы сцішана ў сутонні
Я колькі раз муціў гаручаю слязой.

Мая рака, мой родны Нёман! Дзе твая
З дзяцінных год так сэрцу любая бруя?
Дзе шчасця слодыч, дзе вы, дзе, надзеі, крозы?

Дзе маладосці бурнай выклік нецвярозы?
Дзе ты, мая Лаура, дзе сяброў сям'я?..
Усё прайшло... Чаму ж мае не пройдуць слёзы!?

## *Адмаўленне*

Няшчасны той, хто пра ўзаемнасць толькі сніць,
Няшчасны, у каго ў душы — нуда пустэчы.
Ды больш няшчасны той, чые з каханнем стрэчы
Ужо ў мінулым — іх ніколі не забыць!

Аб іх сумуе ён. Не могуць спакусіць
Яго ні смех красунь, ні зманлівыя плечы.
Калі ж кране душу найчысты позірк нечы,
Ля ног анёла ён не стане слёзы ліць.

Да ўсіх халодны ён, усімі пагарджае,
Багіню нават са спакоем абмінае,
З надзеяй светлай развітаўшыся навек.

І сэрца у яго — як храм, што дажывае
Свой век: яму няма ўжо аніякіх лек;
Там жыць не хоча бог, не можа чалавек.

**Пераклад з польскай Кастуся ЦВІРКІ.**






## НАТАТКІ АБ ТВОРЧАСЦІ КІНАРЭЖЫСЁРА ВЯЧАСЛАВА НІКІФАРАВА

# ПРАГА

Ва Усесаюзным інстытуце кінематаграфіі Вячаслаў Нікіфараў вучыўся ў майстэрні аднаго з заснавальнікаў савецкага кіно — рэжысёра-эксперыментатара Льва Уладзіміравіча Куляшова. Ад яго, відаць, і пераняў імкненне ствараць фільмы на розным матэрыяле, у розных жанрах. Пачынаў з лірычнай стужкі для тэлебачання «Бераг прынцэсы Люські», а потым тыя ж матывы роздуму над жыццём паглыбіў у фільме «Зімародак». У ім падзеі сучасныя і мінулыя аб'яднаны біяграфіяй цэнтральнага персанажа (піянеры-следапыты дазнаюцца, што іх настаўнік і ёсць той самы разведчык па мянушцы Зімародак, якога яны доўга шукалі) і аўтарскім пачуццём. Для гісторыка-рэвалюцыйнай карціны «Хлеб пахне порахам» аўтар сцэнарыя І. П. Шамякін прапанаваў рэальныя падзеі з рэальным прататыпам галоўнага героя (адпраўка ў 1918 годзе з Оршы, па заданню У. І. Леніна, эшалона з хлебам для рускіх ваеннапалонных у Германіі). Кожны свой фільм Нікіфараў ставіць з усведамленнем грамадзянскай адказнасці перад гледачом, імкнецца весці з ім пранікнёную размову.

На адным з дыспутаў рэжысёр усхвалявана гаварыў, што ніводны свой фільм ён не рабіў «без нерваў і крыві», што ўсе яны яму «дарагія, як дзеці — маці». За якую б тэму ні браўся пастаноўшчык, галоўную ўвагу ён звяртае на духоўную сувязь пакаленняў. Гэта прынцыповая пазіцыя, якую Нікіфараў паслядоўна праводзіць у творчасці і абараняе ў публічных выступленнях. Ён не з тых мастакоў, хто лічыць: я ўсё сказаў сваімі творамі, а чаго ім не стае, дык пра тое няма сэнсу і гаварыць. Удала спалучаючы эмацыянальнасць і разважлівасць, Нікіфараў умее выкласці і абгрунтаваць свае погляды. Цікава назіраць за яго выступленнямі ў дыскусіях. Тут ён бескампрамісны. Але вось спадае напружанне, і твар рэжысёра азараецца лагоднай, нават сарамлівай усмешкай. Мне падабаецца гэтая ўсмешка Вячаслава Аляксандравіча, бо ў ёй — водбліск таго, чым азорана яго творчасць.

Разам з героямі фільмаў уважліва ўглядаецца ён у праблемы жыцця, не хаваючы сваіх аўтарскіх да іх адносін. У фільме «Сын старшыні», напрыклад, сутыкаюцца два погляды на разуменне шчаслівага жыцця калгаснікаў. Стары старшыня бачыць яго ў заможнасці. Сыну, які прыходзіць на змену бацьку, гэтага недастаткова. Важна, каб кожны сельскі працаўнік быў духоўна багатай асобай, меў час на разумны і культурны адпачынак, разам з маладым старшынёй сцвярджаюць драматург М. Матукоўскі і рэжысёр В. Нікіфараў. Супраць бездухоўнасці, псіхалогіі накапляльніцтва выступае рэжысёр і ў фільме «Абочына» паводле аповесці М. Кругавых. Не ўсё, праўда, у гэтых двух фільмах удалося аўтарам. Сцэнарысты і пастаноўшчык у некаторых эпізодах не знаходзяць важкіх драматургічных абгрунтаванняў сваёй пазіцыі. Тады ў экраннае апавяданне пранікае ілюстрацыйнасць, і, каб пераадолець яе, рэжысёр вымушаны «фарсіраваць» эмацыянальны стан герояў, якім ён давярае выказаць і сваю пазіцыю ў той ці іншай спрэчнай сітуацыі.

Сталеючы, набываючы прафесійны вопыт, В. Нікіфараў падыходзіў да таго парога мастакоўскага ўспрымання рэчаіснасці, за якім яго творчасць непазбежна павінна была набыць новыя рысы і якасці. Патрэбны быў рашучы крок наперад. Яго аднак нельга было зрабіць, не вырашаючы прынцыпова новыя творчыя задачы. Таму рэжысёр і звяртаецца да пісьменніка з асобым пачуццём на жыццёвую праўду. Так на аснове аднаго з ранніх апавяданняў В. Быкава «На сцяжынцы жыцця» з'яўляецца камерны па падзеях, глыбокі па зместу тэлефільм «Фруза». Ён і стаў тым «мастком», які падвёў рэжысёра да задумы «агромністага маштабу».

Калі ў 1982 годзе В. Нікіфараў узяўся за экранізацыю твора, аб якім спрачалася не адно пакаленне даследчыкаў і чытачоў,— рамана «Бацькі і дзеці» І. С. Тургенева,— не скажу, што асабіста я была поўная аптымізму ў чаканні нейкага адкрыцця. Розныя рэжысёры тэатра і кіно звярталіся да рамана-дыспуту, розныя акцёры выконвалі ролі Базарава і Кірсанавых. Ішоў час, спектаклі і фільмы забываліся, а раман працягваў заставацца для многіх кінематаграфістаў прывабнай, але непрыступнай вяршыняй...

І вось у-адзін з сакавіцкіх дзён 1984 года у Рэспубліканскім Доме кіно — прэм'ера новага тэлевізійнага фільма «Бацькі і дзеці». Паказваюцца ўсе чатыры серыі.

— Ці магчыма «вытрываць» сеанс працягласцю амаль у пяць гадзін? — пытаюся ў Вячаслава Аляксандравіча.

— Паглядзім,— ветліва адказвае ён.— Хацелася, каб у запрошаных на прагляд склалася ўражанне аб фільме як адзіным цэлым мастацкім творы. Тэлеглядач такой магчымасці не мае, яму паказваюць па адной, рэдка па дзве серыі за вечар...

І ўсё ж я адчула трывогу рэжысёра: як будзе «глядзецца» фільм, якому аддадзена столькі сіл і часу?.. Калі гэты незвычайны сеанс скончыўся і мы з радасцю павіншавалі здымачную групу з поспехам, на твары Вячаслава Аляксандравіча зноў з'явілася знаёмая ўсмешка. І раптам пытанне:

— А што не спадабалася? Ці прынялі вы нашага Базарава? Мы, стваральнікі фільма, усе яго любілі...

Прызнанне ў любові да аўтара рамана і яго галоўнага героя В. Нікіфараў паўторыць і ў артыкуле з нагоды палемікі аб экранізацыях, якая вялася на старонках «Литературной газеты» ў пачатку года. Свае разважанні пастаноўшчык «Бацькоў і дзяцей» назваў «Галоўны герой — аўтар», сціпла дадаўшы: «Споведзь рэжысёра, які сумняваецца» («Л. г.», 1985, 6 лютага). Вядома, кожны мастак мае права на сумненне. Але наступае такі момант, калі трэба адкінуць усе ваганні. Так яно, відаць, і было, калі Нікіфараў прыступаў да экранізацыі «Бацькоў і дзяцей». Тэлесерыял па самаму палемічнаму з раманаў Тургенева ён ствараў, маючы паслядоўную і ясную канцэпцыю. У прыватнасці, канцэпцыю Базарава. Экранізатары разглядаюць яго як асобу неардынарную і складаную, як чалавека, можна сказаць, «на ўсе часы». Складаны



# ДУХОЎНАСЦІ

пошук ідэйна-маральных апор, ісціны, сэнсу жыцця — вось што характарызуе галоўнага героя фільма. Тэма такога пошуку праходзіць лейтматывам творчасці рэжысёра Нікіфарава. Ён гучаў ва ўсіх яго пастаноўках, а ў серыяле па Тургеневу набыў найбольш поўнае эстэтычнае выражэнне.

Крытыкам не так ужо часта даводзіцца пісаць аб творах, у якіх ідэя і яе мастацкае ўвасабленне знаходзяцца ў гарманічным адзінстве. І наконт прынцыпаў асэнсавання класікі рэдка прыходзяць яны да згоды з экранізатарамі. Фільм «Бацькі і дзеці» ў гэтым сэнсе — выключэнне. І не ў тым толькі справа, што амаль усе асноўныя сюжэтныя калізіі рамана адноўлены на экране трапяткім пачуццём і па-майстэрску. Відавочна тут і гармонія задумы драматургаў Я. Грыгор'ева, А. Нікіча, інтэрпрэтацыі рэжысёра В. Нікіфарава, выяўленчага рашэння аператараў А. Суханавай, У. Спорышкава, мастака У. Дзяменцьева. Намаганні ўсяго здымачнага калектыву былі скіраваныя на раскрыццё духоўнага багацця рамана. Стваральнікі фільма праявілі высокую культуру ўзаемаадносін з класікай, знайшлі адпаведную форму яе выражэння — у вобразах асноўных персанажаў, касцюмах і дэкарацыях, пластыцы кадраў. Не навязваючы гледачу сваю «арыгінальнасць» (а такое зараз у модзе: адзін з апошніх прыкладаў — экранізацыя вядомым кінарэжысёрам Э. Разанавым драмы А. Астроўскага «Беспасажніца»), канцэнтруючы ўвагу на характарах галоўных герояў, сутыкненнях іх маральных прынцыпаў, аўтары тэлефільма скіравалі змест першаасновы да сучаснасці. Базараў, базараўшчына — не проста адмаўленне ўсяго прагнійшага і коснага ў Расіі другой паловы мінулага стагоддзя. Гэта і пакутлівы роздум аб будучыні радзімы. Экранны Базараў прыйшоў да нас з высокім зарадам духоўнасці, без чаго наўрад ці дамагліся б экранізатары такога кантакту і ўзаеморазумення з сучасным гледачом.

Рэжысёр В. Нікіфараў ніколі не імкнуўся здзівіць гледача. Для яго галоўнае — вобраз чалавека на экране, даследаванне яго характару ў пэўным сацыяльным асяроддзі. Не заўсёды ён дамагаўся мэты, якую ставіў перад сабой, але ўсе ягоныя фільмы запаміналіся вобразамі галоўных герояў. «Бацькі і дзеці» не выключэнне. Прыступаючы да экранізацыі І. С. Тургенева, пастаноўшчык разумеў, што ступень спасціжэння рамана, вынікі намаганняў яго і ўсёй здымачнай групы будуць залежаць перш за ўсё ад таго, якім будзе на экране Базараў. Ён — цэнтр, дзе перасякаюцца асноўныя лініі, канцэнтруецца ідэйная і эмацыянальная энергія ўсяго твора.

Рэжысёр не памыліўся, дaручыўшы ролю Базарава акцёру Маскоўскага акадэмічнага Малога тэатра Уладзіміру Богіну, які дагэтуль не быў прыкметнай «зоркай экрана». Напачатку богінскі Базараў успрымаецца з нейкім унутраным супраціўленнем: старэйшы за тургенеўскага, не дужа сімпатычны... Аўтары фільма паступова адкрывалі нам нязвыклага Базарава, разбуралі хрэстаматыйны стэрэатып вобраза. Мы бачым яго хмурным і калючым у адносінах з сябрам Аркадзем Кірсанавым, катэгарычным нігілістам у спрэчках з памешчыкам-лібералам Пятром Кірсанавым, фанабэрыстым з яго братам Паўлам, стрыманым і разгубленым перад павятовай прыгажуняй Ганнай Адзінцовай, пяшчотным і ласкавым з бацькамі.

Патаемнай сутнасцю характару чалавека разумнага, духоўна багатага, які нясе ў сабе драму асабістую і сацыяльную, Яўген Базараў адкрываецца не толькі праз вызначаныя сюжэтам учынкі. Рэжысёр і аператары ствараюць своеасаблівую маральную атмасферу, у якой праяўляюцца інтэлект і драматызм героя, а выразны падтэкст экраннага дзеяння дазваляе адчуць рух вобраза, духоўную драму асобы, яе ўнутраную адзіноту. Мала прыгадваецца фільмаў, у якіх з такім тонкім майстэрствам раскрывалася б глыбінная сутнасць галоўнага героя. Экранным жывапісам можна назваць яго пластычны партрэт.

Богін у ролі Базарава не бярэ «ўсю гульню на сябе». Рэжысёр, дарэчы, і не ставіць перад ім такой задачы. Зрабіць гэта азначала б спрасціць іншыя вобразы, якія каму-небудзь іншаму — толькі не Нікіфараву! — маглі б здацца другараднымі. У фільме браты Кірсанавы — і Мікалай Пятровіч (А. Кузняцоў) і Павел Пятровіч (Б. Хімічоў) — асобы складаныя. У вузлавых сцэнах фільма (у спрэчках аб прызванні і абавязках чалавека, у сцэне дуэлі і пасля яе) У. Богін і Б. Хімічоў не ўступаюць адзін аднаму ў акцёрскім майстэрстве ўвасаблення супрацьлеглых па сваёй сутнасці характараў.

У фільме, як і ў рамане, Базараў прыязджае ў маёнтак Пятра Кірсанава разам з яго сынам Аркадзем. Кантрастнасць іх характараў раскрываецца без традыцыйнага размежавання на рацыянальнага нігіліста і захопленага прыгожымі фразамі «дваранчыка», як называе Базараў свайго сябра. Артыст Уладзімір Конкін не спяшаецца выкрываць свайго героя. Яго Аркадзь шчыра закаханы ў Базарава, верыць у яго геніяльнасць. Канфлікт паміж імі выспявае паступова, і канфлікт вельмі сур'ёзны, бо, па сутнасці, яны — антыподы па светаўспрыманню, жыццёвай пазіцыі. Прынцыповае значэнне ў гэтым сэнсе мае сцэна каля стога сена, дзе на сонечным улонні ўспыхвае спрэчка паміж Базаравым і Кірсанавым. Спачатку мы гатовыя нават паспачуваць Аркадзю, калі яго лірычную тыраду аб навакольнай прыгажосці рэзка абрывае раз'юшаны Базараў: «О сябра мой Аркадзь Міхайлавіч, аб адным прашу цябе — не гавары так прыгожа»... Аўтар фільма, аднак, вельмі хутка дае нам зразумець, што красамоўства, намеры без учынкаў — гэта і ёсць сапраўдная сутнасць такіх, як Аркадзь.

Базараў як цэнтральны вобраз рамана і фільма многімі сваімі патаемнымі рысамі раскрываецца ў эпізодах сустрэчы з Ганнай Сяргееўнай Адзінцовай. Гэта адзін з бліскучых тургенеўскіх вобразаў жанчын. Артыстка Н. Данілава выяўляе ў гэтым вобразе асноўныя рысы — абаяльнасць, інтэлект, зацікаўленасць чалавекам, не падобным да іншых. Драма ў адносінах Базарава і Адзінцовай у тым, што яны не маюць духоўнай патрэбы адзін у адным, іх збліжэнне немагчымае, а разрыў балючы. Такая дысгармонія праецыруецца не толькі на канкрэтныя персанажы, адчуваюцца тут і трагедыйныя водбліскі часу. Кінематаграфісты патургенеўску спачувальныя да бацькоў Базарава (майстэрская работа У. Самойлава і М. Крэпкагорскай), уважлівыя да кожнага з персанажаў. І не баяцца свайго захаплення Базаравым. Ён — увасабленне чалавека высокай годнасці, носьбіт духоўнасці, якасцей, пра якія ў той ці іншай форме ішла гаворка ва ўсіх фільмах Нікіфарава.

З многіх, часам няўлоўных момантаў складаецца паняцце «майстэрства пастаноўшчыка фільма». Вызначальнымі, аднак, з'яўляюцца здольнасць дакладна акрэсліць характары, «вылушчыць залатое зерне» ў кожным з іх, расставіць ідэйна-сэнсавыя акцэнты. І, вядома, уменне падначаліць усяму гэтаму разнастайныя мастацкія сродкі. Стваральнікі тэтралогіі «Бацькі і дзеці» не дэманструюць майстэрства — яны ім валодаюць. Паслядоўнасць удумлівага «чытання» рэжысёрам І. С. Тургенева відавочная ў тым, што ў кожнай серыі фільма ёсць сцэны, у якіх выразна гучыць асноўная думка, матыў. У першай — гэта сутыкненне перакanання Базарава (у тым, што жыццё трэба мяняць, што прырода — не храм, а майстэрня і чалавек у ёй — работнік) з прынцыпамі абстрактнага лібералізму Кірсанавых. Лейтматыў другой серыі — сустрэча Базарава з Адзінцовай, прыцягненне і кантраст двух моцных натур. Потым паездка Яўгена і Аркадзя да старых Базаравых, дуэль і каханне Аркадзя да маладшай Адзінцовай. І, нарэшце, вяртанне Базарава, наведванне ім хворых, пранізлівыя сцэны ў фінале.

Здавалася, пасля фільма «Бацькі і дзеці» Вячаслаў Аляксандравіч будзе доўга раздумваць, шукаць адметны сцэнарый, перш чым узяцца за пастаноўку наступнага фільма. А ён амаль «з ходу» апынуўся на здымачнай пляцоўцы, і неўзабаве мы ўжо глядзелі яго новы двухсерыйны дзіцячы тэлефільм «Вялікія прыгоды». Прызнаюся, з апасеннем ішла на прэм'еру, бо ведала, што сцэнарый, напісаны рэжысёрам разам з Р. Святаполкам-Мірскім, не вызначаўся ні значнасцю падзей, ні вастрынёй канфліктаў. Так, розныя здарэнні з дзецьмі, якія самавольна адправіліся летам у падарожжа. І рада, што апаскі мае не апраўдаліся. Рэжысёр разам з аператарамі А. Суханавай і А. Бецевым з добрай усмешкай апавядаюць пра тое, як праходзяць пэўны шлях станаўлення, загартоўкі характараў іх юныя героі. Фільм атрымаўся дынамічным па сюжэту, змястоўным і павучальным, як, дарэчы, і сам пошук рэжысёра, які на розным драматургічным матэрыяле знаходзіць магчымасці сцвярджаць у чалавеку высакароднасць, спавядацца перад гледачамі ў тым, што хвалюе, за што баліць душа. Такое нязменнае крэда В. А. Нікіфарава — мастака і грамадзяніна.

**Ефрасіння БОНДАРАВА.**



☐ Уладзімір Богін у ролі Базарава.

☐ Адзінцова — Наталля Данілава.

ПАЭЗІЯ

## Людміла ПЯТРУЛЬ

**Людміла Пятруль — мастачка, член Саюза мастакоў БССР. Яе першая кніга вершаў «Ля веснічак» выйшла ў калектыўным зборніку «Сцяжына» (1983 год). Чытаю ўважліва творы Л. Пятруль не толькі таму, што яна нарадзілася на Гродзеншчыне. Вершы яе вылучаюцца свежым лірычным настроем, шчырасцю, своеасаблівым бачаннем свету.**

**Ад прафесіі мастачкі Людміла пераносіць у паэзію адчуванне колеру і гармоніі.**

**З вершаў відаць, што Людміла яшчэ ў дзяцінстве страціла маці, яе гадавалі дзядуля з бабуляй. Пра іх і пра сына — самыя шчымлівыя светлыя радкі.**

**Вершы яе ідуць ад глыбокага пачуцця і вылучаюцца празрыстай песеннасцю мастацкіх вобразаў, народнай стрыманай мудрасцю.**

**Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА.**



### *Саломка з «Царскай брамы»*

**«Царская брама» — унікальны твор беларускага саломапляцення. Захоўваецца у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.**

Яшчэ над той саломкай,
зялёнай, сакавітай,
дымяцца пысы цёмныя,
падносяцца капыты,
вятры кладуцца роўна,
дрыжыць сярпок світання —
над ёй, над той саломкай,
што нашым скарбам стане.
Яшчэ яна расце
над васільковым летам,
павекі пашмаруюць
яе пылком кабеты...

Як блізка ўсё: зярняты,
казюркі, сонца, поле...
Яшчэ яна не зжата
і не адчула болю...
А жыта зорным роем
рассыплецца навокал...
Ты стала, стала творам
з рукі народнай лёгкай!..

### *Грышка*

А цікава, дзе той Грышка,
з галавой кудлатай, рыжай,
і адзеты як папала:
нітка з хаты — і хапала.
Пасвіў статак ён вясковы
і разьбяр быў адмысловы.
У акенца загукае:
«Выганяй сваю, малая!»
А пакуль кароў адгоніць,

Я у дзеда ўкраду гонту
і бягу за Грышкам следам,
побач з ветрам, сонцам, летам.
Пакуль статак мяжу голіць,
Грышка рэжа мне на гонце.
Сярод птушак і расліны
зробіць сумную дзяўчынку
і працягне: «На, малая,
падзівіся, ці такая».
Тыя трэскі, гонты, дошкі
я ўтойвала пад ложкам.
Ды аднойчы дзед агледзеў,
выграб качаргой жалезнай.
...Беглі вогненнай сцяжынкай
кветкі, птушкі і дзяўчынка...
Так я плакала на печы,
а ў пліце спяваў агеньчык
і патрэскваў, згодна плачу,
свет абпалены дзіцячы.
А як полымя асела,
маё сэрца анямела.
І як Грышка загукае,
не бяжыць за ім, трывае.
...Дзе ён, Грышка,
з галавой кудлатай, рыжай.

### *Рэчка Рось*

Вецер то прыносіць, то адносіць
пах лілей са штучных азярын...
Срэбраная жылка Росі
булькае ў чаротавай нары.
Вырвецца на поплаве на волю —
засінее колерам ільну...
А ліняць, бялець у чыста поле
Нёман не пусціў яе адну.
І яна ў травы высокай просіць
вечарам шаптаць і на зары,
як прыносіць вецер і адносіць
пах лілей са штучных азярын.

### *Святаяннік*

Калі на снежаньскай паляне
сярод няўтульнай сематы
узнік сынок мой, святаяннік,
я разгубілася: хто ты?
Я, бы зіхоткая вясёлка,
над ім прагнулася дугой.
А ён крычыць: я — тая зёлка,
што лечыць сум і неспакой.
І прыхапкам, незакалелай
рукой гарну яго цяпло.
І прапануе нам снег белы
сваё бяздоннае жытло.

---

## Адам ГЛОБУС

**Думаю, не адзін я звярнуў увагу на першыя публікацыі Адама Глобуса. Ён друкаваўся ўжо ў «Маладосці», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Асаблівых рэкамендацый як быццам не патрабуе, і ўсё ж...**

**У творчым пошуку маладога аўтара ёсць, здаецца, нешта такое, што наводзіць на думку як пра не адкрытыя яшчэ нашай маладой паэзіяй пласты рэчаіснасці, так і нерэалізаваныя спосабы выяўлення іх у слове. Адам Глобус паводле адукацыі мастак, ён вырас у горадзе, а таму ў вершах у дастатковай ступені і «ўрбаністычны», і «канструктыўны», і «жывапісны» адначасова,— не без уплыву, вядома, як гэтага свайго першапачатковага вопыту, так і прафесійных ведаў. Не цураецца ён і вясковай тэмы, якая набывае пад яголым пяром непадробна-арыгінальны ракурс. Такое бадай што сімптаматычна, сімпатычна (даруйце каламбурнае збліжэнне) і нова. Будзем спадзявацца, што такі вопыт і такі пошук прыдасца нашай маладой паэзіі наогул.**

**Жадаю Адаму Глобусу зацікаўленай увагі чытачоў «Беларусі».**

**Міхась СТРАЛЬЦОЎ.**



### *Верасень*

Стаю на журботнай пожні
І ўсё не магу паверыць,
Што скора туман аблажны
Пабеліць ліловы верас.

### *Лёд*

Не глядзі ў парафінавы стаў —
Дзе пад лёдам згарэла лілея,
Над якім скавытаў і стагнаў
Незашпілены вецер завеі.

Паглядзі на вясновы пясок,
Што цячэ з далані, праз пальцы;
І паслухай, як шашаль-жучок
Ціха точыць калону ў альтанцы,
Ціха рэжа азбеставы блок.

### *Агонь*

Ацэтыленавы агонь
На чорна-слізкае жалеза
Паклаў блакітную далонь —
І засвістаў скразняк з разрэзу.

Душа жалезнага быцця
Стагнала ў гаркаце і дыме,
У асалодзе адкрыцця —
На тэрмаядзерным уздыме.

Шуганне ветру і агню,
Кананне ветру і жалеза
Перараблялі цішыню
На песеннасць этнагенезу.

У палымянасці плылі,
Упарта звонячы мячамі,
Чырвона-шэрыя палі
Над ворагамі й крумкачамі.

На даляглядзе чорны конь
Ляцеў праз ірдзяную замець...
Ацэтыленавы агонь
Вяртае страчаную памяць.

### *19.30 — калыханка*

Над мікраранёнам лунаў
Напеў электронна-дрогкі;
Лавілі антэнныя рогі
Другі беларускі канал;
Экранная калыханка
Плыла ў папяровым лесе;
Мігцеў пластылінавы месяц,
Прабіты тэлемаланкай.

### *Парк*

На зямлю
Маскараднае золата
кінулі клёны.
На зіму
Зачыніліся атракцыёны.
Штучны рай
Скончыў працу.
Маляр прапакосціў качэлі.
У Кітай
Чарнагрудыя сітаўкі пераляцелі.
Састаўны
Самалёт разабралі мужчыны.
Да вясны
Карусельшчык узяў адпачынак,
На ланцуг
Пасадзіў аглядальнае кола.
Галоўбух
Налічыў адпускныя і холад.
Уцякла
Мітусня. Засталіся туманы.
Да цяпла
Абязводзіў сантэхнік фантаны.
На вадзе
Плаваў лёдзік блакітны і тонкі.
Дзе-нідзе
Засталіся на клумбах рамонкі.
Нагадаў
Інжынер адключыць асвятленне,
Загадаў
Паздымаць карусельных аленяў.
Пад замкі
Прадаўшчыцы паставілі ціры.
Медзякі
Ды білеты надзейна
схавалі касіры.
Тонкі дрот
Павуціння аздобіў дашчаныя касы.
На завод
Павярталіся бочкі
з-пад хлебнага квасу.
Гаражы
Ненадзейны метал
ратаваць узяліся.
На дажджы
Папяровыя шклянкі
па шве разышліся.
За сезон
Аблупілася фарба
рэкламнай афішы.
Белы сон
Пра сваё красаванне
паклікалі вішні.
Ссох, завяў
Каля плота высокі дзядоўнік.
Спілаваў
І спаліў нежывыя галіны садоўнік.
У агні
Спакваля жалуды спапялелі.
Цішыні
Дачакаліся ўрэшце алеі.

## Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ

**Яўгенія Мальчэўская нарадзілася ў вёсцы Замошша на Віцебшчыне.**
**Скончыла БДУ імя У. І. Леніна, цяпер працуе настаўніцай у школе рабочай моладзі ў горадзе Талачыне.**
**Я. Мальчэўскую нельга назваць пачаткоўцам. Яе вершы друкаваліся ў зборніках «Нашчадкі», «Вёсны», «Дзень паэзіі», яна падрыхтавала да выдання кнігу вершаў «Залежнасць». З адкрытым сэрцам ідзе паэтка да чытача. У яе, «дзяўчыны з ціхага сяла», ёсць жаданне сказаць сваё слова пра вёску і горад, пра непаўторную пару маладосці, пра наш імклівы і трывожны час. «Абуджаю Купалавай спадчынай за душою душу» — гэта не прыгожыя словы, не ўзнёслая дэкларацыя, а сутнасць і мэта яе жыцця.**
**У адным вершы Я. Мальчэўская зазначыла: «Адчуваю цябе, жыццё, як уласнага сэрца біццё». Знітаванасць яе паэзіі з рэчаіснасцю дае надзею на тое, што голас аўтара набудзе сілу, а выверанproblemы сэрцам словы сагрэюцца глыбокім пачуццём, без чаго цяжка ўявіць сапраўдную паэзію.**

**Юрась СВІРКА.**



### *Зімовы матыў*

Завеі
Шумелі
І ўсё ж лагаднелі ля вокан.
Нясмела
Глядзела
Зімовае ранне праз шкло.
Як стылі
Ад стыні
І вязлі ў снезе глыбока
Хаціны,
Мясціны,
Якія за ноч замяло.
І цяжка,
І вязка,
І вельмі кірунак няпросты,
Здаецца,
Смяецца
Пякучы мароз з-за сасны.
Няходкай
Паходкай
Палотнаў адбеленых вёрсты
Я мераю
З верaю
У звонкае сонца вясны.



У рэактарных нетрах
Расшчапляецца стронцый.
Над трывожнай планетай
Трывожнае сонца.
У трывозе маўчаць
Неспакою сірэны
І трывожна стаяць
На уліку ваенным.
На ўстрывожаным нерве
Трывожнага часу
У трывожным рэзерве
Ўсе салдаты запасу.



Проста так, без усякай прычыны,
Ці сваю уявіўшы бяду,
Я да могілак ціха іду
За трунoй незнаёмай жанчыны.
Як аснова жыцця і уток —
Дня прыціхлага горкая стома.
Дамавіна ад роднага дома
Праплыла праз увесь гарадок.
А за ёй — і унукі і дзеці,
І сяброўкі ад вуліц усіх...
Сцепанулася думкай на міг:
Мне ж таксама настане памерці...
Мне ж таксама настане пара,
Час праб'е ў адзінокае ранне...
Хто засведчыць маё існаванне,
Ці хаця б праўдзе са двара?..



І не здаецца, і не сніцца...
З усіх бакоў, з усіх старон
Праз шыбы тонкія акон
Грыміць трывогі навальніца.
Чым ад яе абараніцца?

Няўжо настане той, апошні,
Жыццю адведзены рубеж?
Няўжо, зямля, не зберажэш
Ні нівы росныя, ні пожні?
Няўжо сябе не зберажэш?

---

## Мікола ШЭЛЯГОВІЧ

**З цікавасцю паслухаў я вершы Міколы Шэляговіча на заходнепалескім дыялекце. Думаю, што не з меншай цікавасцю іх прачытаюць і носьбіты гэтага дыялекту, і жыхары ўсёй Беларусі.**
**Друкаванне вершаў на гэтым своеасаблівым дыялекце беларускай мовы ўяўляецца мне справай карыснай і патрэбнай — і з пункту гледжання літаратуры. Бо ў асобе М. Шэляговіча мне бачыцца добры беларускі паэт, які і стаў то паэтам дзякуючы сваёй роднай гаворцы.**
**Менавіта родная гаворка, паляшуцкі фальклор і ёсць тая крыніца, адкуль чэрпае свае сілы і тэмы паэзія маладога паэта.**
**З прыемнасцю прадстаўляю Міколу Шэляговіча і ягоную паэзію чытачам часопіса «Беларусь».**

**Народны пісьменнік Беларусі Іван ШАМЯКІН.**

●

Мае вершы напісаны цэнтральнай гаворкай заходнепалескага (паляшуцкага, ятвяжскага) дыялекту. Арэал бытавання гаворак дыялекту ахоплівае не толькі большую частку Брэсцкай вобласці — на поўдзень ад Пружан і Лунінца, але і паўночны захад Украіны — на захад ад Сарнаў і Луцка, і ўсход Польшчы — на ўсход ад Хэлма і Бельска. У межах бытавання дыялекту жыве больш за 2,5 мільёна чалавек.
Пінчуцкай гаворкай заходнепалескага дыялекту В. Дунін-Марцінкевіч напісаў «Пінскую шляхту», у 1861 годзе віленская «Gazeta Polska» паведамляла пра паляшуцкі лемантар, на бельскай гаворцы прафесар Мікола Янчук напісаў дзевяноста вершаў і п'ес, ятвяжскія вершы перыядычна друкуе беластоцкая газета «Ніва».

Аўтар.



■ ■ ■

Новиј дэнь! Је вытаю тыбэ
за можлывыну нову ля мэнэ
віка буты, шо е —
одслонінням заслоны того,
шо јмынуjімо мы нывыдомым!

Новиј дэнь! Је наравлю тыбэ
за можлывыну нову ля мэнэ
віка буты, шо е —
пудвыжиннем над тым,
шо јмынуjімо мы кажноднёвым!

Новиј дэнь! Је шаную тыбэ
за можлывыну нову ля мэнэ
віка буты, шо е —
збудованнем самого сыбэ,
шо јмынуjімо мы провыднёным!

■ ■ ■

Ны мы, а нас дорога выбырае,
сыбэ пуд ногы постылае
тому, хто вартым е јіјі
и тэјі мэты, до якэјі јті.
Мы самы мэту ставымо собі,
вона ля нам — загарию рості!
Чым ліпшы мы — выжиша е вона,
а буты ліпшым — штудия одна:
бырэзына јдэ в рошчы рик од року,
ны просто јті, а даты людюм соку;
а ля людыны правыло такэ —
роздај дорэшты світовы сыбэ!

---

и — і, перад якім зычны цвёрды
је — я; е — ёсць
ля нам — для нас, нам

### *Полышчуцька пісня*

З чым зрумнеты пісню
полышчуцьку?
Но з Поліссем.
Рыхтычна — воно!
Еко діты до батькэј пудхожы,
Так вона пудхожа до его!



Выдокы краю полышчуцького,
выдокы,
мыз якых на світ був став,—
в гарунках рик, дырывыны,
розлывэј Прыпыті увэсну
старыјі —
Турув, Пыньськ, Дубровыця,
такы тыпэрышны —
Бырэсьте, Біла, Луцьк,
уквітяны јітвегэј курганамы
и пушчию,
яку вартує Біла Вэжа
гуртом з зубремы-дужакамы.

А посырэдыны выдокув тых,
на кажному — мусово! — з јіх
Огдэмыр,
за Рыма шчо мні есьтя, до якого
выдуть мынэ мојі всі дорогы —
бо стиль зачета в світ моя дорога.

Хаты Огдэмыра — ыконостас,
за прычасьтінне —
мні людэј балесы,
якы дають на судось:
добриј дэнь!
на шчо кажу:
могајбо! — еко ј ныгдысь.

А хата дідова у тінёвы грушок,
в сусідюх пне од вјеза,
з якого грэпнувся був хлопчынем,
пробуючы шпакивню прымостыты.
Мні хата тая есьтя за божныцю,
а в јіј за пастыра — дід Сцёпа,
чыя сырэдына крыныцию мні духа
поліського,
з якэјі пію и ны напіюся.

Вызу до домы и свою Хрыстыну,
коб и дочка Поліссем прычастылась,
у полышчучку охрыстылась,
бо јіј за мною пісню заспываты
хорошым, ласкы повным словом,
шырокым, дужым и высёлым,
яку ля мні спывала моя маты.
А сылу на такэ ля јіј спыванне
дасьть но в говирцы ридниjі
купанне,
дасьть — духом ридным годованне!

Направду так воно и е!

---

**балéсы — галасы**
**могајбо — форма вітання**

**Анатоль ЖУК**



# ПАЖАР

АПАВЯДАННЕ

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

**З тэатра часцей за ўсё прыходзяць у драматургію. Мне здаецца, што Анатоль Жук будзе выключэннем. Яго першыя апавяданні не назавеш «першай пробай пяра». Гэта ўжо добрая проза. Гэта свой свет, свае героі, свае характары, свой погляд на звыклыя і, здаецца, знаёмыя кожнаму сітуацыі і канфлікты. Знаёмыя, але не банальныя. Героі Анатоля Жука мала гавораць, больш думаюць. За іх ціхімі простымі словамі стаіць бурлівае і зусім не простае наша жыццё. Прадстаўляць Анатоля Жука няма патрэбы. Ён — вядомы ў рэспубліцы акцёр, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі. Гледачы добра яго ведаюць па спектаклях у Тэатры юнага гледача, на радыё, на тэлебачанні.**

**Хочацца пажадаць, каб дзве музы ў яго творчасці былі добрымі сёстрамі.**

**Аляксей ДУДАРАЎ.**

Хата загарэлася адразу. Яе падпаліла маланка. Старэнькая, высушаная, нават пад дажджом яна гарэла лёгка і весела. Тушыць не было каму, усе мужчыны і жанкі былі на касьбе, кіламетраў за дзесяць ад вёскі, і засталіся ад яе толькі печ з абпаленым комінам ды кучы чорных галавешак.

Надвячоркам усе, хто вяртаўся з касьбы,— гэта вестка да іх дайсці пакуль не паспела,— яшчэ здалёк заўважылі нязвыклую вялізную дзірку ў стройным радзе вясковых хат, і трывожная гамонка пайшла па вазах. Усе прыўставалі, уздымаючы галовы, стараліся разгадаць незразумелае. Урэшце Васька Міканораў, які ехаў на першым возе, крыкнуў:

— Хата згарэла... Яромішына!..— і сцебануў пугай па крутых баках рыжай кабылы, пусціў яе ў галоп. За ім панеслася яшчэ некалькі вазоў, а астатнія наадварот — спыніліся.

Людзі знямелі. І такая цішыня павісла ў паветры, што нават стала чутно, як у прыдарожнай траве стракочуць конікі.

Усе павярнуліся да воза, на якім сядзела Яроміха. Сівая, шасцідзесяцігадовая жанчына здзіўлена паглядзела на людзей.

— Што?..— запытала яна.

Усе маўчалі.

Тады паволі яна злезла з воза і праз луг, напрасткі, пайшла да вёскі. Хутчэй, хутчэй. Потым, як магла, пабегла.

Якісьці жаночы голас усхліпнуў і адразу ж змоўк...

Потым яе бачылі на пажарышчы. Чорная, як восеньскі грак, ад сажы, яна перабірала галавешкі, разграбала попел... і гэтак да ночы.

Да яе падыходзілі, пыталіся, што шукае, спачувалі, клікалі да сябе начаваць.

Прыходзіў старшыня сельсавета, доўга маўчаў, потым таксама гаварыў:

— Нічога, Маня, хату новую пабудуем, лепшую за гэту. Шыферам пакрыем. Зараз гэта проста, не сорак пяты.— Глыбока зацягваўся цыгарэтай, абпальваючы пажоўклыя ад дыму пальцы.— А пакуль у пуні пажывеш, не згарэла, дзякуй богу. А то і да мяне можна, месца ёсць. А да зімы справімся.

Але яна нікога і нічога не слухала. І пакуль не перакапала ўсё папялішча, спяшаючыся і штосьці прыгаворваючы, не супакоілася. І толькі тады, калі ўсё было перакопана, неяк адразу ўся прыціхла, звяла.



Вялізны месяц вісеў над зямлёй. Было ціха і пуста. У суседніх хатах ужо спалі, і мала дзе гарэў жывы і вясёлы агеньчык.

Паволі яна пайшла да пуні, у цемені намацала драбіны, залезла на сена...

Раніцой суседка, якая зазірнула, каб запрасіць яе на сняданак, знайшла яе ў гарачцы. Бязладна паўтараючы словы, кідаючыся на шорсткім сене, яна трызніла.

Яе перанеслі да суседкі ў хату, і тут жа выкліканы мясцовы фельчар устанавіў:

— Нервы гэта...— І, трошкі памаўчаўшы, дадаў: — Вытрывае арганізм — будзе жыць, а не...— і неяк вінавата развёў рукамі.

Іншы раз яна як быццам ачуньвала. Мутным позіркам абводзіла людзей, нікога не пазнавала і праз нейкі час зноў пачынала трызніць. Аблізваючы языком сухія вусны, яна быццам малі-

лася, паўтараючы штосьці адно і тое ж. Да яе нахіляліся, пыталіся, чаго яна хоча, але, так і не атрымаўшы адказу, адыходзілі. Чакалі.

Арганізм не вытрываў. На другі дзень, раніцой, яна памерла.

У дамавіне з сасновых дошак, якія моцна пахлі жывіцай, яна ляжала маленькая, сухая, быццам дзяўчынка-падлетак, з тоненькай жоўтай свечкай у руках, якія на вечны спакой, ужо рукамі блізкіх людзей, былі складзены ў яе на грудзях.

— Ну, вось і адпакутавала,— гаварылі, уздыхаючы, людзі, і штосьці трывожнае стаяла ў іх вачах, як быццам ва ўсім гэтым была часцінка іх віны, якую выправіць ужо, на жаль, немагчыма, і яна вечным цяжарам ляжа на іх душы.

Пахаванне было на наступны дзень. Людзей сабралася многа. Сцішаныя, яны стаялі на двары і на вуліцы ў чаканні, калі пачнуць выносіць.

Урэшце зайграла музыка: панеслі.

І адразу ж захліпалі бабулі. У чорных хустках, яны неяк пакорліва ішлі за дамавінай, выціралі слёзы.

На могілках прамоў не было. Ды і што казаць? Жыў чалавек як усе, працаваў як усе, а гэта кожны ведае.

На вячэру сабраліся ўсе, хто хацеў. Добрым словам паміналі нябожчыцу.

Вечарам разышліся.

Жыццё ішло сваім шляхам.

Праз два дні пасля пахавання прыехаў Іван, адзіны сын Яроміхі, які працаваў недзе на Поўначы. Яму адбілі тэлеграму яшчэ ў першы дзень хваробы.

Некалі худзенькі, танюсенькі, зараз ён быў здаровы, цяжкі мужчына, з раннімі залысінамі.

Ягор Дружын, былы калгасны каваль (зараз ён быў на пенсіі), сусед Яроміхі, адвёў яго на магілу. Стаялі моўчкі. Потым дасталі бутэльку, тры шклянкі (трэцюю паставілі на магілу), расклалі цыбулю, хлеб, сала — выпілі. Маўчалі. Кожны думаў пра сваё. Іншы раз Ягор пагладваў на Івана, на яго мокры ад гарачыні твар: той неяк увесь сцяўся, пацямнеў, цяжкія мяшкі віселі пад вачамі. Лёгкі ветрык варушыў яго рэдкія, схопленыя сівізной валасы.

— На пахаванне што спазніўся? — запытаў Ягор.



— Надвор'е нялётнае было. Чакаў...— выціснуў Іван.

Потым зноў цішыня.

Жоўты пагорак зырка выдзяляўся сярод сумнага і аднастайнага малюнка могілак. І было ў гэтай зыркасці нешта трывожнае, балючае для душы.

Зусім нябачны, высока ў небе заліваўся жаваранак.

Хацелася піць. У горле перасохла, казытала. Іван плюхнуў у шклянку гарэлкі, залпам выпіў. У галаве шумела.

— Пойдзем,— крануўшы за плячук Івана, сказаў Ягор.— Будзя...

Цяжка ступаючы за Ягорам, Іван намагаўся ўсвядоміць тое, што так нечакана на яго звалілася, але думкі, наскокваючы адна на адну, блыталіся і ўрэшце зусім губляліся ў бурлівым віры памяці, быццам кроплі дажджу ў хуткай плыні вады.

Вечарам, калі ўжо сядзелі за сталом і вячэралі, Іван запытаў:

— Хаваў хто?

— Людзі хавалі,— адказаў Ягор.

— Грошы, грошы на вячэру хто даваў? — удакладніў ён.— Вінен каму?

Ягор падняў галаву і, гледзячы ў чорнае начное акно, ледзь варухнуўшы губамі, вымавіў:

— Ёй вінен,— і хітнуў галавой у бок могілак.— Вось ёй і вяртай.

Іван сцяў зубы, на шырокім твары забегалі жаўлакі.

— Дык што ж мне цяпер, галавою ды ў вір?! — грымнуў ён.

— А ты не крычы,— спакойна перабіў Ягор.— Не крычы. Не вінен — даруецца, а вінен... бог суддзя. Я табе не брат, не сват, можаш і не слухаць мяне,— працягваў ён.— Вось толькі адно скажу: не мая справа, што там у вас адбылося, але за ўсё, сынок, плаціць трэба. Плаціць той жа платай, якой табе плацілі. Так яно заўсёды было. І шкада, што многія, іншы раз, прыходзяць да гэтага надта позна. І вось тады плата ўдвая бярэцца. Як кажуць, пеня нарасла.

Зноў доўга маўчалі.

Ягор паволі жаваў, тоненька наразаючы сала, а Іван, уперыўшыся позіркам у куток, курыў. Яму было горка і балюча. «Ну, у чым, у чым я вінен?» — пытаўся ён сябе самога і не знаходзіў адказу. Хацелася плакаць, але было сорамна перад Ягорам, і ён з усіх сіл стрымліваў сябе. «Ну, пасварыліся крыху — дык сама ж вінавата! Навошта лезла не ў сваю справу?!.. І грошы назад вяртала. Высылаў жа, кожны месяц высылаў! Жыла б сабе, і ні аб чым не дбала. А тут, лухта нейкая.»

Але за ўсім гэтым Іван не знаходзіў таго ўнутранага спакою, якога зараз так жадаў. І чым больш ён думаў, тым вастрэй расло ў ім адчуванне чагосьці незразумелага, цяжкога.

— Маці на пажарышчы ўсё нешта шукала,— сказаў Ягор,— мо каштоўнасці якія?

— Якія там каштоўнасці,— пацісвуў плячамі Іван.— Калі і было што, дык за маю вучобу ўсё выйшла, сам ведаеш.

— Яно то так, канечне,— згадзіўся Ягор.— Відаць, моцна яе гэта ўсё ўзрушыла. А мы, бачыш, адразу і не сцямілі. І нібыта павінны былі сцяміць, а ўсё адно як пасляплі. І бачылі, што гора, а думалі — перажыве, ёй не прывыкаць. А яна вунь як...— І, крыху памаўчаўшы, запытаў: — З гаспадаркай што рабіць будзеш?

— А-а, што хочаце,— махнуў рукой Іван.

— Як гэта, што хочаце?! — ускіпеў Ягор, але адразу ж узяў сябе ў рукі і загаварыў амаль спакойна: — Э не, так нельга. Гэта табе што, семачкі? Лузгануў ды выплюнуў? — Яго сівыя бровы збегліся на пераноссі, а невялікія светлыя вочы глядзелі жорстка і прама.— А ты ведаеш, сынок, чаго каштавалі гэтыя «семачкі»? — працягваў ён.— Не ведаеш? Дык я табе скажу: жыцця! Яе жыцця, ды і другіх таксама. Гэта праца. І пляваць на гэта нельга! Гэта разумець трэба. Ды і твае карані ў гэтай зямлі ляжаць, тут яны,— і ён пальцам тыцнуў пад ногі.— І без іх ты, што бот без падэшвы, плюнь ды выкінь! Вось і давядзі ўсё да толку, як маецца, па-людску. А як жа інакш?!..

І закурыў. Зрабіў глыбокую зацяжку, закашляўся, потым кінуў цыгарэту на падлогу, затаптаў.

— Цьфу ты!..— крута мацюкнуўся.— Год, як у рукі не браў, а тут... Адвык, відаць,— потым падняўся, зняў ручнік, што вісеў на цвіку ля дзвярэй, не спяшаючыся выцер губы, рукі і, збоку гледзячы на Івана, сказаў: — Ты не сярдуй, канечне. Што не так — даруй... Хаця, што там! — І махнуў рукой.— Разумець трэба...

Начная ліпеньская прахалода лёгка струменіла праз расчыненае акно ў пракураны душны пакой. Дзесьці гучна брахалі сабакі, напаўняючы прыціхлую пасля клапотнага летняга дня вёску ўжо зусім другім жыццём, жыццём ночы. Але часам рабілася так ціха, што нават было чутна, як у бязветраным садзе шапочуць дрэвы. Залітыя месячным святлом, яны адсвечвалі буйнымі пладамі яблыкаў, напаўняючы паветра тонкім пахам.

Іван слухаў гэту цішыню, і штосьці далёкае, даўно забытае, паволі падымалася ў ім, цёплай хваляй пяшчоты напаўняла сэрца. І адразу ж да дробязі ўспаміналася дзяцінства: час, калі не вярнуўся з фронту бацька, калі маці начамі глуха плакала ў падушку, і ён, прыкінуўшыся, што спіць, усё гэта чуў, і горкае слова «ўдава», якое назаўжды прыляпілася да яе... Школа... Армія... Інстытут...

Як даўно гэта было!

«Колькі ж прайшло часу? — думаў ён.— Колькі вады выцекла з тае пары, і як хутка?!.. Сам ужо чацвёрты дзесятак стоптваю!»

Дакураная цыгарэта балюча апякла пальцы. Ён рэзка трасянуў рукой, кінуў яе за акно, выбіў з пачка новую, зноў закурыў.

І вось зноў думкі хуткімі птушкамі несліся ў яго галаве, балюча хвалюючы ў ім тое, адзінае, пра што раней не даводзілася думаць, што дагэтуль не ўзнікала крутым пытаннем, а было так, само сабой зразумелае, звыклае. Думаў пра тое, як недарэчна тады ўсё атрымалася, і як некалькі разоў ён збіраўся прыехаць, усё высветліць, наладзіць, адным словам, як кажуць, паставіць кропкі над «і», але чамусьці ўсё адкладваў з году на год, думаючы, што паспеецца, і вось...

— А што, Ягор, пра мяне маці нічога не гаварыла? Не ўспамінала? — асцярожна запытаў Іван.

— Ды як быццам бы і нічога...

— Значыць, адрэзала! — выдыхнуў Іван.

— Эх! — Ягор крыва ўсміхнуўся.— Адрэзала?!.. Ды што там... Сам бацька, хутка спазнаеш.— І палез на печ, пакрэхтваючы і вохкаючы, і ўжо адтуль, звесіўшы худыя жылістыя ногі, неяк спакойна, быццам дзівячыся, заўважыў:

— Халодныя вы нейкія... Усё грашамі ды навукамі вымяраеце, а вось пра душу і забыліся. Зусім забыліся...— І лёгка паціраючы паясніцу, запытаў:

— Спаць дзе будзеш?

— Да сябе пайду, на сена.

— Ну, вольнаму воля, а я тут. Штось круціць мяне, відаць, пагода на злом пойдзе,— і пачаў укладвацца.

Яшчэ колькі часу Іван сядзеў не рухаючыся, быццам уважліва да чагосьці прыслухоўваўся, потым устаў і ўжо з парога, не гледзячы на Ягора, запытаў:

— Як ты думаеш, Ягор, што яе так хутка?..

— Не ведаю,— чамусьці адразу, быццам чакаў гэтага пытання, адказаў Ягор.— Не ведаю! Сам думай. І ўсё ж мне здаецца, што не хата...

На вуліцы Іван спыніўся, глыбока ўдыхаючы начное паветра. Яно злёгку п'яніла сваёй чысцінёй і свежасцю — галава кружылася. Так і хацелася паваліцца куды-небудзь у траву, забыць пра ўсё і, ні аб чым не думаючы, глядзець у неба, бяздоннае і зорнае, і дыхаць, проста дыхаць да болю ў грудзях, каб заглушыць другі боль, які паволі пачынаў расці ў сэрцы. Яшчэ невядомым адчуваннем ён усведамляў сваю віну, і таму перабіраў у памяці ўсё спачатку, жадаючы знайсці той абрыў, які з'явіўся пачаткам гэтага трагічнага канца, і зараз цяжкім каменем лажыўся на сэрца.

Перад ім ажывала ўсё яго жыццё, яго і яе: вось ён адыходзіць у армію, вяртаецца — усё нармальна. Вучоба ў інстытуце, накіраванне на Поўнач, жаніцьба — усё таксама нармальна. Развод... Стой! Тут стой! Трэба разабрацца. Так, значыць развод...

...Маці прыехала нечакана. Пэўна, гэтаму паспрыяла пісьмо, у якім ён напісаў ёй, што яны з Нінай (так звалі жонку Івана) разводзяцца. Калі Іван вярнуўся з работы, маці з Нінай сядзелі на кухні, пілі чай, размаўлялі. Іван адразу адзначыў, што вочы ў жонкі вільготныя: плакала. На стале ляжалі гасцінцы: вясковая каўбаса, вяндліна, грушы, яблыкі...

Дзеці спалі.

Згледзеўшы маці, Іван на нейкую хвіліну разгубіўся, затым падышоў да яе, абняў, пацалаваў.

— Ты чаму не папярэдзіла, што прыедзеш, я б сустрэў.

— Не хацела табе лішняй турботы ўчыняць.

— Ну, якая там турбота. У мяне ж машына на рабоце. Прыслаў бы... Ці сам прыехаў. А то ў нас амаль зіма ўжо, не тое, што ў вас...

— Нічога, не вялікая пані, сама, як бачыш, дабралася, не змерзла.

— Ну што ж... Тады я зараз... Пайду крыху памыюся... Ніна, звары, калі ласка, каву...

Ён зайшоў у ванную, пусціў ваду. Разумеў, што маці прыехала не проста так, не ў госці. За тысячы кіламетраў яе-на тое не выцягнеш. Тут справа іншая: развод. І таму зараз адчуваў сябе ніякавата. Як яна паставіцца да таго? Што скажа? Ды і з жонкай, пэўна, паспела пагаварыць...

Іван памыўся, прычасаўся, выйшаў на кухню. На стале ў шклянках дымілася кава, на талерцы ляжалі пячэнне, цукеркі.

Пілі каву моўчкі, быццам гэта была звычайная сустрэча. Але ўсё ж у гэтай звычайнасці адчувалася тое напружанне, якое ўзнікае тады, калі нешта патрабуе свайго вырашэння і ніхто не адважваецца пачаць першы.

Іван закурыў і, каб парушыць гэта маўчанне, запытаў:

— Ну, што там новага дома?

— А што там новага... Адны нараджаюцца, другія паміраюць... А ўсё астатняе, як у людзей.

Зноў змоўклі.

— Мама,— нарэшце не вытрываў Іван,— я ведаю, ты не проста так прыехала. Таму давай як ёсць. І тут няма чаго гуляць у хованкі.

— Яно, праўда, не маленькія, дык чаго ж тут гуляць.

— Дык вось. Ніне я не хлусіў, усё сказаў адразу. Яна зразумела. Так што... для нас усё вырашана... А ты, калі што не ясна, пытайся.

— Мне ўсё ясна, сынок, і нічога не ясна. Вось ты кажаш — усё вырашана. Для каго вырашана, для цябе? А для Ніны? І потым, як жа так, пражылі дзесяць гадоў разам, і тут раптам, як чужыя?..

— У жыцці, мама, рознае бывае.

— Гэта праўда — рознае: і з хлебам і без хлеба, і з горам і без гора, і смерць чалавека прыбярэ не ў час, і ўсё гэта, як навальніца, якая налятае нечакана, б'е, малоціць, і людзі перацерпліваюць. І вось гэта «рознае» я разумею. А тваё — не. Ніяк не разумею.

— Ну, разумееш... разлюбіў я Ніну. Памылка ў нас выйшла. Дык чаго ж у такім разе нам грызці адно аднаго, чаго мучыць? Лепш ужо разысціся, застацца сябрамі. А так... гэта не жыццё. Нічога агульнага ў нас няма.

— А дзеці?! Гэта хіба не агульнае? Як жа яны?!

— Дзяцей забяспечу...

— Чым?!

— Грашамі. Будуць не горш за іншых.

— А ласкай хто іх забяспечыць? Хто ім раскажа казку? Хто прыйдзе да іх Дзедам Марозам? Хто навучыць добраму слову і павазе?

— Ты, мама, як па пісанаму... Толькі жыццё — яно жыццё! Тысячы людзей разыходзяцца, і нічога, жывуць дзеці.

— Жывуць, сынок. Толькі чаго гэта ім каштуе, адзін бог ведае.

Увесь гэты час Ніна маўчала, як магла старалася не заплакаць. Іван падняўся, нервова прайшоўся па кухні, краем вока глянуў на жонку, затым зноў сеў, сказаў:

— Мама, тут усё вырашана, і нічога мяняць я не збіраюся. Я кахаю другую жанчыну, і Ніна пра гэта ведае. Ёй я пакідаю ўсё: і кватэру, і тое, што ў кватэры...

— Значыць, пры жывым бацьку — без бацькі, пры жывым мужу — нібыта ўдава...

— Ды пры чым тут удава?! Сустрэне чалавека, выйдзе замуж... Будуць жыць.

— Як жа яна выйдзе замуж, калі цябе кахае?

— Я яе не кахаю. Я!

Ніна заплакала, ускапілася, выбегла ў другі пакой.

Маці маўчала, нешта думала.

Іван хадзіў па кухні. Цяпер яны засталіся ўдваіх. Нарэшце маці ўзняла вочы на Івана, сказала:

— Сядзь, Іван, сядзь. Нагамі нічога не выхадзіш.

Іван сеў.

— Мне горка, што так атрымалася,— пачала маці.— Горка, Іван. Горка, што ты забыў пра сваё дзяцінства, што стаў думаць толькі пра сябе...

Іван варухнуўся, хацеў нешта сказаць.

— Ты не перапыняй, слухай. Болей табе гэтага ніхто не скажа. Ніна любіць цябе. Яна разумная жанчына, і мо таму, што разумная, яна, як ты кажаш, і «разумее» цябе. Толькі я не магу гэтага разумець. Хоць забі — не магу! Вы ж разумныя людзі... Вы ж думаць павінны. Як жа можна такое? Без бацькі... Што ж гэта творыцца сёння ў вас?!. Таму вось табе маё слова: пакінеш іх — ведаць цябе не хачу! Не сын ты мне. Не сын. А зараз ідзі спаць. Раніцою я паеду дахаты.

...«Значыць, так: я адвёз яе ў аэрапорт, яна паехала... Але калі ў гэтым уся віна, тады гэта магло б здарыцца адразу. А прайшло ж столькі часу?..»

Ад гэтай думкі ў яго на душы чамусьці крыху паспакайнела, але ён адразу ж адагнаў яе.

«Не, не! Тут штосьці не так! — сумняваўся ён.— Штосьці не так. Але тады што? Хата?»

І ўсё пачынала перакручвацца ў галаве спачатку, і так некалькі разоў. Але на адной мёртвай кропцы спынялася і далей ужо не ішло.

«Значыць, хата! — заключыў ён.— Яна! Эх, мама!»

Стала лягчэй, самі сабой заплюшчыліся вочы, і ён праваліўся кудысьці глыбока-глыбока...

Раніцой яго разбудзіў певень. Ён гучна пракукарэкаў, залапатаў крыламі, злятаючы з жэрдкі, і праз невялікае акенца, што было выразана знізу ў дзвярах пуні менавіта для курэй, выйшаў на двор.

Толькі зараз Іван заўважыў, што спаў не распрануўшыся. Касцюм скамячыў, асабліва штаны, і выглядаў ён так, быццам яго скамячылі для нейкай асаблівай патрэбы.

Прыкінуўшы ў галаве парадак і магчымасць сённяшніх спраў па ўладкаванні гаспадаркі (часу ў яго заставалася два дні), ён пераапрануў кашулю, штаны, дастаў мыла, ручнік, зубную шчотку — выйшаў на двор.

З-за лесу паволі ўзнімалася вялізнае чырвонае сонца. Залатыя струмені промняў, быццам іголкі, праціналі зялёныя шаты дрэў, і лісце на іх здавалася блакітным і як быццам зусім бязважкім. Адразу ж за гародамі, пакрыты густой дымнай расой, дыхаў луг.

Праходзячы да студні, Іван спыніўся на пажарышчы і доўга глядзеў на ўсё тое, што калісьці звалася хатай. І самі сабой знoўку ўзніклі малюнкі дзяцінства, адгукаючыся ў душы новым болем і сумам.

«Вось яно, тое адзінае,— думаў ён,— чаму мы ніколі не зможам здрадзіць памяццю і любоўю, што назаўжды застанецца ў нас цудоўным сімвалам вечнасці. І, дзіўна, чаму ж адлятаючы адсюль, мы не адчуваем таго, што прыходзіць да нас пазней, значна пазней, разумеем гэта толькі тады, калі ўжо нельга штосьці паправіць, за што пасля даводзіцца плаціць удвая...»

Крыху збоку, крокі са два ад пажарышча, за невялікім каменем Іван заўважыў маленькага шчанюка. Той сядзеў на нечым абгарэлым, з цікаўнасцю гледзячы на Івана. Іван прысеў перад ім на кукішкі, з усмешкай адзначыў, што сам па сабе шчанюк не чорны, а рыжы. Чорны ён таму, што запэцкаўся ў сажу.

— Ну, што, цяпа-расцяпа, давай знаёміцца,— сказаў Іван, падаючы руку.

Той абнюхаў яе, затым лізнуў, адышоў убок і, ужо зусім забыўшы пра Івана, заняўся сваімі справамі.

І раптам Іван пазнаў тое, на чым сядзеў шчанюк. Гэта быў куфэрак. Той самы куфэрак, у якім маці хавала розныя памятныя рэчы, што мелі хоць нейкае дачыненне да яго самога. Як ён апынуўся за гэтым каменем, у некалькіх кроках ад пажарышча,— было загадкай. Хутчэй за ўсё, у той момант, калі абрынуліся дах і сцены, яго туды адкінула. Зверху ён крыху абгарэў, але, абабіты ўсярэдзіне бляхай, захаваў усё, што некалі паклала туды маці: там былі фотакарткі і пісьмы... Яго пісьмы да маці. Апошняе было напісана шэсць гадоў назад...

# Сабор Парыжскай Божай Мацеры

Гісторыя сусветнага дойлідства ведае нямала прыкладаў, калі грамадская значнасць і вядомасць помнікаў культуры выходзяць далёка за межы іх канкрэтнай мастацкай каштоўнасці. Праходзячы, стагоддзі назапашваюць вакол іх своеасаблівую духоўную атмасферу, і яны становяцца не проста матэрыяльнымі аб'ектамі, а гістарычнымі вобразамі, сімваламі часу. Такім помнікам не толькі французскай, але і сусветнай культуры з'яўляецца Нотр-Дам — сабор Парыжскай божай мацеры.

Звернемся да эпохі класічнага сярэдневякоўя — часу, калі распачалося будаўніцтва знакамітага сабора. Гэта быў складаны і супярэчлівы час у гісторыі Францыі і ўсёй Еўропы. Краіна, раздробленая на мноства феадальных уладанняў, сцякае крывёю ў бясконцых міжусобных войнах. Адсутнасць добрых дарог абцяжарвае гандлёвы і культурны абмен з іншымі краінамі, тэрытарыяльнае размежаванне перашкаджае фарміраванню і развіццю дзяржавы. У свядомасць людзей глыбокія карані пусціла рэлігія, інквізіцыя неаслабна сочыць за кожным крокам чалавека. Галеча, цемра забабонаў і элементарнага невуцтва... Хваробы, холад страху за ўласнае жыццё ў сырых, няпаленых каморках і ў паўзмроку вузкіх крывых вулак... Культурнае жыццё засяроджана вакол сабораў і манастыроў, дзе не толькі ідуць богаслужэнні, але і пішуцца кнігі, зачытваюцца ўказы і нават наладжваюцца тэатральныя паказы на біблейскія сюжэты, гучыць музыка. Святло навукі толькі-толькі пачынае прабівацца з цемры сярэдневяковай схаластыкі ў асобных рэлігійных трактатах ды ў доследах алхімікаў.

Але жыццё тым часам не стаіць на месцы, і вось ужо пакрысе пачынаюць развівацца гандаль і рамяство, гандляры і рамеснікі становяцца гараджанамі, якія цягнуцца да ведаў і культуры. Адной з важнейшых асноў культуры становіцца дойлідства. Гільдыі муляраў і разьбяроў па камені пад кіраўніцтвам дойлідаў ствараюць новую архітэктуру, якая адрозніваецца ад цяжкага раманскага стылю ранняга сярэдневякоўя. Ужыванне каменнага каркасу, які становіцца канструктыўнай асновай новага архітэктурнага стылю — готыкі, дазволіла будынкам расці ўвысь, у неба, а гэта, у сваю чаргу, садзейнічала іх новай мастацкай выразнасці. Менавіта ў гатычным стылі ствараюцца цудоўныя тварэнні архітэктуры, такія, як саборы ў Рэймсе, Шартры, Ам'ене або Кёльне. І не выпадкова М. В. Гогаль пісаў аб гэтым стылі: «Гатычная архітэктура, тая гатычная архітэктура, якая склалася перад скончэннем сярэдніх вякоў, гэта з'ява, якой яшчэ не нараджаў густ і ўяўленне чалавека». Адной з вяршынь гатычнага мастацтва з'яўляецца парыжскі сабор Нотр-Дам.

Будаўніцтва сабора было распачата ў 1163 годзе ў час праўлення Людовіка VII. Месцам для будаўніцтва быў абраны востраў Сітэ — найбольш старажытная частка горада, з якой пазней вырас неабсяжны Парыж. У перыяд сярэдневякоўя тут у асноўным размяшчаліся саборы і манастыры.

Нотр-Дам будаваўся больш як 200 гадоў, што, паводле нашых уяўленняў, з'яўляецца тэрмінам надзвычай вялікім. Але трэба ўлічыць, што ўсе будынкі ў той час узводзіліся ўручную, з прымяненнем прымітыўных прылад працы. Да таго ж людзі да XIV стагоддзя не ведалі гадзінніка, і іх паняцці аб часе былі іншымі, чым у нас. Працягласць будаўніцтва сабора адбілася і на яго архітэктуры: магутная аснова, характэрная для раманскага стылю, пераходзіць у гатычныя каркасныя формы, якія завяршаюцца пышным дэкорам «сталай» готыкі.

Як і большасць сабораў таго часу, Нотр-Дам будаваўся па строгіх канонах — у аснове плана ляжыць выцягнуты прамавугольнік (базіліка), які перасякае папярочная частка — трансепт. Такім чынам, з паветра сабор нагадвае форму крыжа. Галоўны ўваход размяшчаецца ў заходняй частцы, а алтар, акружаны хорамі, звернуты да ўсходу і мае паўцыркульнае завяршэнне. Асноўная прастора храма раздзелена шэрагамі калон такім чынам, што ўтвараецца пяць пралётаў (нефаў) з галоўным цэнтральным, у якім і адбываліся асноўныя богаслужэнні.

Пабудаваны ў эпоху станаўлення готыкі, сабор Парыжскай божай мацеры ў адрозненне ад больш позніх помнікаў «сталай» готыкі, такіх, як саборы ў Мілане, Вене, Познані, касцёл святой Ганны ў Вільнюсе, не стварае ўражанне, нібыта ён лунае ў паднябессі. Наадварот, В. Гюго параўноўвае яго з «двухгаловым сфінксам», падкрэсліваючы яго магутнасць і манументальнасць, якая дасягалася хутчэй за ўсё за кошт груваcткай раманскай асновы храма. У першым ярусе сабора мы не заўважым тыповых для готыкі стральчатых арак, парталаў, акон, бо яны, як сцвярджаюць многія гісторыкі архітэктуры, былі запазычаны еўрапейцамі на Усходзе толькі ў час крыжовых паходаў.

Падышоўшы да галоўнага (заходняга) фасада, нібыта зазіраеш «у твар» сабора. Па вертыкалі фасад можа быць раздзелены на тры часткі — два ярусы асноўнага аб'ёму і дзве вежы трэцяга яруса, размешчаныя сіметрычна. Першы ярус, найбольш магутны і манументальны, мае тры ўваходы, аздобленыя парталамі са скульптурамі і арнаментамі. Завяршае ярус скульптурны пояс — фрыз, які складаецца з фігур на поўны рост. Гэта знакамітая «каралеўская галерэя» — 28 біблейскіх каралёў, якіх пазней пачалі асацыіраваць з французскімі каралямі. Такая гістарычная блытаніна магла ўзнікнуць яшчэ і таму, што ў сярэдневяковым мастацтве, як правіла, рэлігійныя і біблейскія персанажы паказваліся апранутымі ў касцюмы сучаснай аўтару эпохі.

Другі ярус заходняга фасада, пабудаваны па законах гатычнага стылю, мае тры акны аднолькавай вышыні. Гэта — круглае акно або акно — «ружа», як яго называюць у гатычнай архітэктуры, і два стральчатыя акны па баках. Гэтыя вокны з вітражамі — рознакаляровымі фігурнымі выявамі і арнаментамі з каляровага шкла, асаджанымі ў свінцовыя пераплёты,— выдатна асвятлялі высокі сабор. Другі ярус завяршае галерэя са стральчатых ажурных арак, падобных на каменныя карункі. На парапетах галерэі ўстаноўлены знакамітыя «хімеры сабора Нотр-Дам» — скульптуры фантастычных пачвар. Тэма «пякельных сіл» не новая для мастацтва сярэдневякоўя, якое такім чынам нагадвала людзям пра страшэнныя пакуты, што чакаюць на тым свеце грэшнікаў. Прынамсі, хімеры і монстры існавалі і ў рэальным жыцці — дастаткова прыгадаць неўтаймоўных феадалаў, лютых інквізітараў, а таксама разбойнікаў, якія бязлітасна рабавалі тагачасных падарожнікаў.

Высокія лёгкія вежы сабора імкнуць у вышыню, нібы намагаючыся пераадолець зямное прыцяжэнне і адарвацца ад зямлі разам з манументальным першым ярусам. Гледзячы на заходні фасад, ніколі не падумаеш, што ён несіметрычны, і толькі дасведчаныя людзі ведаюць, што яго левая частка вузей за правую на 1,75 м.

Звонку і ўнутры сабор аздоблены багатым раслінным дэкорам. Слупы калон нагадваюць ствалы дрэў, якія ўверсе пераходзяць у пакрытыя лісцем капітэлі. Галінкі з лісцем уюцца панізе ўздоўж сцен, караскаюцца па кутках. Дзе-нідзе калоны збіраюцца ў «пучкі» і пераходзяць у тонкія рэбры крыжовага скляпення.

Безумоўна, асноўнай мэтай архітэктуры сабора было стварыць урачыстую, прыўзнятую атмасферу, якой патрабавалі рэлігійныя абрады і цырымоніі, што тут адбываліся. У інтэр'еры гэта дасягаецца накіраванасцю ўсіх ліній угару, да высокага скляпення, строгім рытмам слупоў і незвычайным святлом, якое ліецца праз вясёлкавыя вітражы і стварае святочны настрой. Архітэктура нібыта заклікае чалавека да набожных дум і мар аб бязвоблачным райскім шчасці. Ад цяжкага зямнога жыцця з яго неўладкаванасцю, ненадзейнасцю, расчараваннямі і засмучэннямі — да ўзвышанага нябеснага жыцця, якое набліжаецца да чалавека і набывае сэнс менавіта тут, у сценах храма.

Гэтай жа задачы падпарадкавана і дэкаратыўнае аздабленне сабора, яго скульптура. Біблейскія, рэлігійныя сюжэты пераважаюць у большасці кампазіцый. Амаль усе персанажы гэтых немудрагелістых сюжэтаў — адцягненыя вобразы без характэрнага выгляду, рухаў, жэстаў. І толькі некаторым з гэтых абагульненых вобразаў скульптар надае канкрэтныя чалавечыя рысы. Біблейскія героі набываюць адметныя характары і становяцца больш зразумелымі і блізкімі гледачу. Гэта быў ужо крок наперад у параўнанні з раманскім мастацтвам.

Пасля заканчэння будаўніцтва, паўстаўшы ва ўсім сваім харастве і веліччы, Нотр-Дам стаў галоўным храмам Парыжа, цэнтрам палітычных і рэлігійных абрадаў і святкаванняў, месцам каранацыі Напалеона Банапарта. Вобраз сабора заняў трывалае месца ў творах мастацтва, «каменная сімфонія», паводле слоў В. Гюго, загучала ў стагоддзях. Французскія і замежныя мастакі адлюстроўваюць Нотр-Дам на сваіх парыжскіх пейзажах, у творах шматлікіх пісьменнікаў сабор прысутнічае як візітная картка, сімвал Парыжа. Але сапраўдную сутнасць сабора раскрыў В. Гюго, стварыўшы свой бессмяротны раман «Сабор Парыжскай божай мацеры». Ён нібыта зразумеў «душу» сабора, у якой адлюстравалася духоўная атмасфера сярэдневякоўя, дзе сярод хімер, цемры невуцтва і кастроў інквізіцыі абуджаецца думка і пачуццё Чалавека. Гюго дапамог мільёнам людзей усяго свету пачуць «каменную сімфонію», прасякнуцца «духам» сабора. І сёння, праз стагоддзі, відаць, не аднаму са шматлікіх турыстаў, што сцякаюцца да Нотр-Дам з усяго свету, здаецца, што там, наверсе, у яго бясконцых галерэях у перадсмяротнай агоніі блукае Квазімода, прыціскаючы да грудзей гордую прыгажуню Эсмеральду, пакутуе ў трывозе абат, чыя дапытлівая думка не можа вырвацца з-пад каменных скляпенняў храма.

**Армен САРДАРАЎ,**
**кандыдат архітэктуры.**

**На здымку: галоўны фасад сабора Парыжскай божай мацеры.**

# ЯГО НЯЛЁГКАЯ ДАРОГА



*Эдуарду* **СКОБЕЛЕВУ — 50**

Аднойчы, у час сумеснай зімовай праходкі ў вечаровым парку ля Свіслачы ў Мінску, народны пісьменнік Беларусі Іван Пятровіч Шамякін, з цікавасцю прыглядаючыся да Эдуарда Скобелева, выгукнуў шчыра, не тоячы захаплення і павагі:

— Раманы, аповесці, драмы, вершы!.. Ды шчэ гэткія службовыя перагрузкі — проста дзіўлюся, як гэта можна скрозь паспяваць... Га, Эдуард Мартынавіч?

Эдуард Скобелеў усміхнуўся:

— У вас, між іншым, Іван Пятровіч, у вас гэтай працавітасці і вучымся. Галоўнае тут, як вы падкрэсліваеце, дысцыпліна працы...

І ў гэтых словах не было падробкі, жадання пакрасавацца і паказаць сябе чалавекам упартай волі, жалезнай дысцыпліны і нястомнай працы. У гэтым была і ёсць праўда складанай і нялёгкай, дужа ж пакручастай, скрозь у мастацкіх выбоінах, паэтавай дарогі Эдуарда Скобелева і літаратурнай і жыццёвай, якая даўжынёю зараз у пяцьдзесят гадоў.

Ён нарадзіўся ў Мінску. Скончыўшы Інстытут міжнародных адносін, даволі працяглы час знаходзіўся на дыпламатычнай службе, што была звязана са шматлікімі паездкамі і па краіне і далёка за яе межамі. Дарога заўжды вабіла яго, яна ўзбагачала, пашырала ўяўленні аб жыцці, адорвала сустрэчамі з новымі і цікавымі спадарожнікамі, прымушала думаць аб стракатай панараме з'яў і падзей, якія, даволі часта, вымагалі не слова, а дзеяння.

Мабыць таму першы паэтычны зборнік, які быў выдадзены выдавецтвам «Беларусь» у 1969 годзе ў серыі «Першая кніга паэта», пачынаецца наступнымі радкамі: «Кто-то первый прошел по земле, а за ним остальные пошли,— так возникла дорога. Это трудно — дорогу открыть, это нужно — дорогу открыть, ведь иначе — не стоило жить!»

Сёння можна з абсалютнай упэўненасцю сказаць, што паэт дамогся таго, пра што дакляраваў у сваім першым вершы свайго першага паэтычнага зборніка — за гэтым зборнікам было яшчэ некалькі паэтычных кніг! — і што гэтае — «дорогу открыть» — не засталося словамі абяцання: свая, адметная адкрыта і знойдзена паэтам дарога, і яе ужо не пераблытаеш з іншымі сцяжынамі, хай сабе нават і больш вензелястымі, і дарогамі больш шырокімі.

Драмы пра поле Кулікова і Сакрата, пра Кастуся Каліноўскага і Сімяона Полацкага, пра Джардана Бруна і цара Эдыпа прыцягнулі адразу ўвагу чытача свежым словам, яркім святлом ідэй і вобразаў, якія блізкія і зразумелыя нашаму сучасніку, прывабілі плёнам таленавітага літаратурнага пошуку.

Зусім нечаканым адкрыццём з'явіўся яго раман «Мирослав — князь дреговичский». Стылізаваная мова, дзівоснае стараславянскае пісьмо, якім пісьменнік валодае дасканала, прымусіла шмат якіх прызнаных карыфеяў літаратуры ў спаважным здзіўленні разводзіць рукамі. А чытач паставіўся да гэтага твора адназначна: тыраж кнігі, даволі значны для рэспублікі, быў, як, дарэчы, і папярэдні раман «Шаги за твоей стеной», рэаліза-

# ПАД ШЧАСЛІВАЙ ЗОРКАЙ



*Мікалаю* **СЯРДОБАВУ — 80**

Пра народнага артыста БССР Мікалая Мікалаевіча Сярдобава з усёй упэўненасцю можна сказаць, што ён нарадзіўся пад шчаслівай зоркай. Бо жыццё яго надзвычай багатае на творчыя ўдачы, шчаслівыя сустрэчы, выпадкі і супадзенні. Хіба не шчаслівае супадзенне, што яго 80-годдзе, якое шырока адзначаецца музычнай грамадскасцю рэспублікі, супала з 25-годдзем работы мастацкім кіраўніком адзінага ў Беларусі Народнага опернага тэатра пры Палацы культуры прафсаюзаў? 60 гадоў шчасліва працаваў М. Сярдобаў на ніве савецкага мастацтва, з іх 40 гадоў сваёй яркай артыстычнай, педагагічнай і грамадскай дзейнасці прысвяціў развіццю і росквіту беларускай нацыянальнай культуры.

Пазнаёміў мяне з гэтым незвычайным чалавекам яшчэ ў 1946 годзе галоўны канцэртмайстар Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета С. Талкачоў. Прывабная ўсмешка, прыемны тэмбр голасу, увага да субяседніка, таварыскасць спевака адразу ж скарылі мяне, і ў далейшым я з вялікай сімпатыяй сачыў за дзейнасцю новага артыста. А ён з першых жа дзён актыўна ўключыўся ў работу, як кажуць, з галавой увайшоў у жыццё тэатра. Яго першай работай у нацыянальнай драматургіі была роля Кастуся Каліноўскага ў аднайменнай оперы Д. Лукаса. Усведамляючы, якая вялікая адказнасць ускладзена на яго, імкнучыся стварыць сапраўды рэалістычны вобраз нацыянальнага героя, Мікалай Мікалаевіч інтэнсіўна вывучаў гісторыю Беларусі, беларускую мову, працаваў над вымаўленнем, пазнаёміўся з аўтарам музыкі і драматургам М. Клімковічам.

Яшчэ перад пачаткам работы над операй Д. Лукас запрасіў Сярдобава да сябе і напаўголасу праспяваў увесь твор. Дайшоўшы да сцэны пакарання смерцю, кампазітар не вытрымаў развітання са сваім героем і заплакаў. Гэты кранаючы эпізод настолькі ўразіў Сярдобава, што ўся яго далейшая работа над роляй праходзіла пад уплывам эмацыянальнага ўзрушэння.

У 1947 годзе, у дзень адкрыцця адноўленага і адрэстаўрыраванага пасля вайны тэатра, адбылася прэм'ера оперы «Кастусь Каліноўскі». Спектакль прайшоў з вялікім поспехам, а Сярдобаў у ролі Каліноўскага заслужыў асаблівую ўвагу. Варта адзначыць, што менавіта ён быў лепшым выканаўцам гэтай ролі на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. Каліноўскі Сярдобава — чалавек высокай духоўнай культуры, выхаваны на ідэях рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў, мужны змагар за народную праўду і свабоду.

Далучэнне да музыкі ў Сярдобава пачалося з маленства, калі па просьбе дырэктара Самарскай гімназіі яго прынялі ў царкоўны хор. Магчыма, на гэтым бы і скончылася музычная кар'ера хлопчыка з небагатай сям'і, калі б не прагрымела над светам, як першы вясновы

# СЛОВА З НАГОДЫ



*Да 75-годдзя Івана ШАЦІЛЫ*

Сама прырода дала Івану Браніслававічу Шаціле для акцёрскай прафесіі калі не ўсё, то, прынамсі, найбольш важнае і істотнае — прыгожую паставу, сцэнічную абаяльнасць, даволі моцны драматычны тэмперамент, гнуткі, прыгожай тэмбравай афарбоўкі голас, выразную пластычнасць. Так, Шаціла быў народжаны для тэатра, на цікавыя, буйныя ролі, пераважна сацыяльных герояў. І ён прыйшоў амаль адразу ж пасля заканчэння аднагадовых драматычных курсаў на галоўную сцэну рэспублікі — у Першы беларускі дзяржаўны тэатр, які носіць цяпер імя Янкі Купалы.

Аднак творчая ўдача, у што асабліва верыць і на што вельмі спадзяюцца акцёры, далёка не заўсёды спадарожнічала Шаціле. У свае дваццаць два гады ён увайшоў у творча сфарміраваны, з'яднаны калектыў купалаўцаў, дзе на сцэне ў поўным сэнсе слова ўладарылі акцёры першага заклiку. У іх быў ужо багаты вопыт, высокае майстэрства. Тут найперш трэба адзначыць У. Крыловіча, які на той час знаходзіўся ў росквіце сіл, у зеніце славы. Хутка вылучыўся ў калектыве і заняў вядучае становішча У. Уладамірскі. Сфарміраваліся, заваёўваючы ўсё большыя творчыя вышыні, Б. Платонаў, Г. Глебаў, Л. Рахленка.

Іван Шаціла быў прадстаўніком другога пакалення купалаўцаў. Яно было надзвычай нешматлікім, у цэласную групу менавіта як пакаленне, бадай, так і не склалася: вельмі ж ужо яркія і творча мабільныя былі зачынальнікі тэатра. Тым не менш, у Шацілы былі свае зорныя часіны. У перадваенны перыяд яны перш за ўсё звязаны з вобразам Рыгора ў «Партызанах» К. Крапівы. Акцёр праводзіў ролю тэмпераментна, з глыбокім драматычным напружаннем, маляваў складаны, псіхалагічна тонкі партрэт персанажа, увогуле быў у спектаклі дастойным партнёрам У. Уладамірскага, Г. Глебава, В. Пола. Адно з яго буйных і прынцыпова важных дасягненняў у гады Вялікай Айчыннай вайны — вобраз Сафонава ў п'есе К. Сіманава «Рускія людзі». Высокі грамадзянскі пафас, якім быў шчодра надзелены Шаціла, пранізваў гэту работу, надаваў ёй вялікае патрыятычнае гучанне. А побач з мужным, знешне стрыманым воінам Сафонавым успамінаецца паэтычны, лятуценны Якім Сарока ў купалаўскай «Паўлінцы». У пяцідзесятыя гады сапраўдным творчым здабыткам стаў вобраз Янкі Купалы ў «Шчасці паэта» В. Віткі, цэнтральны і, бадай, вяршынны ў акцёрскай біяграфіі Шацілы. Запалі ў памяць лірычны Мікола Верас з пастаноўкі «Пяюць

ваны літаральна за нейкі тыдзень.

Гэткі ж лёс напаткаў і наступную кнігу пісьменніка «Катастрофа» — раман пра магчымую атамную вайну, кнігу бязлітасную і бескампрамісную. Аналагаў ёй у нашай беларускай літаратуры няма. Гіпатэтычныя рэаліі бяды, якую зрыхтаваў розум чалавечы, падрабязнасці сапраўды магчымай, а не літаратурнай «катастрофы» прымушаюць чытача здрыгануцца ад жахлівай бяды, якая можа спасцігнуць чалавецтва, прымушаюць кожнага з абвостраным пачуццём асабістай адказнасці штодня думаць пра будучы лёс планеты, паўсядзённа нешта актыўнае рабіць, каб той вар'яцкі агонь не выдраўся на волю і не спапяліў усё жывое на зямлі.

У апошнія гады Эдуард Скобелеў даволі актыўна заявіў аб сабе і як аўтар кніг для дзяцей малодшага і школьнага ўзросту: выходзіць у свет аповесць прыгодніцкая, на старонках часопіса «Вясёлка» друкуюцца цікавыя казкі.

Ёсць яшчэ і перакладчык Эдуард Скобелеў. Перакладаючы творы беларускіх паэтаў на рускую мову, ён з выключным майстэрствам заўжды спасцігае і змест твора і яго мастацкую структуру, даносіць да чытача своеасаблівасць і непаўторнасць арыгінала.

Неабходна сказаць і пра літаратурную крытыку, на ніве якой з'яўленне рэцэнзій і крытычных артыкулаў Эдуарда Скобелева не засталося па-за ўвагаю літаратурных колаў і чытача. Яго крытычныя артыкулы на новыя кнігі прозы і паэзіі, развагі аб праблемах развіцця беларускага мастацкага слова вызначаюцца своеасаблівым стылем, дакладнасцю крытычнага аналізу, прынцыповасцю зробленых акцэнтаў і высноў.

А вось рэакцыя прафесійнай крытыкі на творы Эдуарда Скобелева гэтымі якасцямі, на жаль, не вызначаецца. Ствараецца ўражанне, што яна, крытыка прафесійная, разлічвае на другую палову стагоддзя, якая разгортвае перад пісьменнікам свае таямніцы і добрыя перспектывы, поўныя творчага гарэння, нястомнай і карпатлівай працы.

А чытач чакае новых кніг пісьменніка. Чакае з добрай надзеяй і спадзяваннямі.

**Алесь САВІЦКІ.**

---

гром, Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя. Вось тады, відаць, і ўзышла над яго лёсам шчаслівая зорка, як узышла яна над лёсамі мільёнаў маладых, дапытлівых юнакоў і дзяўчат, якія імкнуліся да навукі, мастацтва.

У 1918 годзе пры штабе Туркестанскага фронту, які знаходзіўся ў Самары, быў створаны хор. У складзе гэтага хору Мікалай два гады выступаў у чырвонаармейскіх часцях, шпіталях, на прызыўных пунктах. Песні выконвалі рэвалюцыйныя, народныя, з класічнага рэпертуару. Магчыма, тады і з'явілася ў юнака свядомае імкненне стаць прафесійным спеваком. І неўзабаве — зноў жа пашанцавала! — ён быў залічаны ў хор Самарскай опернай трупы.

Азіраючыся на жыццёвы і творчы шлях Сярдобава, хочацца адзначыць, што перыяд яго творчай дзейнасці ў Беларусі быў найбольш значным і яркім. Творчасць Сярдобава неаддзельная ад гісторыі беларускага тэатра і беларускай культуры. Незабыўныя вобразы стварыў М. Сярдобаў у спектаклях нацыянальнай драматургіі — операх «Кастусь Каліноўскі» Д. Лукаса, «Дзяўчына з Палесся» Я. Цікоцкага, «Надзея Дурава» А. Багатырова. З вялікім поспехам ён выконваў ролі і ў класічным рэпертуары, аднолькава здзіўляючы і захапляючы ў ролі Анегіна і Рыгалета, Алека і Дэмана, Скарпія і Мацея.

З 1960 года М. М. Сярдобаў узначальвае Народны оперны тэатр пры Палацы культуры прафсаюзаў. Ужо маючы такіх выдатных вучняў, як А. Падгайскі, Д. Марозаў, В. Прышчапёнак, Мікалай Мікалаевіч нястомна перадае самадзейным выканаўцам свае веды і вопыт, выхоўвае дастойную змену. За вялікую і плённую працу ў Народным оперным тэатры М. М. Сярдобаў узнагароджаны ордэнам Леніна.

У дзень слаўнага юбілею таленавітага артыста хочацца падзякаваць яму за вялікую, плённую працу, пажадаць новых поспехаў на шляху служэння музычнаму мастацтву.

**Браніслаў СМОЛЬСКІ,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.**

---

жаваранкі» К. Крапівы, парывісты Рыбакоў у «Крамлёўскіх курантах» М. Пагодзіна, сыграны эмацыянальна, з драматычным тэмпераментам. Можна было б назваць і іншыя цікавыя работы артыста — спіс яго роляў даволі багаты і разнастайны.

У канцы пяцідзесятых — у пачатку шасцідзесятых гадоў пакідаюць падмосткі карыфеі, заснавальнікі тэатра. Талент Шацілы наадварот пачынае раскрывацца на поўную сілу, здзіўляючы новымі гранямі. І якраз у гэты перыяд ён робіць нечаканы крок — у 1961 годзе пераходзіць у Дзяржаўны рускі тэатр БССР імя М. Горкага. На падмостках горкаўцаў артыст выступіў у цікавых, змястоўных ролях — Аляксея ў «Аптымістычнай трагедыі» У. Вішнеўскага, Паратава ў «Беспасажніцы» А. Астроўскага, Давыдава ў «Паднятай цаліне» паводле М. Шолахава.

Але Шацілу так і не ўдалося парадніцца з новым калектывам — занадта нацыянальна каларытным, беларускім па складу мыслення, па ўсёй сваёй сутнасці быў Шаціла. І таму нярэдка выглядаў адасобленым, як бы адчужаным у спектаклях рускага тэатра. І чым больш ён выступаў на сцэне, тым нагляднёй гэта выяўлялася, станавілася зразумелым, у тым ліку і для самога Шацілы.

Праз шэсць гадоў акцёр зноў вярнуўся на купалаўскую сцэну. Тут ён быў уведзены ў гатовы ўжо спектакль «У мяцеліцу» Л. Лявонава на ролю Сыраварава. Сыграў яе з высокім трагедыйным напалам, высокім майстэрствам. Уяўлялася, што з Сыраварава пачнецца новы этап творчасці. Але сіл у артыста заставалася ўжо нямнога, і праз нейкі час ён назаўсёды пакінуў падмосткі. Сыраварам стаўся своеасаблівай лебядзінай песняй, якую ён праспяваў захапляюча, натхнёна, на ўвесь голас.

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ.**

---




**Карлас ШЭРМАН**

Нягледзячы на сур'ёзныя эканамічныя праблемы, ва ўмовах навязанае блакады, кубінцы робяць усё, каб пашырыць далягляды сваёй культуры. Сродкаў на ідэалогію не шкадуюць. Разумеюць, што затраты гэтыя заўжды акупляюцца. Я маю на ўвазе таксама тое, што літаратары і дзеячы мастацтва Кубы жывуць прыстойна ў сэнсе жылля, заробку, рэальнай магчымасці друкавацца, зараз будуюцца дамы творчасці, ствараецца Літфонд накшталт нашага (трэба ведаць, што раней яны жылі-працавалі ў жудасных умовах), але і перш за ўсё гавару пра знешнія сувязі, якія б'юць па блакадзе новымі даследаваннямі, перакладамі, нарысамі, вершамі і г. д. у розных краінах свету (думаю, не я адзін зараз пішу пра Кубу). Уявіце самі: пры мне, адначасова, праходзілі: традыцыйны лацінаамерыканскі кінафестываль, у якім таксама ўдзельнічалі еўрапейскія дзеячы з фільмамі лацінаамерыканскае тэмы; міжнародная нарада мастакоў, да якой вельмі дарэчы прымеркавалі Нацыянальны салон жывапісу і скульптуры; міжнародная сустрэча кампазітараў; нарэшце, наш вялікі форум па кубінскай прозе за чвэрць стагоддзя. Дадам, што літаральна напярэдадні завяршыў працу зноў-такі міжнародны сімпозіум, прысвечаны творчасці сусветна вядомага кубінскага літаратуразнаўца і бліскучага празаіка Алеха Карпенцьера (1904—1980), творамі якога магла б ганарыцца любая літаратура свету. Вельмі прадстаўнічая савецкая дэлегацыя на сімпозіум засталася з намі на тры дні, каб прысутнічаць на афіцыйных пасяджэннях форуму — гэта былі Вера Куцейшчыкава і Леў Аспават, вядомыя іспаністы, дактары філалогіі з Інстытута сусветнае літаратуры імя Горкага, з якімі раней я быў знаёмы, і Юрый




Дашкевіч, эсэіст і перакладчык, аўтар пятнаццаці твораў пра Алеха Карпенцьера, загадчык іспанамоўнай рэдакцыі часопіса «Иностранная литература». На форуме замежных гасцей было багата — каля сотні, і я хачу ўспомніць тых, з кім давялося неадноўчы размаўляць і нават зблізіцца.

Балгарская пісьменніца Лада Галіна, якая шмат гадоў спалучае ўласную творчасць з іспаністыкаю, ажно засвяцілася ад добрых пачуццяў, як толькі пачула, што я з Беларусі; яна гаварыла гэтак падрабязна, дакладна, цікава і нават пяшчотна пра беларускую літаратуру, як рэдка калі пачуеш на секцыі крытыкаў нашага Саюза. Упэўнены: гэта не толькі дасведчанасць, а галоўным чынам любоў — вышэйшая мера чалавечнасці.

Слаўны празаік і слаўны сын свайго народа, член Палітбюро ЦК кампартыі Чылі Валодзя Тэйтэльбойм (1916), аўтар вядомых раманаў, як «Сын салетры» (1952), «Насенне на пяску» (1957) і манаграфіі пра рускую літаратуру «Чалавек і чалавек» (1969), прыемна здзівіўся, калі я сказаў яму, што вучоны Ігнат Дамейка (1802—1889), якога яго суайчыннікі з поўным правам лічаць за бацьку чылійскае навукі, наш братка беларус з маёнтка Нядзведка Навагрудскага павета. «Вось бачыце,— сумна ўсміхнуўся ён,— адны толькі бяруць, гвалтоўна, дасюль, другія ж гэтак шчодра падзяліліся.» Цяпер на паліцы Валодзі Тэйтэльбойма дзве кнігі на беларускай мове: «Крыві бунтоўнай кроплі» Пабла Нэруды і «Ветраліст» Габрыэлы Містраль, якія ўзрушылі выгнанніка.

Мексіканскі пісьменнік Эраклё Сепэда, вясёлы і цікавы субяседнік, сыграў ролю нацыянальнага героя мексіканскай рэвалюцыі Панча Вілья (1877—1923) у шматсерыйным фільме Сяргея Бандарчука «Чырвоныя званы», і сыграў у маім перакладзе сцэнарыя на іспанскую мову, але размова ішла не пра гэтую прыемную выпадковасць, а пра творчыя кантакты; пакуль што мексіканскія дзеці чытаюць серыю кніжак з беларускімі народнымі казкамі ў маім перакладзе, гэта ўсё, што маем на сённяшні дзень. Зусім мала.

З Аргенціны прыехала Альма Марытана, яна піша прозу для юнацтва і вядзе літаратурную майстэрню з пачаткоўцамі, Уругвай прадстаўляў вядомы паэт Сауль Ібаргоен Іслас, Панаму — старэйшына паэтычнага цэха Рахэльё Сінан, Ямайку — выгнаннік Кэйт Эліс, прафесар універсітэта ў Таронта, Калумбію — Лус Элена Са́вала, Венесуэлу — Ліна Хіменес, Англію — каталонка Ніса То́рэнс, прафесар іспаністыкі Лонданскага універсітэта, феміністка да фанатызму, якія мала на свеце, Францыю — Ані Марван, вядомая перакладчыца, ЗША — Роберт Крысмен, пісьменнік, журналіст і выдавец, жыве ў Сан-Францыска, Іспанію — знакаміты Альфонса Гроса, Карлас Альварас, Антоньё Фурул і каталонка Мансера́т Пуйж, яна вельмі цікава і страсна расказала мне пра барацьбу каталонскага народа ў абарону сваёй мовы, сваёй культуры. Дарэчы, нядаўна мая калега па дэлегацыі і па працы Аляксандра Кос пераклала кнігу Мансерат.

Кантакты, кантакты, кантакты. Абмен інфармацыяй, думкамі, марамі, зверка Слова на людзях, зверка творчых планаў, новыя сябры... Зямны паклон табе, Куба! Дзякуй!

Пасля абеду і кароткага адпачынку, гуагуа зноў паклікала ў дарогу. На гэты раз з намі паехаў Луіс Павон (1930), гасцінны кіраўнік Міжнарод-

* Пачатак у № 11.

# ЯГО НЯЛЁГКАЯ ДАРОГА



*Эдуарду СКОБЕЛЕВУ* — 50

Аднойчы, у час сумеснай зімовай праходкі ў вечаровым парку ля Свіслачы ў Мінску, народны пісьменнік Беларусі Іван Пятровіч Шамякін, з цікавасцю прыглядаючыся да Эдуарда Скобелева, выгукнуў шчыра, не тоячы захаплення і павагі:

— Раманы, аповесці, драмы, вершы!.. Ды шчэ гэткія службовыя перагрузкі — проста дзіўлюся, як гэта можна скрозь паспяваць... Га, Эдуард Мартынавіч?

Эдуард Скобелеў усміхнуўся:

— У вас, між іншым, Іван Пятровіч, у вас гэтай працавітасці і вучымся. Галоўнае тут, як вы падкрэсліваеце, дысцыпліна працы...

І ў гэтых словах не было падробкі, жадання пакрасавацца і паказаць сябе чалавекам упартай волі, жалезнай дысцыпліны і нястомнай працы. У гэтым была і ёсць праўда складанай і нялёгкай, дужа ж пакручастай, скрозь у мастацкіх выбоінах, паэтавай дарогі Эдуарда Скобелева і літаратурнай і жыццёвай, якая даўжынёю зараз у пяцьдзесят гадоў.

Ён нарадзіўся ў Мінску. Скончыўшы Інстытут міжнародных адносін, даволі працяглы час знаходзіўся на дыпламатычнай службе, што была звязана са шматлікімі паездкамі і па краіне і далёка за яе межамі. Дарога заўжды вабіла яго, яна ўзбагачала, пашырала ўяўленні аб жыцці, адорвала сустрэчамі з новымі і цікавымі спадарожнікамі, прымушала думаць аб стракатай панараме з'яў і падзей, якія, даволі часта, вымагалі не слова, а дзеяння.

Мабыць таму першы паэтычны зборнік, які быў выдадзены выдавецтвам «Беларусь» у 1969 годзе ў серыі «Першая кніга паэта», пачынаецца наступнымі радкамі: «Кто-то первый прошел по земле, а за ним остальные пошли,— так возникла дорога. Это трудно — дорогу открыть, это нужно — дорогу открыть, ведь иначе — не стоило жить!»

Сёння можна з абсалютнай упэўненасцю сказаць, што паэт дамогся таго, пра што дакляраваў у сваім першым вершы свайго першага паэтычнага зборніка — за гэтым зборнікам было яшчэ некалькі паэтычных кніг! — і што гэтае — «дорогу открыть» — не засталося словамі абяцання: свая, адметная адкрыта і знойдзена паэтам дарога, і яе аніяк не пабытаеш з іншымі сцяжынамі, хай сабе нават і больш вензелястымі, і дарогамі больш шырокімі.

Драмы пра поле Кулікова і Сакрата, пра Кастуся Каліноўскага і Сімяона Полацкага, пра Джардана Бруна і цара Эдыпа прыцягнулі адразу ўвагу чытача свежым словам, яркім святлом ідэй і вобразаў, якія блізкія і зразумелыя нашаму сучасніку, прывабілі плёнам таленавітага літаратурнага пошуку.

Зусім нечаканым адкрыццём з'явіўся яго раман «Мирослав — князь дреговичский». Стылізаваная мова, дзівоснае стараславянскае пісьмо, якім пісьменнік валодае дасканала, прымусіла шмат якіх прызнаных карыфеяў літаратуры ў спаважным здзіўленні разводзіць рукамі. А чытач паставіўся да гэтага твора аднагнача: тыраж кнігі, даволі значны для рэспублікі, быў, як, дарэчы, і папярэдні раман «Шаги за твоей стеной», рэаліза-

# ПАД ШЧАСЛІВАЙ ЗОРКАЙ



*Мікалаю СЯРДОБАВУ* — 80

Пра народнага артыста БССР Мікалая Мікалаевіча Сярдобава з усёй упэўненасцю можна сказаць, што ён нарадзіўся пад шчаслівай зоркай. Бо жыццё яго надзвычай багатае на творчыя ўдачы, шчаслівыя сустрэчы, выпадкі і супадзенні. Хіба не шчаслівае супадзенне, што яго 80-годдзе, якое шырока адзначаецца музычнай грамадскасцю рэспублікі, супала з 25-годдзем работы мастацкім кіраўніком адзінага ў Беларусі Народнага опернага тэатра пры Палацы культуры прафсаюзаў? 60 гадоў шчасліва працаваў М. Сярдобаў на ніве савецкага мастацтва, з іх 40 гадоў сваёй яркай артыстычнай, педагагічнай і грамадскай дзейнасці прысвяціў развіццю і росквіту беларускай нацыянальнай культуры.

Пазнаёміў мяне з гэтым незвычайным чалавекам яшчэ ў 1946 годзе галоўны канцэртмайстар Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета С. Талкачоў. Прывабная ўсмешка, прыемны тэмбр голасу, увага да субяседніка, таварыскасць спевака адразу ж скарылі мяне, і ў далейшым я з вялікай сімпатыяй сачыў за дзейнасцю новага артыста. А ён з першых жа дзён актыўна ўключыўся ў работу, як кажуць, з галавой увайшоў у жыццё тэатра. Яго першай работай у нацыянальнай драматургіі была роля Кастуся Каліноўскага ў аднайменнай оперы Д. Лукаса. Усведамляючы, якая вялікая адказнасць ускладзена на яго, імкнучыся стварыць сапраўды рэалістычны вобраз нацыянальнага героя, Мікалай Мікалаевіч інтэнсіўна вывучаў гісторыю Беларусі, беларускую мову, працаваў над вымаўленнем, пазнаёміўся з аўтарам музыкі і драматургам М. Клімковічам.

Яшчэ перад пачаткам работы над операй Д. Лукас запрасіў Сярдобава да сябе і напаўголасу праспяваў увесь твор. Дайшоўшы да сцэны пакарання смерцю, кампазітар не вытрымаў развітання са сваім героем і заплакаў. Гэты кранаючы эпізод настолькі ўразіў Сярдобава, што ўся яго далейшая работа над роляй праходзіла пад уплывам эмацыянальнага ўзрушэння.

У 1947 годзе, у дзень адкрыцця аднаўленага і адрэстаўраванага пасля вайны тэатра, адбылася прэм'ера оперы «Кастусь Каліноўскі». Спектакль прайшоў з вялікім поспехам, а Сярдобаў у ролі Каліноўскага заслужыў асаблівую ўвагу. Варта адзначыць, што менавіта ён быў лепшым выканаўцам гэтай ролі на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. Каліноўскі Сярдобава — чалавек высокай духоўнай культуры, выхаваны на ідэях рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў, мужны змагар за народную праўду і свабоду.

Далучэнне да музыкі ў Сярдобава пачалося з маленства, калі па просьбе дырэктара Самарскай гімназіі яго прынялі ў царкоўны хор. Магчыма, на гэтым бы і скончылася музычная кар'ера хлопчыка з небагатай сям'і, калі б не прагрымела над светам, як першы вясновы

# СЛОВА З НАГОДЫ



*Да 75-годдзя Івана ШАЦІЛЫ*

Сама прырода дала Івану Браніслававічу Шацілу для акцёрскай прафесіі калі не ўсё, то, прынамсі, найбольш важнае і істотнае — прыгожую паставу, сцэнічную абаяльнасць, даволі моцны драматычны тэмперамент, гнуткі, прыгожай тэмбравай афарбоўкі голас, выразную пластычнасць. Так, Шаціла быў народжаны для тэатра, на цікавыя, буйныя ролі, пераважна сацыяльных герояў. І ён прыйшоў амаль адразу ж пасля заканчэння аднагадовых драматычных курсаў на галоўную сцэну рэспублікі — у Першы беларускі дзяржаўны тэатр, які носіць цяпер імя Янкі Купалы.

Аднак творчая ўдача, у што асабліва верацъ і на што вельмі спадзяюцца акцёры, далёка не заўсёды спадарожнічала Шацілу. У сваё дваццаць два гады ён увайшоў у творча сфарміраваны, з'яднаны калектыў купалаўцаў, дзе на сцэне ў поўным сэнсе слова ўладарылі акцёры першага закліку. У іх быў ужо багаты вопыт, высокае майстэрства. Тут найперш трэба адзначыць У. Крыловіча, які на той час знаходзіўся ў росквіце сіл, у зеніце славы. Хутка вылучыўся ў калектыве і заняў вядучае становішча У. Уладамірскі. Сфарміраваліся, заваёўваючы ўсё большыя творчыя вышыні, Б. Платонаў, Г. Глебаў, Л. Рахленка.

Іван Шаціла быў прадстаўніком другога пакалення купалаўцаў. Яно было надзвычай нешматлікім, у цэласную групу менавіта як пакаленне, бадай, так і не склалася: вельмі ж ужо яркія і творча мабільныя былі зачынальнікі тэатра. Тым не менш, у Шацілы былі свае зорныя часіны. У перадваенны перыяд яны перш за ўсё звязаны з вобразам Рыгора ў «Партызанах» К. Крапівы. Акцёр праводзіў ролю тэмпераментна, з глыбокім драматычным напружаннем, маляваў складаны, псіхалагічна тонкі партрэт персанажа, увогуле быў у спектаклі дастойным партнёрам У. Уладамірскага, Г. Глебава, В. Пола. Адно з яго буйных і прынцыпова важных дасягненняў у гады Вялікай Айчыннай вайны — вобраз Сафонава ў п'есе К. Сіманава «Рускія людзі». Высокі грамадзянскі пафас, якім быў шчодра надзелены Шаціла, пранізваў гэту работу, надаваў ёй вялікае патрыятычнае гучанне. А побач з мужным, знешне стрыманым воінам Сафонавым успамінаецца паэтычны, летуценны Якім Сарока ў купалаўскай «Паўлінцы». У пяцідзесятыя гады сапраўдным творчым здабыткам стаў вобраз Янкі Купалы ў «Шчасці паэта» В. Віткі, цэнтральны і, бадай, вяршынны ў акцёрскай біяграфіі Шацілы. Запалі ў памяць лірычны Мікола Верас з пастаноўкі «Пяюць

ваны літаральна за нейкі тыдзень.

Гэткі ж лёс напаткаў і наступную кнігу пісьменніка «Катастрофа» — раман пра магчымую атамную вайну, кнігу бязлітасную і бескампрамісную. Аналагаў ёй у нашай беларускай літаратуры няма. Гіпатэтычныя рэаліі бяды, якую зрыхтаваў розум чалавечы, падрабязнасці сапраўды магчымай, а не літаратурнай «катастрофы» прымушаюць чытача здрыганууцца ад жахлівай бяды, якая можа спасцігнуць чалавецтва, прымушаюць кожнага з абвостраным пачуццём асабістай адказнасці штодня думаць пра будучы лёс планеты, паўсядзённа нешта актыўнае рабіць, каб той вар'яцкі агонь не выдраўся на волю і не спапяліў усё жывое на зямлі.

У апошнія гады Эдуард Скобелеў даволі актыўна заявіў аб сабе і як аўтар кніг для дзяцей малодшага і школьнага ўзросту: выходзіць у свет аповесць прыгодніцкая, на старонках часопіса «Вясёлка» друкуюцца цікавыя казкі.

Ёсць яшчэ і перакладчык Эдуард Скобелеў. Перакладаючы творы беларускіх паэтаў на рускую мову, ён з выключным майстэрствам захоўвае і зберагае характар кожнага аўтара, але ж адначасова ён умее ўважліва і паважліва захаваць тую павагу і цеплыню, адчуванне якіх жыдзь спасцігае і змест твора і яго мастацкую структуру, даносіць да чытача своеасаблівасць і непаўторнасць арыгінала.

Неабходна сказаць і пра літаратурную крытыку, на ніве якой з'яўленне рэцэнзій і крытычных артыкулаў Эдуарда Скобелева не засталося па-за ўвагаю літаратурных колаў і чытача. Яго крытычныя артыкулы на новыя кнігі прозы і паэзіі, развагі аб праблемах развіцця беларускага мастацкага слова вызначаюцца своеасаблівым стылем, дакладнасцю крытычнага аналізу, прынцыповасцю зробленых акцэнтаў і вывадаў.

А вось рэакцыя прафесійнай крытыкі на творы Эдуарда Скобелева гэтымі якасцямі, на жаль, не вызначаецца. Ствараецца ўражанне, што яна, крытыка прафесійная, разлічвае на другую палову стагоддзя, якая разгортвае перад пісьменнікам свае таямніцы і добрыя перспектывы, поўныя творчага гарэння, нястомнай і карпатлівай працы.

А чытач чакае новых кніг пісьменніка. Чакае з добрай надзеяй і спадзяваннямі.

**Алесь САВІЦКІ.**

---

гром, Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя. Вось тады, відаць, і ўзышла над яго лёсам шчаслівая зорка, як узышла яна над лёсамі мільёнаў маладых, дапытлівых юнакоў і дзяўчат, якія імкнуліся да навукі, мастацтва.

У 1918 годзе пры штабе Туркестанскага фронту, які знаходзіўся ў Самары, быў створаны хор. У складзе гэтага хору Мікалай два гады выступаў у чырвонаармейскіх часцях, шпіталях, на прызыўных пунктах. Песні выконвалі рэвалюцыйныя, народныя, з класічнага рэпертуару. Магчыма, тады і з'явілася ў юнака свядомае імкненне стаць прафесійным спеваком. І неўзабаве — зноў жа пашанцавала! — ён быў залічаны ў хор Самарскай опернай трупы.

Азіраючыся на жыццёвы і творчы шлях Сярдобава, хочацца адзначыць, што перыяд яго творчай дзейнасці ў Беларусі быў найбольш значным і яркім. Творчасць Сярдобава неаддзельная ад гісторыі беларускага тэатра і беларускай культуры. Незабыўныя вобразы стварыў М. Сярдобаў у спектаклях нацыянальнай драматургіі — операх «Кастусь Каліноўскі» Д. Лукаса, «Дзяўчына з Палесся» Я. Цікоцкага, «Надзея Дурава» А. Багатырова. З вялікім поспехам ён выконваў ролі і ў класічным рэпертуары, аднолькава здзіўлюючы і захапляючы ў ролі Анегіна і Рыгалета, Алека і Дэмана, Скарпія і Мацея.

З 1960 года М. М. Сярдобаў узначальвае Народны оперны тэатр пры Палацы культуры прафсаюзаў. Ужо маючы такіх выдатных вучняў, як А. Падгайскі, Д. Марозаў, В. Прычшапёнак, Мікалай Мікалаевіч нястомна перадае самадзейным выканаўцам свае веды і вопыт, выхоўвае дастойную змену. За вялікую і плённую працу ў Народным оперным тэатры М. М. Сярдобаў узнагароджаны ордэнам Леніна.

У дзень слаўнага юбілею таленавітага артыста хочацца падзякаваць яму за вялікую, плённую працу, пажадаць новых поспехаў на шляху служэння музычнаму мастацтву.

**Браніслаў СМОЛЬСКІ,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.**

---

жаваранкі» К. Крапівы, парывісты Рыбакоў у «Крамлёўскіх курантах» М. Пагодзіна, сыграны эмацыянальна, з драматычным тэмпераментам. Можна было б назваць і іншыя цікавыя работы артыста — спіс яго роляў даволі багаты і разнастайны.

У канцы пяцідзесятых — у пачатку шасцідзесятых гадоў пакідаюць падмосткі карыфеі, заснавальнікі тэатра. Талент Шацілы наадварот пачынае раскрывацца на поўную сілу, здзіўляючы новымі гранямі. І якраз у гэты перыяд ён робіць нечаканы крок — у 1961 годзе пераходзіць у Дзяржаўны рускі тэатр БССР імя М. Горкага. На падмостках горкаўцаў артыст выступіў у цікавых, змястоўных ролях — Аляксея ў «Аптымістычнай трагедыі» У. Вішнеўскага, Паратава ў «Беспасажніцы» А. Астроўскага, Давыдава ў «Паднятай цаліне» паводле М. Шолахава.

Але Шацілу так і не ўдалося парадніцца з новым калектывам — занадта нацыянальна каларытным, беларускім па складу мыслення, па ўсёй сваёй сутнасці быў Шаціла. І таму нярэдка выглядаў адасобленым, як бы адчужаным у спектаклях рускага тэатра. І чым больш ён выступаў на сцэне, тым нагляднней гэта выяўлялася, станавілася зразумелым, у тым ліку і для самога Шацілы.

Праз шэсць гадоў акцёр зноў вярнуўся на купалаўскую сцэну. Тут ён быў уведзены ў гатовы ўжо спектакль "У мяцеліцу" Л. Лявонава на ролю Сыраварава. Сыграў яе з высокім трагедыйным напалам, высокім майстэрствам. Уяўлялася, што з Сыраварава пачнецца новы этап творчасці. Але сіл у артыста заставалася ўжо няшмат, і праз нейкі час ён назаўсёды пакінуў падмосткі. Сыраварай стаўся своеасаблівай лебядзінай песняй, якую ён праспяваў захапляюча, натхнёна, на ўвесь голас.

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ.**

---




**Карлас ШЭРМАН**

Нягледзячы на сур'ёзныя эканамічныя праблемы, ва ўмовах навязанае блакады, кубінцы робяць усё, каб пашырыць далягляды сваёй культуры. Сродкаў на ідэалогію не шкадуюць. Разумеюць, што затраты гэтыя заўжды акупляюцца. Я маю на ўвазе таксама тое, што літаратары і дзеячы мастацтва Кубы жывуць прыстойна ў сэнсе жылля, заробку, рэальнай магчымасці друкавацца, зараз будуюцца дамы творчасці, ствараецца Літфонд накшталт нашага (трэба ведаць, што раней яны жылі-працавалі ў жудасных умовах), але і перш за ўсё гавару пра знешнія сувязі, якія б'юць па блакадзе новымі даследаваннямі, перакладамі, нарысамі, вершамі і г. д. у розных краінах свету (думаю, не я адзін зараз пішу пра Кубу). Уявіце самі: пры мне, адначасова, праходзілі: традыцыйны лацінаамерыканскі кінафестываль, у якім таксама ўдзельнічалі еўрапейскія дзеячы з фільмамі лацінаамерыканскае тэмы; міжнародная нарада мастакоў, да якой вельмі дарэчы прымеркавалі Нацыянальны салон жывапісу і скульптуры; міжнародная сустрэча кампазітараў; нарэшце, наш вялікі форум па кубінскай прозе за чвэрць стагоддзя. Дадам, што літаральна напярэдадні завяршыў працу зноў-такі міжнародны сімпозіум, прысвечаны творчасці сусветна вядомага кубінскага літаратуразнаўцы і бліскучага празаіка Алеха Карпенцьера (1904—1980), творамі якога магла б ганарыцца любая літаратура свету. Вельмі прадстаўнічая савецкая дэлегацыя на сімпозіум засталася з намі на тры дні, каб прысутнічаць на афіцыйных пасяджэннях форуму — гэта былі Вера Куцейшчыкава і Леў Аспават, вядомыя іспаністы, дактары філалогіі з Інстытута сусветнае літаратуры імя Горкага, з якімі раней я быў знаёмы, і Юрый



# СУСТРЭЧА З ГІЛЬЕНАМ

Дашкевіч, эсэіст і перакладчык, аўтар пятнаццаці твораў пра Алеха Карпенцьера, загадчык іспанамоўнай рэдакцыі часопіса «Иностранная литература». На форуме замежных гасцей было багата — каля сотні, і я хачу ўспомніць тых, з кім давялося неадночы размаўляць і нават зблізіцца.

Балгарская пісьменніца Лада Галіна, якая шмат гадоў спалучае ўласную творчасць з іспаністыкаю, ажно засвяцілася ад добрых пачуццяў, як толькі пачула, што я з Беларусі; яна гаварыла гэтак падрабязна, дакладна, цікава і нават пяшчотна пра беларускую літаратуру, як рэдка калі паслухаеш на секцыі крытыкаў нашага Саюза. Упэўнены: гэта не толькі дасведчанасць, а галоўным чынам любоў — вышэйшая мера чалавечнасці.

Слаўны празаік і слаўны сын свайго народа, член Палітбюро ЦК кампартыі Чылі Валодзя Тэйтэльбойм (1916), аўтар вядомых раманаў, як «Сын салетры» (1952), «Насенне на пяску» (1957) і манаграфіі пра рускую літаратуру «Чалавек і чалавек» (1969), прыемна здзівіўся, калі я сказаў яму, што вучоны Ігнат Дамейка (1802—1889), якога яго суайчыннікі з поўным правам лічаць за бацьку чылійскае навукі, наш братка беларус з маёнтка Нядзведка Навагрудскага павета. «Вось бачыце,— сумна ўсміхнуўся ён,— адны толькі бяруць, гвалтоўна, дасюль, другія ж гэтак шчодра падзяліліся.» Цяпер на паліцы Валодзі Тэйтэльбойма дзве кнігі на беларускай мове: «Крыві бунтоўнай кроплі» Пабла Нэруды і «Ветраліст» Габрыэлы Містраль, якія ўзрушылі выгнанніка.

Мексіканскі пісьменнік Эракльё Сепэда, вясёлы і цікавы субяседнік, сыграў ролю нацыянальнага героя мексіканскай рэвалюцыі Панча Вілья (1877—1923) у шматсерыйным фільме Сяргея Бандарчука «Чырвоныя званы», і сыграў у маім перакладзе сцэнарыя на іспанскую мову, але размова ішла не пра гэтую прыемную выпадковасць, а пра творчыя кантакты; пакуль што мексіканскія дзеці чытаюць серыю кніжак з беларускімі народнымі казкамі ў маім перакладзе, гэта ўсё, што маем на сённяшні дзень. Зусім мала.

З Аргенціны прыехала Альма Марытана, яна піша прозу для юнацтва і вядзе літаратурную майстэрню з пачаткоўцамі, Уругвай прадстаўляў вядомы паэт Сауль Ібаргоен Іслас, Панаму — старэйшына паэтычнага цэха Рахэльё Сінан, Ямайку — выгнаннік Кэйт Эліс, прафесар універсітэта ў Таронта, Калумбію — Лус Элена Сáвала, Венесуэлу — Ліна Хіменес, Англію — каталонка Ніса Тóрэнс, прафесар іспаністыкі Лонданскага універсітэта, феміністка да фанатызму, якіх мала на свеце, Францыю — Ані Марван, вядомая перакладчыца, ЗША — Роберт Крысмен, пісьменнік, журналіст і выдавец, жыве ў Сан-Францыска, Іспанію — знакаміты Альфонса Гроса, Карлас Альварас, Антоньё Фурул і каталонка Мансерáт Пуйж, яна вельмі цікава і страсна расказала мне пра барацьбу каталонскага народа ў абарону сваёй мовы, сваёй культуры. Дарэчы, нядаўна мая калега па дэлегацыі і па працы Аляксандра Кос пераклала кнігу Мансерат.

Кантакты, кантакты, кантакты. Абмен інфармацыяй, думкамі, марамі, зверка Слова на людзях, зверка творчых планаў, новыя сябры... Зямны паклон табе, Куба! Дзякуй!

Пасля абеду і кароткага адпачынку, гуагуа зноў паклікала ў дарогу. На гэты раз з намі паехаў Луіс Павон (1930), гасцінны кіраўнік Міжнарод-

* Пачатак у № 11.



☐ **На здымку: у Саюзе пісьменнікаў і дзеячаў мастацтва Кубы. Злева першы — Луіс ПАВОН, другі — вядомы акцёр Эль СУМБАДА, чацвёрты — Нікалас ГІЛЬЕН, пяты — Хаакім САНТАНА, шосты — Карлас ШЭРМАН, восьмы — папулярны комік ВІРУЛА.**

Гавана, 20 снежня 1984 года.

нага аддзела Саюза пісьменнікаў, чалавек складанага лёсу, які пачынаў свой шлях вандроўным гандляром, і паэт.

Луіс Павон скончыў юрфак Гаванскага універсітэта, доўгі час ён засведчваў завяшчанні, спрыяў, як ён гаварыў, ашуканству аднаго дзялка другім, каб выжыць, змагаўся ў падполлі з дыктатураю Батысты, пасля перамогі працаваў у Рэвалюцыйных трыбуналах, потым — галоўным рэдактарам часопіса «Вердзе Аліва», дырэктарам Нацыянальнага савета па культуры, рэктарам Вышэйшай партшколы Кубы, і зараз ён нясе складаную і надта спецыфічную адказнасць за міжнародныя сувязі няпростага, я б сказаў, Саюза, які ў сваіх аддзяленнях аб'ядноўвае дзеячаў літаратуры, жывапісу і музыкі.

Мы былі ўжо ў раёне Веда́да, і Луіс Павон ціхім і пявучым голасам карэннага кубінца расказаў мне забаўную гісторыю. Недзе на пачатку стагоддзя самы багаты люд Гаваны аблюбаваў сабе маляўнічы ўзгорак па-за мурамі старога горада ды распачаў будоўлю шыкоўных дамоў. На гэтым узгорку, зразумела, «чэрні» забаранілі будаваць свае халупы, якія маглі б сапсаваць настрой сваім выглядам, адтуль і назва Ведада, што ў перакладзе азначае «заказнік». Там стаіць дом, а хутчэй, палац з мармуровымі лесвіцамі і амфарамі, з багатай столевай лепкаю ў прасторных пакоях і мудрагелістым паркетам, з прыгожымі жалюзі на вокнах і дзіўнымі падлогавымі вазамі са стараіспанскага фарфору, і яшчэ з пышным трапічным садам на зайздрасць іншым багачам. Да 1959 года ў той раскошы жыў нашчадак далёкага заснавальніка крэольскага роду з прыслугаю. Напярэдадні рэвалюцыі, але не верачы ў яе перамогу, арыстакрат налажыў на сябе рукі,— пакінуў запіску і павесіўся з прычыны блізкасці банкруцтва. Яму тады было восемдзесят гадочкаў, а на бягучым рахунку заставалася толькі... восем няшчасных мільёнаў долараў!

«Дык вось,— скончыў свой расказ Луіс Павон,— мы едзем якраз у той палац, дзе зараз знаходзіцца Саюз пісьменнікаў і дзеячаў мастацтва Кубы, і нас прыме зусім другі, слаўны гаспадар, Нацыянальны паэт Нікалас Гільен.»

Як толькі мы прайшлі каваныя вароты палаца, мяне падхапіў пад руку Мануэль Дыяс Марцінес, з якім я прыляцеў у Гавану. Мануэля трэба ведаць — гэта чалавек філіграннае натуры, які знаходзіць як быццам дробныя, малапрыкметныя сляды народнай культуры і жыве імі. Вось ён завёў мяне ў абход параднага з левага боку будынка, і мы трапілі ў чароўнае, утульнае і тыпічна крэольскае паця майго маленства: падлога з гладка адпаліраваных стагоддзем мазаічных плітак, зялёная ад свежае лістоты павойных званочкаў сцяна, шырокія крэслы з лазіны, а насупраць зялёнае сцяны дзве каралеўскія пальмы і колькі кустоў незнаёмай мне расліны з доўгімі бліскучымі лісцямі. З-за куста якраз, нечакана, з'явіўся пародзісты буры певень, відаць, падобны на былога ўладальніка дома ў маладосці, ён зірнуў на мяне чырвоным вокам і абвясціў на ўвесь Саюз пісьменнікаў: «Чужы! Я яго не ведаю! Хто такі, хто такі?» Гэтак па-хатняму добра стала на душы, што я аж присеў, пакуль буры ганарлівец з аглядкаю прайшоўся ды знік за кустамі. Цішыня была добрай, як быццам вось-вось адкрыецца кухня і маці пакліча за стол. Мануэль, у лад майму настрою, шэптам прачытаў верш з новае кнігі:

**Заплюшчу вочы сёння, дзень мой ветлівы,**
**нібы сляпы я белы свет адчую,**
**і прахалоду паця ціха п'ю я,**
**і позірк твой прыносіць ласкай вецер...**

Узрушаны, я моўчкі абняў Мануэля, і гэтак мы пайшлі, зноўку абмінулі будынак, і ў глыбіні старога саду я ўгледзеў сучасную, але вельмі простую звонку, някідкую аднапавярховую прыбудову літаратурнага салона, дзе адбываюцца розныя мерапрыемствы Саюза. Там ужо чакаў народ, гэта значыць кубінскія літаратары, а іх было шмат, і замежныя дэлегаты. Літаральна за намі з Мануэлем падышоў Нікалас Гільен, і тады вядомы паэт і празаік, адзін з кіраўнікоў Саюза і дырэктар пісьменніцкага выдавецтва «Уніон» Хаакін Сантана адкрыў сустрэчу ад імя нацыянальнага паэта, пажадаў плёну форуму і кожнаму ўдзельніку ў прыватнасці, чым фактычна за дзве мінуты завяршыў афіцыйную частку (о, як ён прыемна здзівіў мяне!). Адразу афіцыянты прынеслі вялізныя падносы з лёгкімі кактэйлямі, і тут пачаліся гутаркі, знаёмствы, сустрэчы сяброў з розных куткоў свету.

Замежныя госці падыходзілі да Гільена, паціскалі руку, віталі яго і пакідалі месца іншым, а я ўсё чакаў, калі адхлыне моцная вітальная хваля і можна будзе крыху з ім пагутарыць. Між тым, некаторыя гаварылі ў зале, а другія выходзілі ў сад, прысаджваліся пад ценем дрэў або проста стаялі, штосьці расказвалі адзін аднаму, але ўсе разам стварылі непаўторную, вельмі добразычлівую і сапраўды дэмакратычную атмасферу, хоць па праўдзе, я не сумняваюся, сярод гасцей былі людзі розных поглядаў. Падумалася, што наогул сёння Куба выконвае важную функцыю, функцыю каталізатара дэмакратычных сіл Амерыкі. І яшчэ. Кубінцы праяўляюць салідарнасць не на словах, і робяць гэта асвядомлена і радасна, многія лацінаамерыканцы пад час выгнання знайшлі на Кубе і прытулак, і працу, і трыбуну, магчымасць выдавацца, выжыць далёка ад радзімы. І гэта на грошы народа, на грошы дзяржавы малой, не багатай, якая толькі чвэрць стагоддзя будуе новыя адносіны паміж людзьмі і новую эканоміку, зруйнаваную за чатырыста шэсцьдзесят пяць лютых гадоў заморскага гвалту і рабунку.

Прыём ішоў сваёй нетаропкай хадою, Мануэль заўважыў, што Гільен свабодны, і падвёў мяне да яго, прадставіў. Паэт доўга трымаў маю руку, добра ўсміхаўся глыбокімі, як яго вопыт, вострымі, як яго талент, карымі вачамі. Калі я сказаў, што мой ці яго лёс адцягнуў сустрэчу з ім на трыццаць гадоў, і я гэтак хацеў з юнацтва паслухаць хоць адзін верш у аўтарскім выкананні, ён адказаў, што не помніць прычыны, з якіх не змог тады прыехаць у Буэнас-Айрэс, і што пад той час, відаць, ён чытаў лепей, пасля чаго, без аніякага пераходу, нечакана, пачаў чытаць (зразумела, у арыгінале):

**Са школы**
**і раней яшчэ... З досвітку, калі толькі**
**быў я травінкай мары і плачу,**
**з тых часін**
**назвалі мяне імем маім. Пароль,**
**каб мог я з зорамі гаварыць.**
**Цябе завуць, цябе будуць зваць...**

Паэт чытаў зусім спакойна, але спакваля голас набываў новыя і новыя тэмбры, таямнічыя і пругкія, нібы плынь далёкай памяці, без якой чалавек яшчэ хіба што карыкатура на чалавека. Нараджалася загадкавая музыка, і кожны зрух рытму дакранаўся да новых струн душы, да тайных аголеных нерваў, якія пазнаюць ісціну і толькі ісціну.

Ён не ўзнімаў голасу, словы ішлі ўглыб пачуцця і фізічна балелі нібыта. Паэт забыў мяне, ён працягваў дыялог свайго жыцця амаль шэптам:

**Дык значыць, цяпер я пытаюся:**
**вы барабанаў не бачыце ў маіх вачах!**
**Не бачыце барабанаў гэтых, напятых ударамі**
**дзвюх сухіх слязін!**
**Хіба я не маю ўначэлага дзеда**
**з вялікай лапінай чорнай**
**(чарнейшай за скуру яшчэ),**
**з вялікай пісяжынай ад бізуна!**
**Я чысты.**
**Мой голас зіхціць свежаадшліфаваным металам...**

Тут ён глыбока ўздыхнуў, і зазвінела чалавечая годнасць, трапяткая годнасць у голасе светлым і спакойным:

**Я таксама ўнук,**
**праўнук,**
**прапраўнук раба.**

Паэт змоўк, трохі задумаўся, і я пасаромеўся сарваць яго цішыню нават падзякай. Ён прачытаў усю першую, даволі вялікую частку верша, і гэта было шмат для чалавека немаладога ўжо веку, нават асабісты сакратар Гільена, прыгожая крэолка з раскосымі чорнымі вачамі, якая магла быць яго ўнучка і сачыла за ім, як унучка, здзівілася і нават зірнула на яго крыху з дакорам, маўляў, нельга вам столькі чытаць, а ён раптоўна міргнуў ёй, пасмяяўся ціхім і добрым смехам, і толькі тады я адважыўся сказаць наконт чытання, што Альфрэда Варэла не схлусіў мне. «Хоць гэны мог,— пажартаваў Гільен.— Помніцца, вы перадавалі мне кніжку на беларускай мове, дзе былі таксама, апрача маіх вершаў, старыя малюнкі.»

Яму падабалася кніга «Падарожжа да сябе самога» (Мінск, «Мастацкая літаратура», 1978), кранула яго, а мне прыйшла чамусьці сумная думка: для серыі «Паэзія народаў свету» мы зрабілі чатыры кнігі волатаў іспанамоўнае паэзіі,— Федэрыка Гарсія Лоркі, Пабла Нэруды, Нікаласа Гільена і Габрыэлы Містраль,— а паказаць, прынесці хоць кроплю радасці, змаглі толькі аднаму яму, Гільену. І то добра.

Народ ужо разыходзіўся, гуагуа чакала, і на развітанне паэт сказаў, што за гэтыя дні мы яшчэ пабачымся.

Мануэль паехаў з намі на вячэру, і мы гутарылі з ім дапазна. На балконе майго пакоя да размовы падключылася таксама мора, нястомнае начное мора...

# ЖЫЦЦЁВЫЯ СКРЫЖАВАННІ

(Заканчэнне. Пачатак на 9-й стар.)

У цэнтры — трэці атрад. Яго задача — авалодаць на подступах да мястэчка льнозаводам, а затым уварвацца ў гарадскі пасёлак. На левым флангу — першы атрад, на правым — другі. Частка трэцяга атрада пасылалася ў заслон з боку Бачэйкава. На ўзвышшы празямлянскага лесу намецілі размясціць разлік 76-міліметровай пушкі, правей, ушчыльную да льнозавода,— саракапятку. Разлік асноўваўся на раптоўнасці атакі і максімальным выкарыстанні партызанскай артылерыі.

Дуброўскі прапанаваў:

— А зараз пад'едзем бліжэй да Чашнікаў і ўдакладнім задачы на месцы. Навошта ісці ўслепую, калі можна загадзя разгледзець цэль, вызначыць напрамак атакі.

За галаўной павозкай, на якой ехаў камбрыг, віхрам пранесліся астатнія ў бок вёскі Празямля. Ушчыльную да вёскі падступаў лес. З узлесся былі добра бачны Чашнікі і ўсе падыходы да іх. Тут камандзіры правялі каля дзвюх гадзін. Наступаць на гарнізон вырашылі той жа ноччу.

— Вось ваш участак,— паказаў Дуброўскі камандзіру, камісару і начальніку штаба першага атрада Сафонаву, Карабаню і Шарко на паўночную ўскраіну пасёлка.

Там выразна віднеліся на снезе зігзагападобныя траншэі немцаў. Дзе-нідзе над аблыселымі ўзгоркамі калыхаліся сінія завіткі дыму з зямлянак.

Дуброўскі працягваў:

— Ваш атрад урываецца ў гарадскі пасёлак адсюль, захоплівае будынак банка, раённай управы, знішчаючы пры гэтым ахову.

Пакуль камбрыг ставіў задачу камандаванню другога атрада, Сафонаў, Карабань і Шарко разглядвалі свой участак, прыкмячалі кожны пагорачак, равок, лагчынку. Пасля, ноччу, усё гэта прыдасца. Падысці да пасёлка вырашылі логам між узвышшам і невялікім балотцам. Праўда, гэты шлях некалькі скіроўвае атрад улева, але затое пасля крута паварочвае проста да агнявых кропак праціўніка. Прастора, што прастрэльваецца, рэзка скарачаецца.

Задача другога атрада больш складаная. Ён павінен прарвацца да гарнізона з боку Лукомля, разграміць паліцыю, СД, пры гэтым пераадолець моцныя ўмацаванні ворага. Мясцовасць на гэтым кірунку адкрытая, роўная.

— Ваша задача — як можна бліжэй падысці да гарнізона незаўважанымі,— сказаў Дуброўскі Конанаву, Комару і Нікіфараву.— Думайце.

Гарматныя разлікі вырашылі размясціць так, як намячалася папярэдне. Камандны пункт брыгады — на пагорку за вёскай Новыя Сады, унізе — пункт боезабеспячэння, крыху далей у лесе — медпункт.

Як толькі пачало цямнець, ланцуг падвод пацягнуўся ў празямлянскі лес. Лес нечакана паўстаў суцэльнай сцяной. Партызаны спыніліся, прыкметна хваляваліся. Так бывае заўжды перад боем. Вано падышоў да Надзеі, якая была з медсанчасцю ў канцы ланцуга.

— Ну, як?— спытаў Вано.— Не холадна?

Надзея радасна ўсміхнулася, ласкава паглядзела Вано ў твар.

— Ты наступаеш з першым атрадам? — спытала яна.— Я таксама буду з вамі.

— Застанься на медпункце,— папрасіў Вано.— Бой будзе гарачы. Не для цябе тое пекла...

— Не,— рашуча заявіла Надзея.

І тут камбрыг скамандаваў:

— Атрадам заняць зыходныя рубяжы.

Вано схіліўся да Надзеі, ледзь-ледзь прыхінуў да сябе.

— Да сустрэчы,— ціха шапнуў ёй.

Камандзіры павялі атрады на зыходныя рубяжы. Першы атрад хутка перасек шашу Лепель — Чашнікі і лагчынкай накіраваўся да гарадскога пасёлка. Трэці атрад пайшоў прама. Другі ўзяў некалькі ўправа, да вёскі Новыя Сады і адтуль пачаў набліжацца да Чашнікаў. Партызаны ішлі асцярожна, нічым не парушаючы цішыню.

Артылерысты хутка занялі пазіцыі і ў напружанай цішыні сталі чакаць загаду.

Дуброўскі і Лабанок стаялі на ўзгорку і аддавалі апошнія перад боем распараджэнні. Начальнік штаба брыгады С. Я. Барадаўкін быў унізе, падлічваў колькасць боепрыпасаў, што засталіся ў забеспячэнцаў, прыкідваў, як іх хутчэй перакінуць у атрады ў выпадку неабходнасці.

Маркевіч, Вітко, Гаргішэлі, Журко, Гардзееў, Лагвіненка, Васькевіч, Косы і іншыя разведчыкі ішлі наперадзе і ўзброены былі толькі аўтаматамі.

Дуброўскі зірнуў на гадзіннік. У неба ўзляцела ракета, за ёй другая, трэцяя. Застрачылі кулямёты, загрымелі вінтовачныя стрэлы. Дазоры праціўніка выявілі партызан.

— Наперад! — крыкнуў камандзір першага атрада Мікалай Сафонаў.— Кулямётчыкі, падцягнуцца!

У кулямётчыкаў зброя цяжкая, ісці па снежнай цаліне ім нялёгка, і яны крыху адсталі. Цяпер прыбавілі кроку. Чуваць іх перарывістае дыханне, бразганне металу. Хутка ланцуг выраўняўся. А немцы ўжо білі з усіх відаў зброі. Але кусты і пагоркі прыкрывалі партызан ад прыцэльнага агню. Праз нейкі час атраду давялося залегчы і далей рухацца паўзком ці кароткімі перабежкамі.

Сафонаў прыспешваў:

— Давай! Давай! Хутчэй!

Яшчэ рывок, і разведчыкі Вано Гаргішэлі дасягнуць крайніх хат. А агонь немцаў стаў больш шчыльны і прыцэльны.

Запрацавала партызанская артылерыя. Снарады адзін за другім пралятáлі над галовамі і рваліся ў нямецкім гарнізоне. Там успыхнуў пажар.

Бой нарастаў з кожнай хвілінай. На правым флангу пачулася магутнае «ўра!». Другі атрад пайшоў у атаку. Першы ж атрад павольна прасоўваўся да мястэчка.

За вуглом бліжэйшай хаты выразна вырысоўваўся сілуэт мінамёта, чарнелі амбразуры дзота. Міны рваліся то ззаду, то наперадзе. Узняўся з кулямётам Пётр Літвінаў, хацеў бліжэй падысці, каб напэўна пацэліць па амбразуры, як раптам ззаду ўзарвалася міна. Асколак зачапіў правую руку. Акрываўленая, яна бездапаможна павісла. Партызан выпусціў кулямёт і, пахіснуўшыся, пачаў паволі валіцца на снег. Камандзір кулямётнай роты Андрэй Любчык, які апынуўся побач, падхапіў Літвінава, перадаў яго на рукі медсястры Надзеі Кляпцовай, якая з'явілася тут так дарэчы, а сам узяў кулямёт і адкрыў агонь па разліку мінамёта.

Партызаны ўзвода Вано Гаргішэлі заляглі на самай горцы. Немцы бесперапынна асвятлялі мясцовасць ракетамі і білі з кулямётаў і аўтаматаў.

— Відаць, жыцця не дадуць,— сказаў Вано і папоўз наперад.

Партызаны за ім. Неўзабаве Гаргішэлі вяла апусціўся на снег.

— Камандзір узвода паранен,— сказаў хтосьці з байцоў.

— Аднесці ў тыл на перавязку,— загадаў Сафонаў.

І тут да Гаргішэлі падпоўз Плятнёў. У Вано вочы бліскалі злосна, губы былі шчыльна сціснуты. Плятнёў знакам паказаў, каб ён клаўся яму на спіну. Перасільваючы боль, Гаргішэлі адмоўна паківаў галавой.

— Узвод я не пакіну.

Плятнёў спрабаваў яго ўгаварыць, але Гаргішэлі быў няўмольны:

— Памру за Радзіму на полі бою!

Гэтыя словы камандзіра натхнілі партызанаў. Яны перайшлі ў атаку. Яшчэ імгненне, і зачэпяцца за першыя пабудовы. Скрываўлены, ляжаў нерухома на снезе Вано Гаргішэлі, да болю сціскаючы кулакі. Ён паспрабаваў прыўзняцца і крыкнуць, але партызаны ўжо былі далёка. Раптам ён пачуў прыглушаны голас Кляпцовай.

— Вано! Вано!

Гаргішэлі адгукнуўся. Надзея падхапілася і пабегла на слабы голас.

У гарадскім пасёлку Чашнікі стаяў неймаверны грукат, адзін за адным падніmаліся языкі полымя. Партызаны ўварваліся ў нямецкі гарнізон і білі ворага там. А Надзея, нягледзячы ні на што, упарта прабівалася да Вано. Яшчэ некалькі крокаў, і яна, знясіленая, апусцілася побач.

— Ванечка, што з табою?

— Тут,— і ён паказаў на бядро і бок.

Надзея хутка расшпіліла медыцынскую сумку, дастала некалькі пакетаў, налажыла іх на раны.

— Цяпер у медпункт! — ніба загадала сама сабе.

Аднак Вано пачуў яе, сказаў:

— Не зможаш. Я вельмі цяжкі.

— Добра, добра, маўчы. Што-небудзь прыдумаю...

Яна зняла шынель і з цяжкасцю пераклала на яго Вано. Праўда, яго спіна была на ўзроўні каўняра шыняля, але затое было за што ўчапіцца. І Надзея ўчапілася за крысо шыняля і пацягнула Вано ў бок лесу. Да яго было далёка, больш як кіламетр. Надзея ўпарта цягнула яго далей ад месца бою. Гаргішэлі стагнаў, кожны рух нясцерпным болем аддаваўся па ўсім целе.

— Пацярпі, родны, пацярпі крышку,— шаптала Надзея, апускаючыся на снежны шарпак, каб перадыхнуць.

— Пакінь мяне,— прасіў Гаргішэлі.— Тут ужо не небяспечна.

— Маўчы, маўчы,— і Надзея зноў цягнула яго наперад. Пасля яна зноў прысела адпачнуць. Вано ўзяў яе руку і доўга гладзіў. Надзея прыўзнялася і ласкава паглядзела на яго. Іх позіркі сустрэліся.

— Калі выжыву,— прамовіў Вано,— я жанюся на табе, Надзея.

Надзея шчаслівымі вачамі, поўнымі слёз, доўга глядзела на яго.




# МУЗЫКА

**ІСНУЕ ДОБРАЯ ТРАДЫЦЫЯ: РАБІЦЬ ПАД НОВЫ ГОД ПАДАРУНКІ.**

**Дзяжурныя па выпуску «Фанаграмы» вырашылі падтрымаць гэтую традыцыю. Але зрабіць падарунак аказалася справай нялёгкай, улічваючы тое, што ён павінен задаволіць усіх чытачоў рубрыкі. Мы параіліся і прыйшлі да думкі: няхай кожны з нашых чытачоў знойдзе ў навагоднюю ноч пад ялінкай... пласцінку, але пласцінку незвычайную. Выдадзеная «фірмай» грамзапісу «Фанаграма» тыражом у адзін экземпляр, яна — і мы на гэта вельмі разлічваем — задаволіць многіх аматараў сучаснай эстраднай музыкі. Няхай нашы чытачы і не змогуць паставіць гэтую ўмоўную пласцінку на прайгравальнік, затое кожны з іх прыгадае песні, змешчаныя на ёй, даведаецца пра нешта новае, звязанае з імёнамі выканаўцаў. Скласці рэпертуар пласцінкі і зрабіць анатацыі да песень мы папрасілі журналіста Дзмітрыя ПАДБЯРЭЗСКАГА.**

## ВОСЬ ЁН, «НОВЫ НАВАГОДНІ АЛЬБОМ», ВЫДАННЕ «ФАНАГРАМЫ».

## ПРАДМОВА СКЛАДАЛЬНІКА

У альбоме змешчаны 12 кампазіцый, якія выконваюць вядомыя савецкія і замежныя ансамблі. Песні напісаны ў розныя гады. Гэта — своеасаблівая анталогія, складзеная — мушу прасіць прабачэння — згодна з уласным густам і схільнасцямі. У сувязі з гэтым прадбачу шматлікія пытанні і пярэчанні, а таму адразу ж уношу прапанову: што калі выдаць у канцы 1986 года другі альбом з гэтай серыі, але складзены з дапамогай чытачоў? Чакаем ад вас прапаноў па рэпертуары пласцінкі «Навагодні альбом-2».

## НОВЫ НАВАГОДНІ АЛЬБОМ

## ПЕРШЫ БОК ПЛАСЦІНКІ



**1. «ОЙ, КАЛЯДАЧКІ»** (музыка і словы народныя, апрацоўка У. Мулявіна.) Ансамбль «Песняры». З альбома «Зачараваная мая», 1983.

Вясёлымі, дасціпнымі, жыццярадаснымі выканаўцамі лірычных і жартоўных песень — такімі ведаюць аматары эстрады беларускіх музыкантаў. Песня «Ой, калядачкі» — адна з тых, што выконваюцца ансамблем на працягу многіх гадоў. Але цікава наступнае: гэты твор не ёсць нешта застылае. Песня з цягам часу мянялася, прычым тая яе рэдакцыя, што трапіла на альбом «Зачараваная мая», адлюстравала некаторыя тэндэнцыі (ці нават моду) у развіцці эстраднай музыкі апошніх гадоў. Новая версія беларускіх «калядак» адрозніваецца ад папярэдняй, здавалася б, нямногім. Змяніўся толькі рытмічны малюнак, і найбольш — у партыі бас-гітары (Б. Бернштэйн). Гітара цяпер прапануе рытм, блізкі да музыкі рэгі, і спалучэнне народнай музыкі розных культур дало нечаканы эфект: не страціўшы мелодыкі традыцыйнай беларускай песні (зразумела, мадэрнізаванай), песня «Ой, калядачкі» набыла пругкую, пульсуючую рытмічную аснову.

Не ўсе, зразумела, ухвальваюць такія пошукі. Знойдуцца і праціўнікі, крытыкі. Але... На карысць песні сведчыць вялікая папулярнасць яе сярод слухачоў.

Да таго ж, яна надае зборніку «Новы навагодні альбом» своеасаблівую атмасферу чарадзейнага свята.



**2. «РЫМСКІЯ КАНІКУЛЫ»** (кампазіцыя ансамбля). Група «Мацiя Базар», Італія.

Новы год — гэта яшчэ і канікулы. Спачатку — для школьнікаў, пазней — для студэнтаў. А калі ўлічыць, што большасць аматараў эстрады — маладыя, дык песня італьянскага ансамбля будзе ім даспадобы.

Прызнаюся, я не адразу палюбіў гэту групу. Напачатку яна здалася мне манернай, не пазбаўленай знешняй экзальтацыі. Але, звязаныя са стылем «новая хваля», італьянскія музыканты смела спалучылі з традыцыйна «салодкай» эстрадай сваёй краіны жорсткія рытмы і электроннае гучанне, увялі ў змест песень трывожную праўду сучаснасці. Знамянальны і той факт, што, выступаючы нядаўна ў нашай краіне, зборы ад некаторых канцэртаў «Мацiя Базар» перадалі ў Фонд міру. Гледачы ведаюць ансамбль па тэле- і радыёперадачах, а таксама (гэта каму пашанцавала!) — па альбоме «Турнэ» балгарскай фірмы «Балкантон». На жаль, на гэту пласцінку не трапіла прыгожая, празрыстая, як ціхі восеньскі ранак, песня «Рымскія канікулы», аздобленая голасам Антанелы Ругіеры.

Трэба заўважыць, што папулярнасць і прызнанне прыйшлі да групы «Мацiя Базар» не адразу. Некалькі гадоў напружанай працы спатрэбілася музыкантам, вялікім сябрам у жыцці, каб пераканаць капрызныя фірмы італьянскага грамзапісу ў тым, што іх песні заслугоўваюць увагі.

Раю ўсім чытачам «Фанаграмы»: услухайцеся ў песні «Мацiя Базар»!



**3. «СОН ПРА ДАЛІНУ»** (Б. Уізарз — А. Сікорскі). Ансамбль «Будка суфлёра», Польшча. З альбома «Будка суфлёра: 1974—1984».

«Сон пра даліну» — гэта першы значны поспех вядомай сёння польскай групы, якая існуе вось ужо дванаццаць гадоў і сёлета гастралявала ў нашай краіне. Ансамбль прайшоў даволі звычайны шлях ад самадзейнасці да ўласнай творчасці і сцвярджэння сваёй самастойнасці. Магутнае гучанне ансамбля, нізкі, хрыплаваты голас Кшыштафа Цугоўскага, тонкае адчуванне формы твора, які выконваецца, музычным кіраўніком Рамуальдам Ліпкам дазволілі групе ў хуткім часе дасягнуць значных поспехаў, прыкладам таго з'явіўся ўжо першы альбом — «Цень вялікай гары».

Галоўная рыса «Будкі суфлёра», на маю думку,— удалае спалучэнне гучання і рытмікі хардрока з традыцыйнай для ўсіх славянскіх народаў выразнасцю мелодыкі. Таму песні ансамбля запамінаюцца, прыкладам чаго з'яўляюцца хоцьбы «Такі самотны дом», «Ёлка, Ёлка, ці памятаеш?», «За апошні грош». Цікавымі былі і сумесныя работы ансамбля з маладой спявачкай Урсулай.

Думаецца, творы гэтага калектыву ўпрыгожаць навагодні танцавальны вечар.



**4. «СПРЭЧКА Ў ВАГОНЕ»** (музыка і словы А. Макарэвіча). Ансамбль «Машына часу», 1983.

Тое, што «Машына часу» існуе і па-ранейшаму прыцягвае вялікую ўвагу, пацвердзілі сёлетнія гастролі і з'яўленне ў рэпертуары новых песень А. Макарэвіча, большасць з якіх сведчыць: «Машына часу» пасталела і зрабілася больш сур'ёзнай. Прызнаюся, у мяне і да гэтага часу засталася пэўная незадаволенасць некаторымі «аблегчанымі» творамі ансамбля, такімі як «Скачкі», «Паварот», «Сіняя птушка», разлічанымі на непераборлівых спажыўцоў рок-музыкі.

Але цяпер А. Макарэвіч і яго музыканты больш публіцыстычныя ў сваёй творчасці.

Пасля тых надуманых праблем, да якіх звярталася «Машына часу» яшчэ гады тры — чатыры назад, ансамбль пераходзіць да разважання разам са слухачамі над пытаннямі куды больш сур'ёзнымі і актуальнымі. Гэтак бы і далей!



**5. «БАГЕМСКАЯ РАПСОДЫЯ»** (Ф. Меркуры). Ансамбль «Квін», Вялікабрытанія. З альбома «Ноч у оперы», 1975.

«Багемскую рапсодыю» групы «Квін» цяжка назваць як уласна рапсодыяй, так і песняй — настолькі незвычайная яе форма. І тым не менш твор гэты быў названы часопісам «Меладзі Мэйкер» лепшай песняй Вялікабрытаніі ў 1975 годзе. Кампазіцыя, безумоўна, упрыгожыла ўвесь альбом «Ноч у оперы».

Аўтар «Багемскай рапсодыі» і большасці кампазіцый групы — вакаліст і піяніст Фрэдзі Меркуры дэманструе сапраўдны талент музыканта, талент, як кажуць, «ад бога». У яго няма музычнай адукацыі, ён атрымаў прафесію графіка-афарміцеля, і таму гэта, думаецца, уплывае на поўныя нечаканых сугуччаў, калажаў, вакальных трукаў работы «Квін». Да таго ж, Фрэдзі Меркуры асаблівую ўвагу звяртае на сцэнічнае аблічча групы, выпускае сольныя дыскі.

Музыку «Квін» цяжка ўціснуць у рамку аднаго з якіх-небудзь напрамкаў сучаснага рока. Яна працягвае тыя плённыя традыцыі, што былі закладзены «Бітлз» і нагадвае мне шчодры россып фарбаў на палітры сучаснай музыкі.



**6. «НАСТАЛЬГІЯ»** (А. Казлоў). Ансамбль «Арсенал». З альбома «Другое дыханне», 1985.

Кожную сустрэчу з ансамблем пад кіраўніцтвам Аляксея Казлова чакаеш з асцярогай і... нецярплівасцю. Праз «Арсенал» прайшло ўжо шмат музыкантаў, але сам А. Казлоў, калі я з ім сустракаўся, нагадваў чалавека, які заўсёды наперад ведае, што будзе з яго любімым дзецішчам — групай «Арсенал». Апошнія гастролі ансамбля год назад сапраўды ўразілі — узростам маладых музыкантаў (большасць з іх — яшчэ студэнты!), узроўнем іх выканання, рэпертуарам, стылем. У другім аддзяленні музыканты паказалі сапраўдны спектакль, дзе лепшаму ўспрыманню музыкі як нельга лепш спрыяў відэарад.

Там жа прагучала і танга «Настальгія», прычым танга гэту кампазіцыю можна назваць з пэўнай доляй умоўнасці, таму што яна заснавана зусім на іншым прынцыпе музычнага развіцця. Знітаваная звонкім гучаннем сінтэзатараў, узбапісалася не на ўласныя вершы. Аўтар слоў — беларускі паэт. Менавіта гэтая песня была адным з найбольш яскравых момантаў на мінскіх канцэртах групы.

Сваёй творчасцю У. Кузьмін абвяргае манеры, уласцівыя эстрадным выканаўцам. Ён — такое ўражанне — нібы сам толькі што выйшаў з натоўпу гледачоў, узяў гітару (а ўвогуле ён валодае амаль дваццаццю інструментамі!) і заспяваў — проста, без эфектаў і ненатуральных поз. Музыку яго твораў не назавеш складанай, хоць і не кожны здолее выканаць іх. Словы — гэткія ж даступныя, можа нават спрошчаныя, як часам і музыка, але затое яны натуральныя, адразу даходзяць да свядомасці слухачоў. Голас, які часта зрываецца то на дэкламацыю, то на крык, з ужываннем мноства мелізмаў, не адразу выклікае жаданне слухаць. Вось як моцна ўплываюць стэрэатыпы! Але не пачуць выканаўцу нельга.

Уладзімір Кузьмін — безумоўна, выканаўца, якому падрыхтаваныя слухачы вераць заўсёды. А хіба не да гэтага імкнецца кожны сапраўдны артыст?



**11. «ЛЕСВІЦА Ў НЕБА»** (Д. Пэйдж — Р. Плэнт). Ансамбль «Лед Зэпелін», Вялікабрытанія. З альбома «Лед Зэпелін-4», 1971.

Амаль восем хвілін гучыць гэтая кампазіцыя, заснаваная на выразных англійскіх народных мелодыях. Пачынаюць яе акустычная гітара і ражок, што нагадвае старадаўнія балады, якія гучалі ў свой час у невялікіх вёсках. «Жыла-была маладая лэдзі, якая была ўпэўнена: усё, што зіхаціць,— золата. І купіла яна лесвіцу ў неба...»

Гэтае музычнае паданне трэба аднесці да залатога фонду рок-музыкі. Створанае на самым пачатку 70-х, яно і дагэтуль уражвае цікавай пабудовай і незвычайным па выразнасці выкананнем.

Творчасць «Лед Зэпелін», якая далёка не заўсёды ўкладвалася ў звыклыя рамкі тыповага рок-выканання, заслужыла, безумоўна, лепшага месца ў гісторыі рока, чым тое, якое было наканавана гэтай групе лёсам. У межах хардрока ансамбль, не згубіўшы галоўную прывабнасць музыкі — мелодыю, зрабіў вельмі шмат, але не да канца. Лесвіца ў неба для «Лед Зэпелін», на жаль, аказалася задужа кароткай...

# Ў НАВАГОДНЮЮ НОЧ

гачаная партыяй альт-саксафона, мелодыя «Настальгіі» запамінаецца як новае слова «Арсенала» і яго неўтаймоўнага лідэра А. Казлова.

## ДРУГІ БОК ПЛАСЦІНКІ



**7. «ГЕРНІКА»** (кампазіцыя ансамбля). Група «Штэрн Мэйсэн», ГДР. 1984.

Няма больш важнай тэмы ў мастацтве, чым тэма абароны міру, змагання супраць вайны. Усё больш увагі надаюць гэтай тэме і музыканты, што працуюць у сучасных стылях. Прыкладам таму — дзейнасць вядомай групы «Штэрн Мэйсэн», неаднаразовага ўдзельніка фестываляў «Рок за мір».

«Герніка» прагучала на канцэртах групы ў Мінску ў 1984 годзе. Слухачы пазнаёміліся з цэлай сюітай, прысвечанай трагедыі іспанскага горада, знішчанага фашыстамі. «Штэрн Мэйсэн» прадэманстравалі не толькі свае адносіны да праблемы міру і вайны, але і чыста музычную сталасць: адчуванне формы, кампазіцыі, уменне карыстацца ўсімі магчымасцямі складанай сучаснай апаратуры. Вялікая заслуга ў гэтым Марціна Шраера — вопытнага музыканта і кіраўніка групы.

Добрае веданне формаўтварэння і класічнай спадчыны (дастаткова ўспомніць інтэрпрэтацыю «Вясны» А. Вівальдзі з альбома «Доўгі шлях»), безумоўна, дапамаглі ансамблю «Штэрн Мэйсэн» дасягнуць значных вяршынь у мастацтве.



**8. «ДАЛЁКІ ГРОМ»** (У. Кузьмін — Г. Кляўко). Уладзімір Кузьмін і група «Дынамік», 1983.

Працягвае тэму вайны і міру кампазіцыя папулярнага аўтара і выканаўцы У. Кузьміна. «Далёкі гром» — рэдкі для яго выпадак, калі музыка



**9. «ЛЭДЗІ МАДОННА»** (Д. Ленан — П. Макартні). Ансамбль «Бітлз», Вялікабрытанія, 1968.

Сапраўды, які зборны альбом можа абысціся без песні легендарнага ліверпульскага квартэта! Шматлікія запісы «Бітлз» даюць мноства цікавых і прыгожых мелодый, з якіх выбраць адну, любімую,— справа вельмі нялёгкая.

І ўсё ж — «Лэдзі Мадонна»! Гэта не проста пацяшальны нумар, як яго ў свой час успрымалі на танцавальных вечарах. У зборніку «Антология английской поэзии XX века» прыведзены вершы, што пакладзены ў аснову песні.

Там-сям выказваліся «абвінавачванні» ў адрас «Бітлз». Крытыкаваліся іх прычоскі, вопратка. А між тым творчасць музыкантаў, мелодыі і тэксты іх песень, вострых, сацыяльна накіраваных, гавораць самі за сябе. Не пачуць гэтага немагчыма і тлумачыць тут нічога не варта. Адно слова — «Бітлз»...



**10. «ЛЭДЗІ-БЛЮЗ».** (Г. Грапс). Ансамбль «Магнетык бенд». З альбома «Магнетык бенд», 1982.

Гэты эстонскі ансамбль быў першым з савецкіх рок-калектываў, што ўразіў мяне выдатным адчуваннем стылю, аўтэнтычнасцю выканання і незалежнасцю ад усяго, створанага ў рок-музыцы. Кажучы пра апошняе, я, зразумела, маю на ўвазе не тое, што музыканты вынайшлі нешта прынцыпова новае. Прыцягальную сілу «Магнетык» набыў, звярнуўшыся да лепшых традыцый блюза і рок-н-рола, а майстэрства і непасрэднасць выканання, талент кіраўніка Гунара Грапса спрыялі росту яго папулярнасці.

Прыкладам таму — лірычны і адначасова эмацыянальны, палкі «Лэдзі-блюз» — этап у творчасці ансамбля. Думаецца, што не апошні. Варта чакаць ад групы Гунара Грапса (так цяпер называецца ансамбль) прыемных нечаканасцей. Падставы для гэтага ёсць.



**12. «ЛЕНА** (Руская зіма)» («Амега» — Г. Варшэгі). Група «Амега», Венгрыя. З альбома «Кішстадыён-79».

Заканчваецца наша пласцінка яшчэ адной «зімовай» песняй — творам «Лена (Руская зіма)» папулярнай у нас групы «Амега», якая выканала яе неўзабаве пасля гастроляў у нашай краіне. Гастроляў, думаецца, зімовых. Інакш чам растлумачыць тое, што музыканты здолелі выдатна перадаць у музыцы настрой, атмасферу сапраўднай рускай зімы. Звіняць шамкі, чуваць дыханне коней і выццё ветру, рыпіць снег, гучаць балалайкі... Шырокую, распеўную песню падхоплівае шматтысячная зала...

У музыцы часта здаралася так, што твор, разлічаны на жарт, раптам набываў папулярнасць, прыносіў славу і аўтарам, і выканаўцам, як гэта адбылося з групай «Амега». Песня «Лена» зрабілася такой папулярнай, што без яе не абыходзіўся ні адзін канцэрт з удзелам ансамбля. Пра тое, што яна палюбілася слухачам, сведчыць пласцінка «Кішстадыён-79». Слухаючы яе, чуеш, як зала, у якой быў зроблены запіс, апантана спявае разам з «Амегай». Спявае так, што часам ансамбль вымушаны падказваць гукарэжысёрам: «Ну, яшчэ трохі ват!»

**З НОВЫМ ГОДАМ ВАС, ДАРАГІЯ СЛУХАЧЫ «НОВАГА НАВАГОДНЯГА АЛЬБОМА»!**

# З МОДАЙ НА ТЫ

У кожнага з нас свае ўзаемаадносіны з модай. Хтосьці ставіцца да яе як да прыкрага, але неабходнага клопату, хтосьці зусім не прызнае. Адны лічаць, што мода — справа сур'ёзная, другія ўсміхаюцца. Моду называюць чараўніцай, якая можа падкрэсліць, а то і звесці на нішто хараство; яе параўноўваюць са шпаркім цягніком, за якім не ўгнацца; пішуць пра яе навуковыя і крытычныя артыкулы... Такое ўражанне, быццам нехта знарок прыдумаў моду, каб ускладніць і без таго складанае наша жыццё.

Але давайце паглядзім на яе з другога боку. Адкуль бярэцца мода? Хто яе стварае? Вядома, што мадэлі адзення распрацоўваюць мастакі-мадэльеры, але ідэі ім падказваем мы з вамі — на вуліцах, у кафэ і кінатэатрах, на вясковых святах. Мастакам дапамагаюць не толькі іх сучаснікі. Сённяшняя мода — гэта водгук творчасці народаў свету, у ёй знайшлі адлюстраванне старадаўнія народныя звычаі і абрады, святы, карнавалы. Свята ж прызвана не ўскладняць, а ўпрыгожваць жыццё. Так і мода, у якой заўсёды ёсць штосьці ад гульні.

У наш час да гульняў адносіны сур'ёзныя. Высветлена, што яны ўздымаюць працаздольнасць, спрыяюць развіццю творчай фантазіі, ствараюць добры настрой. Гульня-мода — не выключэнне, калі ведаць яе законы і правілы — быць з ёй на ты.

Мода рухаецца няспынна — то павольна, то хутка, скачкамі, але за яе, нават, на першы погляд, нечаканымі праявамі можна заўважыць пэўныя заканамернасці.

Вобразы, што стварае мода з дапамогай адзення, жывуць 7—10 гадоў, пасля чаго адбываецца змена стыляў, нараджэнне новых вобразаў. Мода адлюстроўвае сучасны светапогляд, узровень тэхналогіі, а кожны асобна ўзяты касцюм, разам з тым, і густы свайго ўладальніка.

Паспрабуем пачаць нашу гульню — знойдзем «квінтэсенцыю» зімовай моды. Тут трэба памятаць правіла: адзенне павінна адпавядаць сезону. Таму зімой варта гаварыць пра шубы і паліто.

Здаецца, нечаканых скачкоў у модзе не адбылося. Асноўныя стылі засталіся ранейшыя: класічны, фальклорны, геаметрычны, спартыўны. Канструкцыя як жаночага, так і мужчынскага паліто таксама не змянілася: перавага аддаецца крою «рэглан» з заніжанымі праймамі, суцэльнакроеным рукавом. Сілуэт паліто, асабліва класічных яго варыянтаў, набліжаецца да прамога, у якім акцэнтуецца плечавы пояс. Па-сучаснаму выглядаюць мадэлі для моладзі з рукавамі «буфамі», тонкай таліяй. Такія паліто маюць выразны сілуэт і патрабуюць адпаведных дэталей: можна чакаць павелічэння памераў каўняроў, манжэтаў, кішэняў (у лёгкім адзенні імкненне да такога павелічэння дэталей існуе ўжо гады два, дарэчы, і абутак таксама становіцца больш масіўным). Зноў у якасці дэкору вяртаюцца шматлікія засцежкі-«маланкі», гузікі-«зáпінкі» — яны нібы сімвалізуюць высокі ўзровень тэхнічнага прагрэсу. Думаецца, што такая дэкаратыўная апрацоўка адзення пэўных стыляў — спартыўнага, геаметрычнага — будзе актуальнай яшчэ доўгі час.

Зімовае адзенне, прызначанае для памяшкання, больш ярка адлюстроўвае рысы сучаснай моды. Першае месца тут займае трыкатаж. Зручны, утульны, прыгожы — гэтыя якасці робяць яго самым сучасным матэрыялам, фаварытам моды сёння і, відаць, на доўгі час наперад. Разам з прамысловымі вырабамі — тонкімі ажурнымі джэмперамі, сціплымі класічнымі жакетамі, пластычнымі, мяккімі сукенкамі — у модзе ручное вязанне, непаўторныя рукатворныя мадэлі, якія заўсёды да твару. Адметная рыса модных вязаных вырабаў — іх простая канструкцыя. Зразумела, моднымі можна назваць толькі рэчы, выкананыя бездакорна і з тэхнічнага боку.

Вязаныя каляровыя панчохі ці шкарпэткі, капялюшык з вушкамі ці закрыты галаўны ўбор шлем накшталт трубы — лепшыя дапаўненні зімовай моды 85/86. Дарэчы сказаць, вобразна-яркія, кідкія элементы адзення, што хутка з'яўляюцца і адразу ж набываюць масавага прыхільніка, гэтак жа хутка знікаюць. Прыклад — пілоткі ў модзе 1980 года. Цяпер, відаць, такі ж лёс чакае вязаную «трубу». У процілегласць ёй не выйдзе з моды класічны берэт.

Перамены ў даўжыні спадніц нібы перамены надвор'я: пасля холаду бывае цёпла, за сонейкам ідзе дожджык, за дажджом — зноў сонейка. Летась з'явілася «міні», а сёння даўжыня спадніц на 15 сантыметраў ніжэй калена. Нечаканасць? З пункту гледжання зімовай моды — мэтазгоднасць. А ўлетку, відаць, моладзь пагодзіцца на кампраміс: спадніца доўгая, але не зашытая па баках — пад яе можна апрануць кароткую спаднічку, шорты. Ды і зімой у камплекце з каляровымі трыкатажнымі штанамі, джэмперам, камізэлькай такая спадніца выглядала б някепска. Розныя варыянты незашытых спадніц — і доўгія і кароткія — цікавая тэма для распрацоўкі адзення ў фальклорным стылі. Пакуль за яе возьмуцца мадэльеры, мода-гульня дазваляе самім пашукаць свой вобраз у гэтым накірунку.

А каб не памыліцца, трэба спачатку ўбачыць гэты вобраз, уявіць, што атрымаецца ў выніку нашага эксперыменту. Мастакі-мадэльеры, якія вывучаюць усе падрабязнасці руху моды, вызначаюць больш за 20 вобразаў-стыляў, аднолькава модных і актуальных сёння. Вось толькі некаторыя іх дэвізы: «Кармэн», «Альба», «20-я гады», «50-я гады», «Вёска», «Джаз» і іншыя. Назвы, зразумела, умоўныя, але яны даюць магчымасць уявіць сабе, аб чым ідзе гаворка, адразу ж выклікаюць перад вачамі канкрэтны вобраз. Паспрабуем і мы даць дэвіз свайму ўбору. Любую назву — галоўнае, каб ёй падпарадкоўваліся ўсе элементы адзення, кожная дробязь. Так будзе дасягнута гарманічная цэльнасць вобраза, у якім бы ўсё адпавядала назве: сілуэт, дэталі, дапаўненні, нават манера нашэння, і, галоўнае, колер.

Звернемся за прыкладам да еўрапейскіх аўтарытэтаў моды. На зіму 1985/1986 яны прапануюць гаму, у якую ўваходзяць цёплыя цёмныя адценні: глухі бардовы, тэракотавы, чорна-фіялетавы; светлыя халодныя палыновыя, крэмавыя; гарачыя жоўта-рыжыя, аранжавыя, карычневыя колеры. Асобна вылучаюцца «натуральныя» зімовыя адценні (яны прапануюцца для шарсцяного вязанага адзення) пад дэвізам «зімовае мора» — гэта белы, шэры, шэра-карычневы, шэра-блакітны колер. Заўважце, у моднай зімовай гаме адсутнічаюць ружовыя, бэзавыя, блакітныя фарбы. Яны — і гэта мы бачым без дапамогі аўтарытэтаў — нібы дабаўляюць «холаду» ў адзенне, і няцяжка было нам самім прадказаць, што мода пакіне на зіму «цёплыя» колеры, якія цешаць вока, стомленае аднастайнасцю зімовага пейзажу. Дый, прызнацца, трошкі надакучылі «наіўныя» фарбы. Думаецца, што наступным летам яны застануцца толькі ў дапаўненнях, у якасці дэкаратыўных плямак.

А лета тым часам не за гарамі. Калі ж, як не ўлетку, свята моды? Час адпачынку — лепшы час для гульні, якую мы пачалі сёння, сутнасць якой у тым, што кожны чалавек прыгожы і павінен быць яшчэ прыгажэйшым з дапамогай моды.



**Алена ЛОСЬ-ЗАЛУЖНАЯ.**
**Малюнкі аўтара.**

# Люстэрка

Фота Сяргея ЖЫЛЮКА,
Ігара ПАЎЛАВА.





Жанчыны ўсіх узростаў і з рознымі густамі могуць выбраць для сябе мадэль з калекцыі, падрыхтаванай Беларускім рэспубліканскім Домам мадэлей.



**Невядомая рака ў цэнтры Мінска!**

**За што рэчка помсціла людзям.**

**Ментузы з Нямігі.**

**Памылка ў энцыклапедыі.**

**Віктар ЖУК,**
**спецыяльны карэспандэнт**
**«Беларусі»**
**Фота аўтара.**



□ Вуліца Няміга. Тут пачынаецца наш рэпартаж...



— Прыпынак Няміга! — аб'яўляе вадзіцель. Выходжу з тралейбуса. І пачынаю свой эксперымент.

— Скажыце, як прайсці да Нямігі?

Здзіўлены позірк у адказ: ды вы ж на Нямізе. І я ўдакладняю — да рэчкі Нямігі...

Модна апрануты хлопец гадоў дваццаці паказвае на Свіслач, што працякае непадалёку. Ці даўно жыве ён у Мінску? Колькі сябе памятае.

Муж і жонка, таксама маладыя, няпэўна махаюць рукамі ў розныя бакі, але тут жа раяць удакладніць: «Мы — прыезджыя».

Што ж, цяпер пытанні — толькі да мясцовых.

Яшчэ адна пара, абодва інжынеры. У Мінску ўсё жыццё — гадоў сорак, значыць.

— Няміга? Рэчка? Не ведаем. Не бачылі. Не чулі.

— Можа, чыталі?

— Не.

Пажылы падпалкоўнік раптам адказвае пытаннем: «А вы хто?» Прадстаўляюся. Западозрыўшы падвох, субяседнік крута паварочваецца: «Мой аўтобус ідзе».

Каверзнымі здаліся роспыты і тром сяброўкам, з выгляду — студэнткам. «Прабачце, зусім няма часу!»

Затое купка сямікласнікаў, што вучацца тут, у раёне Нямігі, ашаламляе «эрудыцыяй»:

— Была такая рэчка. Ды ўся выцякла. Чым славутая? На ёй беларусы і літоўцы разам змагаліся з манголамі.

Чароўная бландзінка, відаць, вырашае, што я шукаю вулічнага знаёмства. Кідае на хаду з усмешкай:

— Вам лепш звярнуцца ў бюро даведак. Вось гэта якраз і не трэба. Я сапраўды стаю на Нямізе. На Нямізе-рацэ. Струменіцца яна проста пад нагамі. Толькі на чатырохметровай глыбіні. Ведаю гэта напэўна. Адкуль — пра гэта потым. А пакуль цікава: хто яшчэ пра гэта ведае?.. За гадзіну я апытаў 25 мінчан, як гаворыцца, ад малога да вялікага. І толькі трое — 60-гадовая жанчына-кіяскёр ды дзед з бабуляй гадоў сямідзесяці адказалі:

— Цякла тут калісьці. Памятаем. Потым у трубу загналі. А цяпер, можа, цячэ, можа, й не. Паспрабуй разгледзі пад зямлёй...

А разглядзець хацелася з тае самае пары, цяпер ужо даўняй, калі ўпершыню ступіў я на вуліцу, дзе што ні крок — то нібы склад знаёмых радкоў:

> **На Нямі-зе сна-пы сце-люць гало-вамі,**
> **малоцяць цапа-мі сталё-вымі,**
> **жыццё кла-дуць на таку,**
> **душу ве-юць ад цела...**

Так расказвае «Слова аб палку Ігаравым» пра бітву паміж полацкім князем Усяславам і паўднёварускімі князямі Яраславічамі, што адбылася на Нямізе ў 1067 годзе, амаль за 120 гадоў да стварэння «Слова».

У сучасных заўвагах да вялікага помніка славянскай культуры даводзілася чытаць, што Няміга — невялікая рэчка, на якой стаяў Мінск. А зараз Нямігі — няма.

Сёлета ў мітуслівай плыні жыцця нашага немаленькага горада злучыліся падзеі, з якімі захочаш — не размінешся. Першая — 800-годдзе «Слова», што адзначаецца ва ўсім свеце. Другая куды больш сціплая, так сказаць, мясцовага маштабу. Але якога мінчаніна пакіне абыякавым той факт, што пракладваецца другая лінія гарадскога метро? І праходзіць яна праз даліну, дзе раней цякла Няміга. Пачалі метрабудаўцы закопвацца тут і трапілі... у XI стагоддзе. У цэнтр Мінска таго часу. Ні больш ні менш. Тут нават людзі з экскаватарамі вымушаны былі адступіцца. Будучую станцыю метро перанеслі на сорак метраў. А на ранейшым месцы пачалі працаваць археолагі. І раскапалі старажытнае замчышча.

Як бачым, кожная з гэтых падзей — нагода паглядзець: што ж стала з рэчкай Нямігай?

Галоўны геолаг «Мінскметрабуда» Аляксандр Антонаў і кіраўнік раскопак на замчышчы, загадчык сектара археалогіі Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР, доктар гістарычных навук Георгій Штыхаў задуму прайсці рэчышчам Нямігі падтрымалі адразу. Яно і зразумела: у абодвух да Нямігі цікавасць прафесійная. І што важна — такі ж падыход да справы. Якраз гэтага мне не хапала.

Штыхаў адкрыў свае гістарычныя карты, на якіх яшчэ ўецца блакітная жылка Нямігі. Антонаў, спрактыкаваны ў вышукальных справах, раздабыў для ўсіх «рыбацкія» боты, тоўстыя метрабудаўскія курткі, каскі і ліхтары. Я дамогся благаславення апекуна падзямельнай Нямігі — трэста «Гордармеханізацыя», пасля чаго да нас далучыўся Валерый Пінчук, галоўны інжынер дарожна-эксплуатацыйнага ўчастка Маскоўскага раёна Мінска.

Пачаць мы рашылі, вядома, ад вытоку, які ўяўляўся нам акуратнай крынічкай. Калі і не нап'ёмся, думалі мы, то ўмыемся той самай вадой, што жывіла Нямігу тысячу гадоў назад, і рушым у дарогу...

Карты картамі (у іх выявіліся супярэчнасці), а вядзе нас да вытоку Нямігі ўсё-ткі язык. Апытваем старажылаў Мінска. І паступова выходзім да перакрыжавання вуліцы Грушаўскай і Разінскага завулка. Непадалёк адсюль было вялікае балота, з якога выцякаў ручай. Сёння на месцы балота толькі невялікая ўпадзіна — «потнае месца». Вады нідзе не відаць, але заўважаем маленечкі жалабок, што мог быць пачаткам Нямігі: трава ў ім высокая, сакавітая, з рэдкімі лапікамі асакі. Амаль паўтара кіламетра ідзём мы па гэтым уяўным ручаі і апынаемся ля чыгуначнай станцыі Мінск-Таварны, былога Аляксандраўскага вакзала горада. Пачынаючы адсюль, Няміга станавілася калісьці значнай рэчкай (аб чым сведчаць усе гістарычныя карты і апісанні) і працягвалася тры кіламетры.

На паверхні вады па-ранейшаму няма, але тут адкрывае свае карты Валерый Пінчук. Перад намі план яго гаспадаркі — падземных зодных камунікацый. Валерый беспамылкова арыентуецца ў гэтым лабірынце і адным упэўненым рухам рукі паказвае ўвесь падземны шлях Нямігі. Потым мы падыходзім да аднаго з калодзежаў паблізу станцыі і выварочваем цяжкую чыгунную накрыўку. На дно калодзежа адважна скача сонечны прамень, і на глыбіні трох метраў мы бачым жывую серабрыстую змейку. Цячэ ручаёк. Вады ў ім не больш, чым з кухоннага крана, адкрытага да ўпору. І ўсё ж мы з палёгкай уздыхаем: ёсць выток.

Няміга — цячэ. І вада ў ёй — жывая!

Я дастаю фотаапарат, і тут Пінчук збянтэжана кашляе і далікатна просіць:

— Не здымалі б пакуль. Пачысціць трэба...

Прыглядаемся. Ручаёк прадзіраецца праз горку хламу, у вадзе цьмянеюць пустыя кансервавыя бляшанкі.

Ад гэтага месца яшчэ метраў пяцьсот цячэ Няміга пад зямлёй вольна і жывіцца грунтавымі водамі. Потым, пад вуліцай К. Цэткін, яна трапляе ў вузкую трубу калектара — усяго 80 сантыметраў дыяметрам, нават на карачках не прапаўзеш. Спусціцца ў калектар можна толь-

струменіць перад намі. Шырыня яе тут такая, што можна абаперціся нагамі адразу на абодва берагі — левы і правы. Як на рачулках нашага маленства...

Няміга — калыска Мінска. І з гэтым сцверджаннем наўрад ці стануць спрачацца самыя строгія вучоныя. З дагістарычных часоў рэчка намывала па сваіх берагах і ў дэльце грунтавыя наносы, на якіх у другой палове XI стагоддзя пачалі сяліцца нашы далёкія продкі. Старое паселішча існавала на рацэ Менка (напэўна, ад яе пайшла пачатковая назва горада — Менеск). Новым, больш прыдатным для горада-крэпасці месцам аказалася вусце Нямігі.

Пры ўпадзенні ў Свіслач Няміга расцякалася на два рукавы, нібы для таго, каб люляць у абдымках дзядзінец старажытнага Мінска. Крапасныя валы з усіх бакоў былі акружаны вадой. Па тым часе гэта былі непрыступныя ўмацаванні. Няміга, як маці, давала гораду жыццё, яна ж яго ахоўвала, пра што і сведчаць нядаўнія знаходкі на раскопках замчышча. Сярод іх — чатыры гарматныя ядры, кожнае — дыяметрам сорак сантыметраў. «Амаль такія ж, як у славутай «Цар-пушкі»,— пракаменціраваў знаходку Г. Штыхаў. Мяркуючы па ўсім, з падобных гармат абстрэльвалі старажытны Мінск. Але да замчышча ядры не даляцелі. Плюхнуліся ў Нямігу.

Апрача абарончых умацаванняў, зброі і ваеннай амуніцыі археолагі адшукалі на васьміметровай глыбіні культурнага слоя XI—XII стагоддзяў каля



□ Першыя крокі па падземнай Нямізе.

# Наўсцяж па Нямізе

Чаму Няміга не падобная на Лету.

«Дрэва», па ствале якога можна праісці ад старажытных каранеў да сучаснай кроны.

кі праз кіламетр: на перакрыжаванні вуліц Мяснікова і Нагіна, дзе ён ужо ў рост чалавека.

Тут Пінчук перадае нас з рук у рукі непасрэднаму наглядчыку Нямігі — майстру ўчастка Міхаілу Лявонаву.

Адкрываем яшчэ адзін калодзеж. З яго нясе затхлым пахам падзямелля. Заўважаем, што ручай паспеў стаць шумным патокам...

Міхаіл апускае вузкую жалезную лесвіцу і папярэджвае:

— Задавальненне — ніжэй сярэдняга. Не прагулка. Можа, усім лезці не варта?

Вырашаем перагрупаваць сілы. Антонаў, Лявонаў і я пойдуць пад зямлёй, а Штыхаў — паверсе, па былой даліне ракі, прасачыць якую памагаюць старыя дрэвы. Месца сустрэчы і абмену ўражаннямі — вусце Нямігі.

Пачаргова спускаемся ў вузкае горлачка ямы: слой асфальту, потым — зямлі, нарэшце, бетон. Глыбіня чатыры з паловай метры. Развяздзеш рукамі — тыцнешся далонямі ў вільготныя сцены. Вады — крыху ніжэй калена. Чэрпаем яе прыгаршчамі — празрыстая. Нюхаем. Вада як вада. Быццам чыстая. Некалькі крокаў за плынню і — не відаць нічога. Уключаем ліхтары. З цемры «выпаўзае» труба. «Метр семдзесят пяць»,— адразу ўдакладняе Антонаў. Ростам ён на пяць сантыметраў вышэй і вымушаны ў літаральным сэнсе кланяцца Нямізе.

Калектар складзены з бетонных кольцаў, такіх жа, што выкарыстоўваюць сёння для самых звычайных калодзежаў. Праз кожны метр — стык. Толькі наш калодзеж — нібы пераку́лены. З чым можна яго параўнаць? Бадай, з ляжачым ствалом дзіўнага пустацелага дрэва, узроставыя кольцы якога, як у бамбуку, ідуць знізу ўверх. Яшчэ крыху ўяўлення, і гэтыя кольцы можна таксама прыняць за ўзроставыя. Такім чынам атрымліваецца, што, трапіўшы ў нутро «дрэва», па такім «ствале» можна прайсці ад старажытных яго каранёў да сучаснай кроны. І правадпік на гэтым шляху — сама Няміга, што

васьмі тысяч вырабаў мірнага прызначэння з жалеза і каменю, каляровых металаў і дрэва, косці і гліны, скуры і шкла... Час не змог сцерці з іх сляды сапраўднага майстэрства. Мінскія раскопкі — яшчэ адно сведчанне таму, што мастацкі ўзровень «Слова», якое складалася ў той час, адпавядаў узроўню матэрыяльнай і духоўнай культуры Старажытнай Русі. А тэрыторыя Беларусі была яе паўнапраўнай часткай. І не існавалі яшчэ адасоблена руская, украінская і беларуская народнасці. І тры цяперашнія мовы сваімі вытокамі — у «Слове».

Аб глыбіннай сувязі «Слова» з гісторыяй культуры беларускага народа задумваліся многія даследчыкі. Рускі гісторык і фалькларыст XIX стагоддзя П. Бяссонаў нават сцвярджаў, што стваральнік «Слова» — ураджэнец або жыхар нашага краю. Так шмат у «Слове» вобразаў, блізкіх да тых, што заўсёды былі шырока распаўсюджаны ў традыцыйным беларускім фальклоры...

«Сэрца» горада — яго замчышча — Няміга злучала з астатнім гарадскім арганізмам. Уверх па рацэ ўзнімаўся, разгаліноўваўся, разрастаўся пасад. Тут сяліўся майстравы і гандлёвы люд. Будаваліся проста ля вады. Рэчка памагала задавальняць самыя звычайныя жыццёвыя патрэбы. Ды і ў павер'ях таго часу вада была жыллём духа-заступніка, такога ж блізкага бажаства, як і полымя, што разводзілася ў хатняй печы.

...Цемра, сырасць, цесната — усё так. Але першае, што па-сапраўднаму ўражвае ў гэтай глухой бетоннай шчыліне,— гукі вады. Няміга то лашчыцца ля ног і, здаецца, штосьці шэпча на вуха табе аднаму, то цяжка ўздыхае, нібы скардзіцца на сваю долю, то гулліва перакочваецца, як дзіцячы смех, то раптам шыпіць, ды так, нібы ў цемры самыя сапраўдныя змеі.

Непаўторныя гукі гэтыя тут, без дамешкі гарадской какафоніі, як у філарманічнай зале з добрай акустыкай. Слухаеш і верыш нашым продкам, якія былі, магчыма, больш наіўныя за нас, але ў чымсьці і мудрэйшыя: рака — жывая істота, здольная разумець, адчуваць і нават — гаварыць. Таму і добрая прамова — плаўная, як рака. А трапнае слова — як глыток вады, як нябеснае святло... Слову чалавечаму спрадвеку надавалася сіла боскай стыхіі.

У XIII стагоддзі Няміга аформілася як унікальная (другой такой на Беларусі не было!) вуліца-рака. І, як «прытокі», падыходзілі да Нямігі з розных бакоў маленькія вулачкі. Жыло тады ў замчышчы і на пасадзе паўтары тысячы чалавек. Буйны быў горад па тым часе.

Паводле гістарычных сведчанняў шырыня Нямігі складала ў сярэднім два сажні (крыху больш за чатыры метры). З аднаго боку вуліцы на другі людзі ішлі і пераязджалі па драўляных мастках. Самы шырокі насціл быў непадалёк ад замчышча. Проста на гэтым памосце віраваў Рыбны рынак. Выбар быў на ўсе густы. Апрача рыбы вяленай, салёнай, вэнджанай, свежай, прадавалася, вядома, і жывая. Калі гандляры не паспявалі да вечара яе збыць, выпускалі ў Нямігу. Прасцей, чым захоўваць, было вылавіць яе заўтра нанава. Вусце Нямігі было багатае на рыбу.

Непадалёк ад Рыбнага, яшчэ ніжэй па рацэ, размяшчаўся рынак Ніжні, які праіснаваў да сярэдзіны мінулага стагоддзя. Тут прапаноўвалі свой тавар сяляне і рамеснікі. Падвозіліся і заморскія вырабы — праз горад ішлі ажыўленыя гандлёвыя шляхі.

...Святло ліхтароў выхоплівае метраў 10—15 водапратокі і раствараецца ў густой цемры. Ідзём адзін за адным, абмацваючы нагамі кожную шчарбіну бетоннага рэчышча. Кольцы — як блізняты. Адрозніваюцца толькі тым, што ад некаторых адгаліноўваюцца вузкія «прытокі» — трубкі для вулічных ручаёў, што папаўняюць Нямігу ў час дажджоў.

Ліўневыя сцёкі — сухія. У Мінску стаіць страшэнная спякота. Няміга па-ранейшаму ледзь дасягае калена. Але раптам заўважаю над галавой паўзасохлую галінку, якая засела ў стыку паміж кольцамі.

— Нам пашанцавала,— басіць над вухам Міша.— Калі пачынаюцца ліўні, тут вады пад завязку, аж праз калодзежы наверх прэ...

Ну, а колькі ж вады ў Нямізе ў такую суш? Каб гэта падлічыць, нам, апрача глыбіні, трэба ведаць яшчэ і сярэднюю хуткасць плыні. З гэтым больш складана. Вельмі ўжо Няміга розная. То ляніва разліваецца амаль на адным месцы, то раптам так заспяшаецца, што закіпае ля ног. Як і кожны з нас у калаўроце жыцця, гэтая ра-



чулка то замаруджвае свой ход, то імчыць на злом галавы... Здаецца, я занадта захапляюся паэтычнымі параўнаннямі і адно з іх выказваю ўголас. На што Антонаў, гідролаг па адукацыі, адразу ж празаічна заўважае:

— Ды гэта мяняецца пакат калектара: перапады тут, бадай, ад трох да пятнаццаці градусаў. Вугал больш — цячэ хутчэй...

І ў ранейшыя часы невялікай была рэчка Няміга. Але з крутым норавам. У час веснавых паводак і праліўных дажджоў, калі збягаліся да яе патокі вады з навакольных вуліц, зносіла насцілы, лілася ў падвалы, затапляла нават першыя паверхі дамоў. Для адпампоўвання вады выклікалі гарадскую пажарную каманду. У адной з паводак утапілася жанчына, пра што бясстрасна рапартаваў паліцмайстру прыстаў Няміжскага ўчастка.

У 1850 годзе Мінскае губернскае праўленне ўпершыню разгледзела пытанне аб будаўніцтве і належным абсталяванні канала, каб ён мог стрымліваць паводкі. Але 1015 рублёў, што для гэтага патрабаваліся, здаліся надзвычай вялікімі для горада выдаткамі. Праект адклалі.

Дарэчы, непаслухмянай была Няміга нездарма. Яна нібы помсціла нядбайным гаспадарам сваіх берагоў. Бо што бывала: цячэ рэчка проста ля парога, выходзяць жыхары з вядром памыяў або смецця і — бух! — у ваду...

У гістарычным архіве Беларусі мне адшукалі пухлую «справу пра Нямігу», якую ў 1912—1917 гадах вяла Мінская ўправа. У паперах гэтых адзначаецца, што на ўсім працягу ад Аляксандраўскага вакзала Няміга «мае адносна чыстую ваду і характар праточнага ручая, і толькі супраць шпалернай фабрыкі Кантаровіча ўпершыню атрымлівае брудны выгляд з прычыны спуску афарбаваных вод»... Забруджванне прывяло да таго, што шырыня «сціснутай жыхарамі рэчкі» пачала даходзіць усяго да сажня, глыбіня — да чвэрткі сажня (каля паўметра). А праезд па старых няміжскіх насцілах з'яўляўся «немінучай небяспекай для ездакоў». На чыстку Нямігі і рамонт масткоў штогод затрачваліся значныя сумы. У канцы 1912 года будаўніцтва пастаяннага закрытага жалезабетоннага калектара «для дасягнення быстрага ходу вады» бацькі горада прызналі «цалкам грунтоўным і мэтазгодным». У 1914-м быў зацверджаны каштарыс будаўніцтва. Але пачалася першая сусветная вайна.

Да збудавання калектара прыступілі толькі праз дванаццаць гадоў. І тут, дарэчы кажучы, памыляецца Беларуская Савецкая Энцыклапедыя (том VII), дзе сцвярджаецца, што Няміга заключана ў калектар у межах горада ў XIX стагоддзі. Нават у 1926-м закавалі ў бетон толькі ніжнюю частку ракі. Тут рашаючую ролю адыграла будаўніцтва паблізу Нямігі абутковай фабрыкі «Прамень». Вельмі ўжо аказалася зацікаўленай у калектары фабрыка, і, бадай, не ў апошнюю чаргу дзеля таго, каб прыхаваць ад вачэй мінчан скідванне сваіх неачышчаных вод. А ўгары Няміга яшчэ доўга, да 1955 года, струменілася па вуліцах, як вясёлы і паўнаводны арык, і ўпрыгожвала нашу не вельмі багатую вадой сталіцу.

Праўду кажуць: на вадзе і ногі вадкія. Пайшла другая гадзіна пасля спуску. А мы не прайшлі яшчэ і паўдарогі. Вада па-ранейшаму празрыстая, чыстая. Манатонна зліваецца ствол калектара. І раптам прамяні ліхтароў вязнуць у воблаку пары. Яшчэ дзесятак крокаў, і мы пачынаем задыхацца ад паху, які нават пры вялікім жаданні прыемным не назавеш. Амаль вобмацкам знаходзім трубу ў сцяне. Гэта з яе б'е гарачы фантан.

— Та-ак, мы пад перакрыжаваннем вуліц Берсана — Мясьнікова,— пачынае арыентавацца Міхаіл.— Не інакш гэта з фабрыкі-кухні. Вывелі памыйны сцёк у «ліўнёўку», а павінны — у каналізацыю. Ім не ўпершыню... Вы гэта запішыце: не маюць права!

Запісваю. Антонаў прыкідвае: незаконнае скідванне нечыстот — каля двух кубаметраў (дзвюх тысяч літраў) у гадзіну. Парадкам...

Падобных запісаў пабольшала ў старым, даваенным участку калектара, што пачынаецца пад перакрыжаваннем вуліц Нямігі і Караля. З дожджапрыёмнікаў сочыцца і падазрона пеніцца вадкасць з кіслым пахам дубленай скуры. Тут справа ясная: побач фабрыка «Прамень», яна «хімічыць».

І ўсё ж, будзем аб'ектыўныя, нават у «брудных» месцах Няміга не выглядае падземнай клаакай накшталт тых парыжскіх, што апісаў В. Гюго, або Няглінкі ў старой Маскве, за чысцінею якой змагаўся сваімі рэпартажамі У. Гіляроўскі. Бліжэй да вусця ў калектары пасяляецца ўстойлівы пах рыбы. І Міхаіл прыгадвае, што яшчэ гадоў пяць назад хлопцы з дарожнага ўчастка залазілі сюды «паразмяцца»: рукамі лавілі «во-ось такіх ментузоў!»

Апрача «галін» дажджавых сцёкаў ёсць у «ствале», па якім мы ідзём, і «дуплы». Праз кожныя дзве сотні метраў — калодзеж з кругляччком блакітнага неба і тварамі рабочых-дарожнікаў, што забяспечваюць нашу праходку. Лавіруючы ў транспартным патоку, яны абганяюць нас па вуліцы і адкрываюць люкі: дзе там гэтыя ненармальныя? Ну ўсё роўна, як краты...

— Гэй, вы там жывыя?!

— Усё нармальна,— хрыпла рапартуем мы небу і нашым анёлам-ахоўнікам у ярка-чырвоных робах. Хапаем па глытку ап'яняльнага вулічнага паветра. Заўважаем струменьчыкі поту на тварах адзін аднаго.— Далёка яшчэ?

— Яшчэ трубіць ды трубіць!

Калодзеж з ляскам зачыняецца, і грукат гэты разносіцца пад нашымі скляпеннямі, як залп гарматнага салюту. Зрэдку за ім дакочваецца агідны брынклівы гук, быццам нябачныя жорны з хрустам і трэскам перамолваюць чыесьці косці. Гэта па накрыўцы люка прайшліся колы цяжкага грузавіка.

Цяпер толькі наперад. Назад дарогі няма. «Трубім» далей.

Падышоўшы да чарговага «дупла», замест звычайнага «Жывыя?!» раптам чуем:

— Гэй! Што пакажам...

Адкрываючы стары люк, рабочыя знайшлі пад ім дзве манеты, адна адчаканена ў 1903 годзе, другая — у 1941-м. Тут жа, побач,— два пражжавелыя патроны. Колькі ж яны тут праляжалі?..

> Нямігі крывавыя берагі
> не дабром былі засеяны,
> засеяны былі касцямі сыноў рускіх...

Першае ўпамінанне пра Нямігу — у «Слове» — сведчыць, як бачым, не аб роскваце, аб разбурэнні нашай зямлі. Гісторыя паўтаралася. За валам вал каціліся праз Беларусь спусташальныя войны. Зноў і зноў былі ў Нямігі «крывавыя берагі».

І ўсякі раз, калі прыходзіла вялікая бяда, зноў станавілася надзённай ідэя, што закладзена ў «Слове». Яго неабыякавы аўтар асвятляў падзеі інакш, чым гэта рабілі летапісцы таго далёкага часу, што прадстаўлялі мясцовыя інтарэсы нейкага княства або князя. Вось і бітва на Нямізе ў «Слове» — жорсткае пабоішча, пазбаўленае сэнсу. Ні пераможцам Яраславічам, ні разбітаму Усяславу не аддае сваіх сімпатый вялікі мастак «Слова». Ён заклікае да адзінства перад пагрозай іншаземнага нашэсця, з болем асуджае княжацкія міжусобіцы, што пераўтвараюцца ў агульную бяду.

Боль аўтара «Слова» адгукалася ў душах тых беларусаў, якія былі патрыётамі сваёй зямлі, але ўмелі даражыць і агульнымі інтарэсамі народаў-братоў. Народны песняр Янка Купала пераклаў «Слова» на беларускую мову ў 1918—1919 гадах, калі на зямлі рэспублікі гаспадарылі нямецкія войскі, а затым — белапалякі. Вярнуць свабоду можна было толькі аб'яднаўшыся з іншымі савецкімі рэспублікамі...

Столькі крыві, як у Вялікую Айчынную, на берагах Нямігі яшчэ не пралівалася ніколі. На вуліцы было размешчана гета. Поўным ходам круціліся тут жорны фашысцкай машыны знішчэння. Але была для ворага Няміга і адным з тых раёнаў горада, дзе «руіны стралялі ва ўпор». Я яшчэ застаў жывымі кварталы старой пасляваеннай Нямігі і памятаю дом з мемарыяльнай дошкай: «Тут знаходзілася падпольная кватэра сям'і Герасіменкаў», самі сцены якога — цёмна-чырвоныя — нібы гаварылі пра недалёкае мінулае...

Наш студэнцкі інтэрнат стаяў побач з Нямігай, за паваротам, на цяперашнім праспекце Машэрава. Рукой было падаць да старых аблупленых 2—3-х павярховых дамоў, што збягалі з пагоркаў і, нібы сутыкнуўшыся фасадамі-лбамі, спыняліся ўздоўж вузкай палоскі вуліцы.

Мы былі ўдзячны гэтаму суседству. У маленькай майстэрні тут можна было ў лічаныя хвіліны адрамантаваць абутак або сумку, купіць у крамцы гузікі, здаць непатрэбную рэч у «камісіёнку», запраўіць аўтаручку, забегчы ў аптэку і цырульню...

Дарога да Нямігі вяла паўз магазін «Военохот», у вузкіх вітрынах якога тоўпіліся пыльныя чучалы птушак. Цесната была справай звычайнай і для ўсёй вуліцы. Каб разысціся на тратуары з сустрэчнымі, часам даводзілася сыходзіць на праезджую частку. А ўжо тут — не зявай! Апрача легкавушак каціліся па Нямізе грузавікі і тралейбусы. Вуліца задыхалася ад мітуслівага патоку машын. Магчымасці ў яе былі не тыя, што ў новых прасторных праспектаў Мінска. І ўсё-ткі яна, як магніт, прыцягвала людзей: уздоўж па Нямізе заўсёды цягнулася ажыўленая іх чарада...

На пачатку сямідзесятых Няміга, здавалася, назаўсёды ўступіўшы ролю гарадскога цэнтра іншым, прыгожым і пампезным вуліцам, зноў стала цэнтрам увагі мінчан. Быццам паводкі і ліўневыя патокі, клекаталі вакол Нямігі спрэчкі, у якіх вырашаўся яе далейшы лёс. Перамаглі прыхільнікі зносу. Былі сярод іх і некаторыя дойліды, што сцвярджалі: старыя кварталы архітэктурнай каштоўнасці не з'яўляюцца, а перабудова абыдзецца даражэй, чым новабудоўля.

Старую Нямігу таранілі бульдозерамі, малацілі жалезнымі «грушамі». Некаторыя дамы не здаваліся, іх узрывалі... Воблака сівога пылу з незнаёмым, нейкім нясённымашнім, прысмакам удзень і ўначы калыхалася над вуліцай. З руін праз дажджавыя сцёкі крышанка чырвонай цэглы трапляла ў падземную плынь Нямігі. І там, дзе рэчка ўпадала ў Свіслач, расцякалася вялікая бурая пляма...

А ўлёгся пыл, і стала відаць, як не хапае нашаму сучаснаму гораду гэтага куточка. Сапраўды, не была Няміга суцэльным архітэктурным шэдэўрам. Але вось, высветлілася, была асяроддзем, дзе без стандартнага набору «усіх» выгод сучаснага жылля ўсё ж ужываўся, захоўваў своеасаблівасць горада, задаваў асаблівы настрой жыцця добры дух вечнага Мінска... Ну, ды што цяпер пра гэта гаварыць. Усё роўна, што спрабаваць занава стуліць у адну і тую ж рэчку. Тая вада выцякла. Тая Няміга адышла. А бітага, пралітага і пражытага, як вядома, назад не вернеш.

Раптам прамяні ліхтароў, што бесклапотна скакалі наперадзе, упіраюцца ў бетонны завал. Збянтэжана спыняемся: што гэта? Запруда? Тады куды ж знікае вада? Падыходзім бліжэй: плынь рэзка віляе ўбок. І там, у змроку, стаіць пагражальны гул, што множыцца рэхам бетоннай цясніны. А за завалам ззяе пустое рэчышча.

Збочваем. Ідзём, прыціскаючыся да сцен крывога калідора. З асцярогай глядзім наперад. Нарэшце бачым: вугал нахілу рэчышча становіцца вуглом падзення. Няміга, як маленькая Ніягара, з пырскамі і касмылямі пены зрываецца ў бездань. І, упаўшы з вышыні двух — трох метраў, зліваецца з масляністым, у вясёлкавых разводах мазутных плям, патокам.

Ці можна прайсці далей за плынню? Міхаіл, адзіны з нас уладальнік гідракасцюма, абвязваецца для страхоўкі вяроўкай, саслізгвае па вадзе ўніз і адразу праваліваецца па грудзі.

Крок наперад — яшчэ глыбей.



Плынь, што злучае мінуўшчыну і будучыню.



□ За 200 метраў да ранейшага вусця рэчка адводзіцца ў калектар «цэнтр».

— Та-ак... Мелкі брод — па самы рот. Цягніце назад!

Усё-ткі тупік. Далей ходу няма. А да мэты — месца сустрэчы Нямігі са Свіслаччу — прайсці заставалася ўсяго нічога: 200 метраў.

Аказваецца, лінія метро, што пройдзе на глыбіні калектара, неміну́ча адсячэ яго частку, вось рэчка і адводзіцца ў калектар «цэнтр», дзе змешваецца з іншымі гарадскімі сцёкамі, у тым ліку — прамысловымі. І выходзяць воды Нямігі да Свіслачы за некалькі кіламетраў ад ранейшага вусця. Па сутнасці, гэта ўжо не Няміга.

Выходзім да бліжэйшага калодзежа. Але перш чым падняцца па знаёмай лесвіцы, падсумоўваем, колькі ж вады цячэ па рэчышчы Нямігі. І самі здзіўляемся выніку: тысяча кубаметраў у гадзіну. У суткі — 24 тысячы...

— Добры водазабор для горада з насельніцтвам у дзесяць тысяч чалавек,— заўважае Антонаў.

Нічога сабе «зніклая» рэчка!

— Але гэта што,— раптам дадае Аляксандр.— Гэта не ўсё...

І мы даведваемся, што існуе яшчэ адна падземная Няміга, з якой сутыкнуліся метрабудаўцы, перасякаючы даліну рэчкі. Высветлілася, што з усіх бакоў калектар проста падпіраецца грунтавымі водамі і крыніцамі, якія сілкавалі калісьці Нямігу. У хітрасплеценнях воднай цыркуляцыі рэчка жывілася нават глыбінным Дняпроўска-Маскоўскім ваданосным гарызонтам, тым самым, з якога Мінск п'е цяпер чыстую артэзіянскую ваду. Так што Няміга, па якой мы ідзём, проста бедная сваячка ў параўнанні са сваёй вольнай сястрой. Можна сказаць, што апрача калектара цячэ рэчка разы ў тры-чатыры шырэй, глыбей, імклівей... Вады столькі, што яна вымушае будаваць станцыю метро «Няміга» спецметадамі: на глыбіню катлавана — да дзесяці метраў — вада ўвесь час адпампоўваецца.




Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

Вылазім на паверхню ў двух кроках ад бойкага месца — прыпынку тралейбусаў і аўтобусаў, з якога пачаўся наш рэпартаж. Амаль над галавой шалясціць аўтамабільнымі шынамі, як імклівая страла апярэннем, мост-эстакада праспекта Машэрава. За спінай паўстае шэры гмах са шкла і бетону — першынец мінскага архітэктурнага «авангарда» 60-х гадоў, будынак праектнага інстытута. Насупраць такі ж сучасны Дом мадэлей, а побач з ім — сонечных тонаў Кацярынінская царква, помнік архітэктуры XVII стагоддзя, адзіны ўцалелы на Нямізе. Цяпер у саборы архіў — музей літаратуры і мастацтва Беларусі.

**Добра відаць адсюль і новая вуліца Няміга. За апошнія гады яе грунтоўна пашырылі. Па шэрым асфальтавым «рэчышчы» густымі хвалямі — куды больш, чым раней — коцяцца машыны. Новая транспартная артэрыя «разгрузіла» іншыя вуліцы горада. Ну а што на «берагах»! Правы яшчэ пустуе. На левым прарастаюць, цягнуцца ўгору дамы. Аднак уявіць, якім будзе ўвесь комплекс забудовы, можна пакуль толькі ў адной з майстэрань інстытута «Мінскпраект».**

**Нават на аркушах ватману лёгка заўважыць, што галоўны архітэктурны «ход» падказала сама старажытная Няміга: вуліца-рака. З аднаго боку на другі над транспартным патокам, на ўзроўні шасці метраў, перакідваюцца «масткі» — платформы, якія будуць прымыкаць да магазінаў, кафэ, бараў... Гэтыя дарогі — для пешаходаў.**

**Новая Няміга стане буйным жылым раёнам і гандлёва-грамадскім цэнтрам гарадскога значэння. Тут зноў будзе шматлюдна. І гэта, вядома, добрая памяць аб адышоўшай Нямізе. Толькі ўсё ж для памяці гэтай не хапае, бадай, вельмі істотнага: вады. Няхай нават вузкай яе палоскі...**

**Загаварыў пра гэта з кіраўніком праекта забудовы Нямігі Сяргеем Мусінскім. А ён у адказ прыгадаў, што, трапіўшы ў Венецыю, думаў пра старую вуліцу-рэчку Нямігу. Быў жа гэта канал падобны на венецыянскія... І з сумнай усмешкай дадаў, што пабудова канала на новай Нямізе ва ўмовах жорсткай эканоміі на праекце — чыстай вады фантастыка.**

...Колькі ж вады выцекла? Колькі часу мінула, пакуль ішлі мы па Нямізе? З недаверам паглядаем на гадзіннікі: няўжо ўсяго дзве з паловай гадзіны? А здаецца — вечнасць. Можа, увесь гэты час паказваў той нябачны ўнутраны гадзіннік без стрэлак, які, як сцвярджаюць, ёсць у кожным з нас? І пакуль Няміга працякала ўздоўж нас, гадзіннік гэты адлічваў свой асаблівы час: ішоў ён тым марудней, чым бліжэй мы былі да нашай уласнай гісторыі. Што зразумела, бо вечнасцю час становіцца не адразу, а толькі праходзячы скрозь нас, праз наш век...

Сёння мы можам паскорыць плынь часу. Вось і доўгі наш шлях па Нямізе сучасны гараджанін можа праскочыць за нейкіх дзве з паловай хвіліны. Але нездарма, вядома, ход часу здаўна параўноўваўся менавіта з плынню ракі. Калі мы падганяем падзеі так, што пры гэтым мяняецца само «рэчышча», то, можа, нам толькі здаецца, што хутчэй рухаемся наперад? А на самай справе проста павялічваецца «градус» — вугал ухілу рэчышча, па якім імкліва слізгочам уніз... Каб разабрацца, патрэбны наглядны арыенцір.

Не, не падобная Няміга на міфічную Лету, хоць таксама цячэ пад зямлёй, амаль у магільным склепе. У водах Леты забываліся ўсе зямныя справы, усё мінулае жыццё. А Няміга, плынню якой нібыта злучаюцца шмат якія гістарычныя падзеі, дапамагае пачуць і ўбачыць, як цячэ ад самых вытокаў сапраўдны час.



□ На месцы раскопак замчышча ствараецца археалагічны музей.

**Рэчка гэтая — унікальны жывы помнік. Сёння нашай дзяржавай ахоўваюцца старыя будынкі як помнікі пэўнага часу. Той жа Кацярынінскі сабор на вуліцы Нямізе. Але хіба не заслугоўвае дзяржаўнай аховы помнік, што мінулы, цяперашні і будучы час злучае!**

**Вядома, патрэбны памятныя знакі ля вытоку Нямігі і ў месцах, дзе яна цячэ. Але галоўны помнік — сама Няміга. Нанава тут нічога ствараць не трэба. Вось толькі паказаць бы яе людзям. Даць магчымасць калі не ступіць у яе, дык паслухаць, паглядзецца ў яе люстэрка. Як гэта зрабіць! Не палезуць жа, на самай справе, усе жадаючыя ў калектар...**

**Я звярнуўся да самых кампетэнтных у горадзе спецыялістаў-гідролагаў. Сярод іх — Іван Шчарыца, начальнік упраўлення эксплуатацыі сістэмы «Вілія-мінскводбуд», Аляксандр Самончык, галоўны інжынер «Мінскінжпраекта», дзе распрацоўваюцца штучныя водныя сістэмы, і Уладзімір Макрыцкі, начальнік аддзела ў гэтым жа інстытуце.**

**Думка, якая нарадзілася ў размовах з інжынерамі, можна сказаць, ляжыць на паверхні. Ды самае простае Нямігу на гэтым апошнім 200-метровым участку падняць і пусціць так, як цякла яна і сто, і тысячу гадоў назад. Па тым жа рэчышчы, у тое ж вусце. Тэхнічна справа нескладаная: падняць ваду помпамі на чатыры метры. Тут нам вопыту не пазычаць. Бо воды Віліі перакідваюцца ў Мінск па штучным канале амаль на 200 кіламетраў і падымаюцца пры гэтым на вышыню 75 метраў. Ну а матэрыяльныя сродкі на выратаванне Нямігі — проста сімвалічныя ў параўнанні з выдаткамі на любы з участкаў водна-паркавай сістэмы на 657 гектараў, што ствараецца зараз у Мінску.**

**—Усё будзе залежаць ад горадабудаўнічага значэння,— прыйшлі да дзелавітай высновы мае субяседнікі.**

**Ясна, што як гістарычнаму помніку Нямізе цаны няма. Але будзе ў наземнага канала і, так сказаць, прыкладное значэнне. Па-першае, ён засцеражэ ад небяспекі лінію метро. Зараз для гэтага ў даліне Нямігі будуецца пліта ў 300 метраў шырынёй і ў 10 — вышынёй. Але спецыялісты, сярод іх і галоўны геолаг «Мінскметрабуда» А. Антонаў, з апаскай адзначаюць, што шчыт гэты можа аказацца ненадзейным у час рэзкага ўздыму падземнай Нямігі ў ліўні або ў паводкі... Калі ж вывесці ўчастак ракі на паверхню, патокі вады будуць цячы над другой лініяй метро гэтаксама, як Свіслач над першай.**

**У новай вуліцы Нямігі з'явіўся б водны працяг, якога ёй так не хапае. Археалагічны музей, што ствараецца на месцы раскопак замчышча, папоўніцца натуральным экспанатам: як і ў старажытнасці, Няміга «шэрай венай» будзе цячы да «сэрца» горада. Пры гэтым для аховы чысціні яе, магчыма, і не спатрэбяцца меры юрыдычнай засцярогі. Цяпер рэчку забруджваюць цішком, пад покрывам тоўстага слоя зямлі і бетону. Але хто адважыцца на скідванне нечыстот на вачах усяго горада!**

**Нарэшце, вывад рэчкі з «трубы забыцця» стане лепшым гарадскім мерапрыемствам у гонар юбілею «Слова», з духоўным патокам якога так дзівосна спалучаецца плынь Нямігі.**

«Слова», як сама гісторыя, растварaецца ў нашай крыві, пульсуе ў нашых жылах. І старажытная яго мудрасць сёння прыдатная зноў: усе сумленныя людзі павінны аб'яднацца, каб не здарылася апошняй міжусобіцы. Што тыя каменныя ядры, якімі калісьці абстрэльвалі Мінск, у параўнанні з расшчэпленымі ядрамі ракетных зарадаў? У якім умацаваным замчышчы можна адсядзецца, калі зямлю захлісне сусветны крывавы патоп?.. Водгалас даўняга болю аўтара «Слова» зноў чуецца ў «Логіцы ядзернай эры» пісьменніка Алеся Адамовіча: наш час — «як кроў з разарванай артэрыі: вось-вось з жывога можа ператварыцца ў мёртвы».

Рэчкі нездарма наносяцца на картах пражылкамі блакітнага колеру. Няміга — як адзін з крывяносных сасудаў нашай зямлі. Яна па-ранейшаму злучае ўскраіну горада, цяпер ужо паўтарамільённага, з яго цэнтрам, а пачатак яго біяграфіі — з яе працягам. І калі мы гаворым, што будуем жыццё — багатае і прыгожае, гарманічнае і поўнае, як магутная рака, не забыць бы пры гэтым, што рака складаецца з ручаёў. І здароўе ўсякай вялікай ракі — на яе прытоках. Няміга, якая стала своеасаблівым сімвалам нашай гісторыі,— прыток асаблівага роду. Па ім праходзіць сувязь часоў. А калі яна рвецца — нібыта рвуцца нашы крывяносныя сасуды.

Няміга, як і «Слова», надзяляе нас радаслоўнай. І надзеяй на яе працяг. І, вядома,— на хуткі працяг гэтага рэпартажу: наўсцяж па Нямізе засталося прайсці 200 метраў.

Магчыма, пачну так: вадзіцель тралейбуса, аўтобуса або цягніка метро аб'яўляе:

— Прыпынак Няміга!

Выходжу. І... Ды што ж тут распытваць, калі вось яна, рэчка Няміга — перад вачамі. І кожнаму можна прайсці ўздоўж яе. І ўбачыць далячынь, што з яе берагоў адкрываецца.

І пайсці далей.



# СЛОВА БЯРЭ ЧЫТАЧ

КРЫЎДНАЕ НЕПАРАЗУМЕННЕ

## МОСТ... АДДАЛЯЕ ЛЮДЗЕЙ

«Дарагая рэдакцыя!

Ці ведаеш ты, колькі людзей умяшчае адзін цягнік! Многа, вельмі многа, асабліва ў перадвыхадныя і выхадныя дні. Пераканалася я ў гэтым на ўласным вопыце.

24 жніўня 1985 года наш цягнік «Баранавічы — Віцебск» прыбыў у Віцебск а восьмай гадзіне раніцы. Выйшаўшы з вагона і ўбачыўшы вузкі пераходны мост, што злучае платформы з другім паверхам вакзала, я адразу зразумела, што сустрэча са сваякамі, якія чакаюць мяне ля ўвахода на першы паверх, адкладваецца на няпэўны час. Ляніва, нібыта праз сілу, вакзал глынаў бясконцы паток пасажыраў, якія, шчыльна прыціснуўшыся адзін да аднаго, марудна прасоўваліся па мосце, пацепваючыся ад халаднаватага ранішняга ветру.

Я была ўжо недалёка ад дзвярэй, як раптам голас дыктара аб'явіў пасадку на прыгарадны цягнік. У тое ж імгненне з дзвярэй вакзала хлынуў сустрэчны паток пасажыраў з вёдрамі, сумкамі, кошыкамі, клункамі... Усё, што адбывалася далей, можна назваць баталіяй паміж прыехаўшымі і ад'язджаючымі. Плакалі спалоханыя дзеці, з таго і другога боку чуліся абразы. Усе разумелі недарэчнасць такога становішча, але што было рабіць! Не скакаць жа з моста!

Адбылася крыўдная памылка. Іншай думкі я не магу дапусціць, бо адміністрацыя Віцебскага чыгуначнага вузла, якая штодня прымае і адпраўляе цягнікі па адным і таму ж раскладу і дакладна ведае прапускную здольнасць свайго пераходнага моста, не можа не ведаць, што нельга прымаць на адну платформу адначасова два цягнікі. Але калі ўжо так здарылася, хіба нельга было прыняць адпаведныя захады! Але ні дыспетчар, ні дзяжурны па вакзалу нават не схамянуліся, прадаставіўшы пасажырам самім выблытвацца з недарэчнай сітуацыі, у якую яны трапілі...

Дарэчы будзе сказаць, што сваякі так і не дачакаліся мяне, вырашыўшы, што я не прыехала, і ў выніку я вымушана была дабірацца самастойна. Дый радасць сустрэчы з прыгожым старажытным горадам была сапсавана.

І яшчэ адно пытанне я хацела б задаць адказным асобам з Упраўлення Беларускай чыгункі: ці спрабаваў хто з вас падняцца на той самы знакаміты пераходны мост, трымаючы ў адной руцэ важкую сумку або чамадан, а на другой — дзіця! Калі не, то раю вам гэта зрабіць. Можа тады неабходнасць рэканструкцыі пераходнага моста Віцебскага чыгуначнага вакзала стане відавочнай.

Л. ЦІМАФЕЕВА, г. Мінск».

**АД РЭДАКЦЫІ:**
**Копія пісьма Л. Цімафеевай накіравана на разгляд ва Упраўленне Беларускай чыгункі.**

ПА СЛЯДАХ НАШЫХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ

## НАСУСТРАЧ ПАРКАЛЁВАМУ ВЯСЕЛЛЮ

«Дарагая рэдакцыя!

Не кожная публікацыя, як кажуць, закранае струны душы, а вось артыкул І. Клімашэўскай «Калі згасаюць зоркі...» спадабаўся. Сапраўды, шчасце ў сям'і не прыходзіць само, яго нельга знайсці або атрымаць у спадчыну раз і назаўсёды, за яго трэба змагацца штодня, усё жыццё.

У выніку прафесійных назіранняў, я прыйшоў да высновы, што асабліва адказны ў жыцці маладой сям'і першы год сумеснага жыцця. На мой погляд, гэта рэпетыцыя сямейнага шчасця. Менавіта ад першых крокаў мужа і жонкі залежыць, як складзецца далейшае сумеснае жыццё.

Звычайна маладыя не адчуваюць цяжкасцей ва ўзаемаадносінах у першы месяц, які нездарма называюць мядовым: усё ў навіну, усё выклікае захапленне, і нават невялікія кулінарныя здольнасці маладой жонкі не выклікаюць зласлівасці ў маладога мужа, а на твары жонкі блукае заміласаваная ўсмешка, калі яна назірае, як нязграбна і доўга валтузіцца муж ля сапсаванага замка ў дзвярах. Але, як кажуць, усяму свой час. Пагадзіцеся, што кепска прыгатаваную вячэру можна прабачыць у першы месяц сумеснага жыцця, але калі гэтак будзе паўтарацца і два, і тры месяцы, гэта ўжо выклікае раздражненне і расчараванасць у здольнасцях жонкі, стварае спрыяльную глебу для папрокаў і сварак.

Першы год сумеснага жыцця, такі шчодры на радасці кахання, разам з тым вельмі патрабавальны да маладых: за гэты час яны павінны назапасіць шмат ведаў і практычных навыкаў, вывучыць характар спадарожніка жыцця, навучыцца разумець яго настрой, адчуваць у кожны момант яго душэўны стан, каб своечасова падтрымаць добрай парадай, ласкавым словам, а то і маўклівай спагадай. Пяшчотныя і шчырыя ўзаемаадносіны — гэта паветра, якім дыхае сям'я. А для таго, каб гэта паветра было чыстым, трэба найперш быць патрабавальным да сябе, навучыцца стрымліваць, іншым разам і прамаўчаць, не паказваць свой дрэнны настрой, каб не сапсаваць яго другому. Не заўсёды трэба заўважаць пакамечаны ложак або брудную талерку — магчыма, сёння ў блізкага вам чалавека непрыемнасці на рабоце, і ён чакае чуласці і ўвагі, а не заўваг і папрокаў.

Вядома, у шлюбе не абыходзіцца без спрэчак, але калі яны прасочваюцца праз сіта добразычлівасці, яны не шкодзяць маладой сям'і, наадварот, узрэйнічаюць на каханне, як вясновы дождж на маладую зялёную траўку. Аднак гэта не азначае, што сварку трэба распачынаць з-за кожнай дробязі. Узнікла спрэчка — выкажыце свае меркаванні, падмацуйце іх грунтоўнымі прыкладамі, а калі зразумееце, што ваша пазіцыя памылковая, не саромейцеся ў гэтым прызнацца, бо ўступіць каханаму — ніколькі не ганебна.

Галоўная ж задача на першым этапе — навучыцца пераадольваць цяжкасці агульнымі намаганнямі, знайсці ў каханым сябра, побач з якім не страшна любое выпрабаванне (хто ведае, колькі іх наканавана лёсам!).

У народзе нездарма адзначаюць гадавіну сумеснага жыцця — паркалёвае вяселле. Тыя, хто прыйшлі да паркалёвага вяселля ў дружбе ды згодзе, захаваўшы непарушным каханне, зрабілі першы крок да вяселля сярэбранага і залатога.

Г. УРБАНОВІЧ, урач. г. Слонім.»

РэзанансС



Дапамога. Фота І. Шрамава.

## НАШ КІНАМЕХАНІК

На экране грымелі выбухі, не змаўкала страляніна, нашы байцы адбівалі атакі фашыстаў адну за адной... Сяргей Пятровіч уважліва сачыў за якасцю дэманстрацыі фільма, за гукам і ў той жа час пазіраў на экран. Ужо каторы раз дэманстраваў ён гэтую стужку, але кожны раз убачанае хвалявала, прымушала ўспамінаць перажытае...

Яму было сем гадоў, калі пачалася вайна. І на яго долю хапіла гора і слёз. Хаця і балюча ўспамінаць пра той час, але Сяргей Пятровіч Нікіцін заўсёды з ахвотай бярэ кінафільмы пра Вялікую Айчынную вайну, бо, на яго думку, яны выхоўваюць моладзь, а старэйшым нагадваюць аб ваенным ліхалецці, аб неабходнасці змагацца і не дапусціць новай вайны.

Вось ужо каля 30 гадоў Сяргей Пятровіч Нікіцін працуе кінамеханікам у вёсцы Жорнаўка Асіповіцкага раёна. Успамінае, як пасля вайны на конях і быках, па калена ў гразі ён з кінаапаратурай спяшаўся ў Лазовае і Макоўе, у Пагарэлае і Лочын, Амінавічы і Папоўку... Два сельскія Саветы абслугоўваў ён у той час, а адлегласць ад аднаго населенага пункта да другога была і па 15 і па 20 кіламетраў. Але вясковы кінамеханік ведаў, што людзі чакаюць яго, што ім хочацца пагпядзець новую кінастужку, давядацца, што новага ў краіне.

— Зараз працаваць стала намнога лягчэй,— гаворыць Сяргей Пятровіч,— адлегласць цяпер не праблема, дый кінаапаратуру новую атрымаў, і гук, і рэзкасць паказу адразу палепшыліся...

...Працоўны дзень кінамеханіка пачынаецца не пазней, як у аднавяскоўцаў — паляводаў, жывёлаводаў, механізатараў. Прывык Сяргей Пятровіч працаваць так, каб заўсёды была поўная зала гледачоў. А для гэтага трэба і афішы заранёй намаляваць, раніцою расклеіць іх у самых людных месцах, і на палявы стан або на ферму зайсці, каб расказаць аб новым фільме, і апаратуру як след падрыхтаваць.

Кажуць, што чалавек не без карысці пражыў на свеце, калі выхаваў хоць аднаго добрага вучня. У Сяргея Пятровіча Нікіціна больш як 20 вучняў. Адны працуюць побач, іншыя — далей, а ён і сёння выхоўвае сабе змену — вядзе заняткі ў гуртку кінамеханікаў у Жорнаўскай сярэдняй школе.

Настаўнік, прапагандыст, Сяргей Пятровіч лічыць сваім абавязкам прымаць удзел у барацьбе супраць п'янства. Не раз і не два перад пачаткам сеанса праводзіў ён гутаркі аб шкодзе алкаголю. А аднойчы пасля дэманстрацыі фільма «Горкія ўдовы» сама сабой распачалася ў зале дыскусія. На гэты раз Сяргей Пятровіч больш маўчаў, затое выказваліся жонкі, маці, дзеці п'яніц. А тыя, што сябравалі з чаркай, паціху пакідалі залу, а потым сустрэлі Нікіціна па дарозе дадому:

— Ты навошта нас так абняславіў? Не хочаш піць — не пі, а нам не перашкаджай!..

— Я ж хачу, каб і вы, як людзі, жылі, каб у сем'ях вашых былі лад ды згода,— усміхнуўся Сяргей Пятровіч.— І не адступлюся, пакуль вы гэта не зразумееце...

І сапраўды, не такі чалавек Нікіцін, каб адступіць, адмовіцца ад намечанага. Не прайшло й дня, як ён зноў накіраваўся ў Асіповічы — прасіць фільм па прафілактыцы п'янства.

# ЦІ ЁСЦЬ ПРА ШТО РАСКАЗАЦЬ ПЕНСІЯНЕРАМ?

«Дарагая рэдакцыя!

Вось ужо шмат гадоў з'яўляюся вашым пастаянным чытачом. «Беларусь» прываблівае не толькі надзённасцю ўзнятых праблем, разнастайнасцю публікацый, але і сакавітай роднай мовай. Можа таму я вельмі люблю чытаць часопіс уголас, а жонка, дзеці, унукі, а цяпер ужо і праўнукі з задавальненнем мяне слухаюць, а потым абмяркоўваюць артыкулы, якія найбольш спадабаліся.

Хацелася б у новым 1986 годзе ўбачыць на старонках часопіса рубрыку «Жыццё на пенсіі», дзе можна было б прачытаць аб ветэранах вайны і працы, якія і сёння знаходзяцца ў працоўным страі; даведацца, як яны жывуць, чым захапляюцца, як выхоўваюць маладое пакаленне. Мне здаецца, гэта тэма зацікавіць чытачоў **нашага** часопіса, бо гэта толькі на першы погляд здаецца, што пенсіянерам няма пра што расказаць.

Узяць хоць бы мяне. Нарадзіўся і вырас у Рэчыцы, там жа вучыўся і працаваў да арміі. А потым была вайна... Пра гэту чорную часіну нават успамінаць не хочацца, ды ўсё ж помніцца, помніцца да драбніц незабыўнай памяццю сэрца. Хіба ж можна забыць, як гінулі таварышы, як у спаленых вёсках нас сустракалі галодныя, беспрытульныя дзеці...

Пасля вайны паехаў на цаліну. І там ішло змаганне — за хлеб, за шчасце. І там я таксама нямала пабачыў людзей мужных, самаадданых, горача ўлюбёных у жыццё. Зрадніўся я з цалінная зямлёй, здаецца, назаўсёды, бо больш за ўсё, як кажуць, зблізкае праца. Ды ўсё ж пад старасць пацягнула дадому, да родных вытокаў — у Рэчыцу.

Мне ўжо 72 гады, але я працягваю працаваць ахоўнікам. Вельмі люблю прыроду. Кожны паход у лес па грыбы, па ягады, проста, каб падыхаць лясным паветрам, для мяне — свята. Па-ранейшаму займаюся спортам — хадзьбой, бегам, плаваннем, вeславаннем.

Сям'я ў нас цудоўная — 10 дзяцей, 24 унукі, 9 праўнукаў. А «душа» гэтай вялікай і дружнай сям'і — жонка Вольга Мартынаўна, ветэран працы, лепшы майстар-пекар на сваім прадпрыемстве. Як і я, яна таксама заўсёды ў руху, у працы, у клопатах, за што ні возьмецца — усё ўмее. Ні на гады, ні на стому ніколі не скардзіцца, заўсёды памяркоўная і спагадлівая. Затое любяць і паважаюць яе дзеці, унукі, дый усе суседзі. Жыццё мы з ёй пражылі, як песню праспявалі.

**Міхаіл ФУФАЕЎ,**
г. Рэчыца.»

# САКРЭТ ВОСТРАВА ЮР'ЕВА

Турыскія сцяжынкі прывялі нашу групу ў вёску Востраў Юр'еў, што на Дубровеншчыне. Аднак вострава нідзе паблізу мы не заўважылі. Чаму ж тады такая дзіўная назва ў вёскі?

Разгаварыліся са старажыламі і вось аб чым даведаліся.

З даўніх часоў распасціраліся ў гэтых мясцінах непраходныя тарфяныя балоты. Менавіта ў гэтых балотах і шукалі паратунку беглыя сяляне, якія лічылі за лепшае патануць у багне, чым цярпець здзекі і жорсткасць памешчыкаў. Тыя, каму пашанцавала выратавацца, сяліліся на невялічкім астраўку сушы і самавольна яшчэ да знакамітага Юр'ева дня адмянялі сабе крапаснoе права. Неўзабаве пасярод балот вырасла невялічкая вёсачка — Востраў Юр'еў.

Незайздросным было жыццё жыхароў вёскі, адрэзанай ад усяго свету балотамі, і толькі Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя ўнесла ў яго значныя змены. Ля суседняй вёскі Шабаны Аршанскі чыгуначны вузел пачынае будаваць пасёлкі, арганізоўвае здабычу кускавога торфу на паліва для паравозаў. Так распачаў сваю гісторыю легендарны «Асінторф», шырока вядомы цяпер нават за межамі краіны.

Мусіць, самым галоўным словам для юнакоў і дзяўчат Віцебшчыны ў чэрвеньскія дні 1927 года было слова «Асінбуд». З усіх куткоў неабсяжнай краіны з'язджаліся сюды маладыя будаўнікі, каб пракласці шлях электрыфікацыі Савецкай Беларусі. На карце рэспублікі побач з мала каму вядомай вёскай Востраў Юр'еў з'яўляецца Асінаўская раённая электрастанцыя, якую ў наш час называюць больш сціпла — БелДРЭС. Ажылі глухія мясціны, зазвінелі ў наваколлі сякеры і пілы, загучалі маладыя галасы. Паўлюк Трус, натхнёны энтузіязмам маладых будаўнікоў, пісаў:

**І тады я стану**
**пад гарою,**
**каб пазбыцца смутку**
**і журбы,**
**буду слухаць песні**
**Асінстрою,**
**захапляцца музыкай**
**турбін.**

Вось, аказваецца, якая вялікая гісторыя ў маленькай вёсачкі.

**Кастусь КАРНЯЛЮК.**
Кобрынскі раён.

НЕВЕРАГОДНА, АЛЕ ФАКТ

# ГОСЦІ З ЛЕСУ

З нецярплівасцю чакаюць лета Казімір Фаміч і Вольга Якаўлеўна Вернікоўскія, якія жывуць у Беразіно па вуліцы Я. Коласа. Іншы раз, сышоўшы з ганка, бярэцца Казімір Фаміч за рыдлёўку і падсыпае снегу паміж магутнай ліпай і старой яблыняй, што расце пад акном. Такая пільная ўвага да гэтага лапіка зямлі невыпадковая: вось ужо некалькі гадоў запар гаспадары збіраюць тут... баравікі. Так, так, мы не агаварыліся: чысценькія, крамяныя, з яркімі шапачкамі лясныя прыгажуны аблюбавалі месца пад старой яблыняй. Мінулае лета выдалася не надта ўраджайным на грыбы, затое пазалетась тут сабралі 28 баравікоў.

Адкуль жа з'явіліся ў садзе грыбы? Гэтага і самі гаспадары доўга не маглі зразумець. А потым успомнілі, што некалькі гадоў назад на гэтым месцы стаяў стол, на якім Вернікоўскія нярэдка перабіралі грыбы, і сярод іх, вядома ж, былі баравікі. Вось тады, відаць, і трапіла ў глебу грыбніца, а праз колькі гадоў парадавала людзей незвычайным падарункам.

**В. ПАЗНЯК.**

**УВАГА!**

**КОНКУРС**

# ШТО Б ГЭТА АЗНАЧАЛА!

**Прапануем вам, паважаныя чытачы, прыдумаць подпіс пад гэтым здымкам. Пераможцы конкурсу атрымаюць памятныя падарункі — кнігі вядомых беларускіх пісьменнікаў з аўтографамі аўтараў.**
**Просьба дасылаць подпісы не пазней як праз месяц пасля выхаду часопіса.**



Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ.

# 25 РЭКОРДАЎ У ДЗЕНЬ

Каго цяпер можа ўразіць дзіцяня, якое, яшчэ нават не навучыўшыся хадзіць, з задавальненнем плёскаецца ў басейне пад наглядам сваёй мамы ці ўрача-метадыста? Маленькі гімнаст на «дарослым» турніку — таксама не дзіва. А вось карапузаў пад самым «купалам» спартыўнай залы давялося ўбачыць пакуль што толькі аднойчы — у дзіцячым садзе № 41 горада Баранавічы, дзе будучыя першакласнікі займаліся фізкультурай. Прызнаюся: слова «купал» прыйшло ў галаву таму, што, глядзячы на малышоў, не мог стрымацца, усклікнуў: «Вось дык цыркачы!»

Што ж адбываецца? Чаму апошнім часам нашы дзеці сталі больш спартыўнымі, а мы (маю на ўвазе бацькоў, якія вырашылі далучаць сваіх малышоў да спорту з пялёнак) — смялейшымі? Ці даўно, здаецца, тое было, калі натуральная патрэба дзяцей у руху «кваліфікавалася» як сваволства, калі з усіх спартыўных снарадаў дзіцячыя сады мелі хіба што арэлі. Так «спакайней» жылося выхавацелям, затое не надта ўтульна адчувалі сябе іх маленькія выхаванцы. І пакуль зацікаўленыя людзі (урачы, педагогі, спартыўныя работнікі) даказвалі, што любое дзіця здольна ўстанавіць да дваццаці пяці асабістых спартыўных «дасягненняў» у адзін дзень і паступова стаць загартаваным, у некаторых сем'ях неяк неўпрыкмет з'явіліся свае куткі здароўя са шведскімі сценкамі, брусамі, гантэлямі... Дзеці такіх бацькоў — энтузіястаў фізкультуры з кожным тыднем бегалі хутчэй, скакалі далей, апраналіся для прагулак лягчэй. І пра іх загаварылі. Яны падалі прыклад, на які цяпер нельга не арыентавацца, калі мы сапраўды хочам бачыць дзяцей жыццярадаснымі і здаровымі.

Для энергічнага развіцця фізкультурна-аздараўленчай работы ў дзіцячых дашкольных установах і ў сярэдніх школах спатрэбіліся не зусім звычайныя метадычныя дапаможнікі. Выдавецтвы падрыхтавалі спецыяльныя зборнікі, куды ўключылі новыя і зусім, здавалася, забытыя гульні, якія стагоддзямі ўдасканальваліся на Беларусі. Назаву толькі некалькі: «азярод», «була», «гуські», «апука»... Цяпер яны «на ўзбраенні» трэнераў ДЮСШ, выхавацеляў дзіцячых садоў, настаўнікаў фізкультуры.

Можна прыгадаць тысячы адрасоў, дзе сёлета зрабілі свае першыя крокі ў цудоўны свет спорту хлопчыкі і дзяўчынкі. Вось пінская ДЮСШ-4. У яе басейне пасябравалі з вадой больш як паўтары тысячы малышоў. А вось — спартыўная зала адной з дзіцячых спартыўных школ алімпійскага рэзерву па гімнастыцы, дзе будучых чэмпіёнаў трэніруе вядомы ў недалёкім мінулым спартсмен, былы чэмпіён СССР Алег Дзмітрыеў. Калі вы завітаеце ў дзіцячы сад № 130 мінскага вытворчага аб'яднання «Прамень», то і тут вам абавязкова скажуць, што расці дужымі, не баяцца прастуды дзецям дапамагаюць распрацаваныя па спецыяльнай методыцы водныя працэдуры ў спалучэнні са штодзённай фіззарадкай.

Словам, такія прыклады ўжо далёка не рэдкасць. І гэта — выдатна!

Валерый ЛАПІН.






пад рэдакцыяй міжнароднага гросмайстра Віктара КУПРЭЙЧЫКА.

# Добры дзень, альма-матэр!

Што і казаць: занятак любімым відам спорту — гэта свайго роду гульня. І, канечне ж, маюць рацыю сацыёлагі, якія сцвярджаюць, што для людзей рознага ўзросту гульня патрэбна як разрадка, як адпачынак пасля будзённых спраў.

Адрасоў здароўя ў беларускай сталіцы шмат.

Вы любіце хакей? Калі ласка, прыходзьце ў зімовы вечар у Палац спорту.

Маеце намер авалодаць «сакрэтамі тэніснай ракеткі?» Вас запрашае на трэніроўкі Палац тэніса.

У выхадныя дні аматары лыжнага спорту самі маюць магчымасць прайсціся «з ветрыкам» па сусветна вядомых трасах біятлоннага стадыёна ў Раўбічах.

Як бачым, адрасоў шмат. Даўніх і новых. Але ёсць у Мінску адрас самы новы і, бадай, самы папулярны: вуліца К. Маркса, дом 10.

Менавіта тут кватаруе Палац шахмат і шашак, дзе ёсць усе (без перабольшвання ўсе!) магчымасці для сістэматычных заняткаў як шахматамі, так і шашкамі — рускімі і міжнароднымі. І праводзяцца тыя заняткі са шматлікімі аматарамі старажытных гульняў у чатырох вучэбных класах.

У цэнтры Палаца прыгожая турнірная зала і зала малая, дзе праводзяцца турніры мясцовага значэння і міжнароднага рангу. Што датычыцца аматараў шахмат і шашак, то для іх знакамітыя майстры і гросмайстры будуць даваць сеансы адначасовай гульні ў двух холах — на другім і трэцім паверхах. Дарэчы, такія сеансы ўжо адбыліся — аматары старажытных гульняў праверылі свае здольнасці ў паядынках з майстрамі спорту Яўгенам Мачалавым, Пятром Карзубавым, Сяргеем Юферавым, гросмайстрам СССР па шашках Аркадзем Плакхіным.

А ў кастрычніку ў Палацы і ўвогуле быў аншлаг: спаборніцтвы першай лігі 53-га чэмпіяната СССР па шахматах сярод мужчын сабралі знакамітых майстроў і гросмайстраў краіны і ... тысячы мінчан — прыхільнікаў багіні шахмат Каісы.

У зімовы час аматары шахмат і шашак займелі магчымасць паслухаць цікавыя лекцыі чэмпіёнаў свету па міжнародных шашках Анатоля Гантварга і Алены Альтшуль, мацнейшых шахматных майстроў рэспублікі, карацей, атрымаць урокі майстэрства ў шахматна-шашачнай альма-матэр.

Да сказанага можна яшчэ дадаць, што ў новым Палацы (а ягоная карысная плошча перавышае тры тысячы квадратных метраў) ёсць глядзельная кіназала, зала фізкультурна-аздараўленчая, прэс-цэнтр, гасцініца.

Будзем спадзявацца, што сёй-той з наведвальнікаў Палаца шахмат і шашак прыме эстафету сусветна вядомай беларускай шашачнай школы.

Можа стацца, што выхаванцы гэтай школы дамогуцца высокіх званняў майстроў і гросмайстраў.

Сотні наведвальнікаў выканаюць спартыўныя нарматывы.

А тысячы проста заахвоцяцца чароўным светам шахмат і шашак і стануць пастаяннымі наведвальнікамі Палаца на вуліцы К. Маркса, 10.

Альма-матэр гасцінна запрашае ўсіх, хто цікавіцца старажытнымі гульнямі: «Заходзьце, калі ласка!..»

□ □ □

А цяпер ваш ход, удзельнікі шахматнага конкурсу часопіса «Беларусь»!

## ТУР ТРЭЦІ

### Заданне першае

Дыяграму вы ўжо вывучылі, а цяпер умова. Калі пачынаюць белыя — мат у 4 ходы. Калі пачынаюць чорныя — мат у 3 ходы.

Ільля Сцяпанавіч Шумаў, знакаміты рускі шахматыст, быў не толькі адным з мацнейшых ігракоў у 60-х і 70-х гадах мінулага стагоддзя, але і адным з арганізатараў шахматнага клуба ў Пецярбургу, заснавальнікам так званай выяўленчай шахматнай кампазіцыі. Эцюд пад назваю «Не ў лепшы час зняўся з якара», які мы прапанавалі ўдзельнікам нашай віктарыны, быў складзены І. С. Шумавым у 1867 годзе.



### Заданне другое



Мат у адзін ход.

Пазіцыя на дыяграме, як вы бачыце, крыху незвычайная. Незвычайным павінна быць і рашэнне. Карацей, удзельнікам нашага конкурсу пры рашэнні гэтай задачы не абысціся без гумару. «Для таго, каб аб'явіць чорным мат у адзін ход, беламу каню неабходна...»

Адказы на пытанні трэцяга тура трэба даслаць у рэдакцыю не пазней 1 лютага 1986 года.

Нагадваем. Свае адказы дасылайце на адрас: 220005, г. Мінск, вул. Захарава, 19, з паметкаю — «Шахматны конкурс «Беларусі».

Марат БАСКІН

# Гульня ў снежкі

ГУМАРЭСКА

Снежка трапіла старшаму інжынеру Рыгору Кудзельку акурат у капялюш. Кудзелька рэзка павярнуўся і ўхапіў малога свавольніка за каўнер.

— Хуліган! Па вуліцы не прайсці з-за такіх! Вось дадуць бацькам штраф, будуць ведаць, як дзяцей выхоўваць,— не на жарт разышоўся Кудзелька, моцна трымаючы малога.

— Дзядзька Рыгор,— паспрабаваў вырвацца хлапчук.— Няўжо вы мяне не пазналі! Я ж Піваварчык.

— Бач ты, здзівіў чым,— хмыкнуў Кудзелька.— Піваварчык дык Піваварчык. А я — Кудзелька! І не дазволю Піваварчыку кідаць у мяне снежкамі! Распусціліся! Аніякага выхавання!

— Дзядзечка,— заенчыў малы.— Я лічыў, што вам падабаецца гуляць са мною ў снежкі. На тым жа тыдні, калі вы ля нашага дома праходзілі, я вам аж чатыры снежкі за каўнер затаўхаў. Вы яшчэ тады і світэр знялі, каб снег вытрасці.

— Падабаецца гуляць з табою ў снежкі! — усклікнуў Кудзелька.— Дык я ж пасля тры дні грыпаваў. Прастуда яшчэ і зараз не прайшла.

— А ў нядзелю я вам акуляры снежкай збіў,— успомніў малы.— З першага разу трапіў, дык вы тады мяне за гэта пахвалілі: маўляў, з мяне спартсмен атрымаецца. Біятланіст!

— Не спартсмен, а хуліган! — яшчэ больш зазлаваў Кудзелька.— І віна ў гэтым у першую чаргу бацькоў! Як толькі яны выхоўваюць цябе!

— Дзядзечка,— запярэчыў малы.— Вы ж усяго дзень назад казалі, што гэткі выхаваны хлопчык, як я, можа вырасці толькі ў такіх інтэлігентных людзей, як мае бацькі.

— Дзень назад! — хмыкнуў Кудзелька.— Ды ўсяго дзень назад твой бацька яшчэ быў маім дырэктарам. А цяпер яго знялі. Сёння нам загад зачыталі. Інжынерам стаў твой бацька. Прытым з акладам ніжэйшым, чым у мяне. А сыну інжынера Піваварчыка я не дазволю шпурляць у мяне снежкамі. Зразумеў, хуліган!

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Славенскі жывапісец, аўтар карціны «На Гаспасвецкім полі». 5. Штат у Бразіліі. 8. Рознакаляровыя папяровыя кружочкі. 9. Невялікі музычны твор лірычнага характару. 10. Раздзел мовазнаўства. 14. Стары чалавек. 16. Слабы след, адбітак чаго-небудзь. 17. Бясхвостае земнаводнае сямейства жаб. 18. Пшаніца. 22. Дзіцячае навагодняе свята. 23. Казахскі паэт-асветнік. 24. Беларускі народны танец. 25. Вёска ў Барысаўскім раёне, дзе ёсць музей баявой і працоўнай славы. 28. Наплыў, нараст на ствале дрэва, які скарыстоўваецца на сталярныя вырабы. 30. Фарбавальнік цёмна-сіняга колеру. 31. Дзеючая асоба оперы П. Чайкоўскага «Чаравічкі». 32. Мастацка-публіцыстычны твор сатырычнага, палемічнага характару. 34. Агляд твораў кінамастацтва. 35. Дзеючая асоба оперы Ш. Гуно «Фаўст».

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Вялікая капа сена. 2. Каралі з каштоўных камянёў. 3. Футбаліст мінскага «Дынама». 4. Рускі савецкі паэт, аўтар зборніка вершаў «Мы — мірныя людзі». 5. Опера Дж. Вердзі. 6. Опера М. Рымскага-Корсакава. 7. Ткацкі станок. 11. Рускі савецкі архітэктар, які спраектаваў ансамбль Прывакзальнай плошчы ў Мінску. 12. Жанр народна-паэтычнай творчасці. 13. Магнітнацвёрды сплаў. 15. Буйная стэпавая птушка атрада жураўлепадобных. 16. Упрыгажэнне для ёлкі. 19. Прыстасаванне для перадачы тэлеграфных сігналаў. 20. Горад у Балгарыі. 21. Рэшткі семя пасля выціскання з яго алею. 26. Аповесць М. Гогаля. 27. Дробная марская рыба. 28. Рускі савецкі акцёр, выканаўца роляў У. І. Леніна і Карла Маркса на сцэне Гродзенскага драматычнага тэатра, народны артыст БССР. 29. Жвачная жывёліна атрада парнакапытных. 32. Сталіца еўрапейскай дзяржавы. 33. Тэхнічная густая змазка.




Склаў Міхаіл ТОП.

### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 11

**Па гарызанталі:** 7. Бавоўнік. 8. Курчатаў. 11. Гапак. 13. Аул. 14. «Вожык». 15. Раманс. 16. Апатыт. 17. «Школа». 18. Дыярама. 20. Плынь. 21. Алігер. 23. Амплуа. 25. Яблыня. 27. Гродна. 33. Санет. 34. Каравул. 35. Кухан. 36. Вікінг. 38. Таршэр. 41. Рацыя. 42. Век. 43. Тапаз. 44. Гаўрылаў. 45. Гісторыя.

**Па вертыкалі:** 1. Фанатэка. 2. Водар. 3. Бірма. 4. Дудка. 5. Чарот. 6. «Гарызонт». 9. Масляк. 10. Аладаў. 12. Каралі. 14. Вымпел. 18. Дзейнік. 19. Адмірал. 22. Луб. 24. Уюн. 26. Латвія. 28. Дэкрэт. 29. Нашчадак. 30. «Дрыгва». 31. Кветка. 32. Дабрабыт. 36. Выдра. 37. Іслач. 39. Рэпін. 40. Рагоз.



# З ПЕСНЯЙ ПА ЖЫЦЦІ

Спрадвеку нязменным спадарожнікам чалавека ў радасці і ў горы была песня. З песняй жалі і малацілі, сустракалі вясну і бавілі доўгія зімнія вечары. Песня напаўняла гневам і помстай сэрцы народных мсціўцаў, дапамагала ўзнімаць з папялішчаў гарады і вёскі, саграваля чалавечыя сэрцы, параненыя вайной.

Нялёгка жылося ў той пасляваенны час. Асабліва тым, у каго ў сям'і дзевяць дзяцей. Але бацькі Ганны Стрыжаковай не скардзіліся. Дзяцей выхавалі працавітых, дружных, перадалі ім сваю сардэчную цеплыню і любоў да роднай зямлі. І дапамагла ім у гэтым песня.

— Бывала,— успамінае Ганна Ільінічна,— справімся з гаспадаркай, пасядзем усе і заспяваем — і пра сялянскую долю, і пра дзявочае каханне, і пра тое, як вярнуўся салдат да разбуранай хаты... Любілі песні рускія, беларускія, украінскія, і ў кожную ўкладвалі душу...

Вось так і адкрыўся для дзяўчынкі чароўны свет гукаў, а тыя вясковыя вячоркі паклалі пачатак захапленню музыкай, спевамі на ўсё жыццё.

З дзевяці гадоў удзельнічала яна ў самадзейнасці, выступала амаль на ўсіх школьных вечарах. Марыла толькі аб адным — стаць спявачкай, хоць ведала, якая гэта нялёгкая справа, якой настойлівай, апантанай працы яна патрабуе. Не пашкадавала аб сваім выбары і пазней, у музычным вучылішчы, калі працаваць давялося, як кажуць, да сёмага поту пад кіраўніцтвам вопытнага педагога М. Н. Гераскінай, якая шмат зрабіла, каб выхаваць у ёй любоў да класічнай музыкі, навучыць азбуцы акадэмічных спеваў і ўменню працаваць самастойна. Затое першыя ўжо яе самастойныя выступленні былі цёпла сустрэты як гледачамі, так і прафесійнымі музыкантамі.

Пасля шасці гадоў работы ў ансамблі песні і танца Паўднёвай групы войск Ганна становіцца салісткай Беларускага радыё і тэлебачання. У рэпертуары маладой спявачкі — творы А. Багатырова, Р. Пукста, А. Туранкова, Л. Абеліёвіча, народныя рускія і беларускія песні, якія ў яе выкананні гучаць шчыра і пранікнёна.

У эстрадным калектыве Белдзяржфілармоніі Ганна Стрыжакова працуе ўжо дзесяць гадоў. За гэты час прыкметна пасталеў яе выканаўчы талент, узбагацілася творчая палітра. У сваё выкананне спявачка па-ранейшаму прыўносіць самабытнасць і хараство народнай песні, узбагачае рэпертуар творамі беларускіх кампазітараў: І. Лучанка, Я. Глебава, Ю. Семянякі, Л. Захлеўнага, У. Будніка. Напярэдадні 40-годдзя Вялікай Перамогі яна ўключыла ў сваю праграму песні на ваенную тэму. Гэта поўныя трагізму «Калыханка попелу» Я. Мартынава і «Балада пра маці» У. Кузняцова, лірычны ўспамін «Дом» Я. Глебава, вальс «Успамін» Д. Тухманава і іншыя.

На шматлікіх сустрэчах з працоўнымі Беларусі, Сахаліна, Камчаткі, будаўнікамі БАМа, жыхарамі Казахстана, Туркменіі спявачка заўсёды імкнецца данесці да слухачоў пачуццё светлай журбы і замілаванасці да роднага краю, веру ў тое, што гэта цудоўнае светлае жыццё не павінна згаснуць.

— Мне здаецца, я яшчэ многага недадала кожнай песні,— гаворыць Ганна Ільінічна.— Гэта пакутлівае пачуццё незадаволенасці сабой, якое прыходзіць пасля канцэрта, напэўна, і прымушае нас, спевакоў, шукаць, думаць і працаваць, працаваць...

Беларускае тэлебачанне падрыхтавала перадачу «Спявае Ганна Стрыжакова», у якой спявачка з уласцівай ёй цеплынёй і лірызмам выконвае песні савецкіх кампазітараў, блізкія яе сэрцу беларускія народныя песні. Неўзабаве мы пачуем па радыё ў яе выкананні рамансы С. Рахманінава і цыкл твораў А. Багатырова на вершы Г. Ахматавай. Кожная такая сустрэча са слухачамі — ступенька творчага росту спявачкі, бо каб данесці да слухачоў непаўторнае хараство музыкі, трэба найперш самой зразумець яе ўнутраны сэнс, прасякнуцца светам яе вобразаў.

А колькі сустрэч са слухачамі, колькі планаў яшчэ наперадзе! І ўвасабленне іх патрабуе вялікай працы, упартасці і настойлівасці. А яшчэ — нязменнай адданасці сцэне, той патрабавальнай адданасці, якая вымагае шукаць штодзень сваю гукавую манеру, свае фарбы, свой творчы падыход да кожнай песні.

**Валерый МАКСІМАЎ.**



КАЛЯНДАР САДОЎНІКА

# АЙВА МАЎЛЕЯ

Апошнім часам значна ўзрасла цікавасць да гэтай пладовай расліны. Плады айвы Маўлея вызначаюцца духмянасцю, багатыя на пекцін і кіслоты. Выкарыстоўваюцца яны замест лімона да чаю, а таксама для прыгатавання соку, варэння, кампотаў. Напрыклад, пры прыгатаванні кампоту з грушы лепш замест лімоннай кіслаты дадаць на 1 кілаграм грушы 200—300 грамаў пладоў айвы. Дзякуючы каштоўнай якасці пладоў, а таксама высокай дэкаратыўнасці расліны, айва Маўлея заслугоўвае шырокага распаўсюджання сярод аматараў-садаводаў Беларусі.

Айва Маўлея (Chaenomeles Mauley) — нізкі калючы куст вышынёй 70—80 сантыметраў з багатай каранёвай сістэмай, якая глыбока пранікае ў зямлю. Радзіма яе — Далёкі Усход, Кітай, Карэя. Кветкі буйныя, ярка-чырвоныя, цвітуць 7—12 дзён у другой палове мая і ў пачатку чэрвеня. Плады памерам 4—5 см пры паспяванні, у канцы верасня, набываюць светлую жоўта-зялёную афарбоўку.

Гэта карлікавая расліна вызначаецца скараплоднасцю (плады з'яўляюцца на трэці — чацвёрты год пасля з'яўлення ўсходаў), высокай прадуктыўнасцю (штогод з аднаго куста збіраюць па 3 кілаграмы пладоў) і даўгавечнасцю. На Магілёўскай абласной сельскагаспадарчай доследнай станцыі гэтыя пасадкі прыносяць плады ўжо больш як 25 гадоў. Аднак у халодныя зімы неабходна сачыць, каб расліны былі накрыты снегам.

Размнажаецца айва Маўлея насеннем. Ва ўмовах Беларусі насенне неабходна стратыфікаваць (ахалоджваць), пачынаючы з 10—15 студзеня. У красавіку стратыфікаванае насенне высяваюць у глебу, а яшчэ лепш у скрыні, а потым усходы рассаджваюць на градках. Увосень саджанцы айвы перасаджваюць на пастаяннае месца ўздоўж дарожак або каля агароджы. Адлегласць паміж кустамі павінна быць 90—100 сантыметраў. Прапалваць калючае кустоўе, асабліва калі яно пачало плоданасіць, вельмі цяжка, таму, пачынаючы з 4-гадовага ўзросту, для барацьбы з пустазеллем можна ўжываць гербіцыды, напрыклад, сімазін, які ўносіцца ранняй вясной на не зусім адталую глебу з разліку 0,7—0,8 г. прэпарата на 0,1 л вады на 1 квадратны метр плошчы з дапамогай ранцавага апырсквальніка.

Насенне айвы Маўлея можна набыць на Магілёўскай абласной сельскагаспадарчай доследнай станцыі па адрасу: 213300, Магілёўская вобласць і раён, п/а Дашкаўка.

**Навум МЕЛЬНІК,**
**загадчык аддзела пладаагародніцтва Магілёўскай с/г доследнай станцыі, кандыдат сельскагаспадарчых навук.**

# ЛАЎРЭАТЫ «БЕЛАРУСІ»

## ЛАЎРЭАТАМІ ШТОГОДНІХ ПРЭМІЙ ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСЬ», А ТАКСАМА ЛІТАРАТУРНАЙ ПРЭМІІ ПАДШЭФНАГА КАЛГАСА ІМЯ ЖАЛЕЗНЯКОВІЧА ЗА ЛЕПШЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ 1985 ГОДА СТАЛІ:

Я славы не малю,
Пашаны не вымольваю.
Люблю сваю зямлю,
Найлепшую, па-мойму.

Ёй аддаю спаўна
Змярканні і дасвецці,
Каб шчаснаю яна
Была на гэтым свеце.



Генадзь БУРАЎКІН, паэт,— за нізку вершаў (№ 10).

«...Стаяў сонечны поўдзень, была тая пара, калі ўвесь курортны люд лечыцца без памяці, а зачумленым ад дакучлівых гасцей гараджанам — не да пагулянак, тым больш па даўно знаёмых Гарачых і Жалезных горах... Мы з Іванам Міхайлавічам чыталі немы крык чужое душы толькі ўдваіх. І ён шчымеў знаёмым болем і ў нашых уласных сэрцах... І асабліва балюча было ўявіць, як вечарам гэты крык да крыві растопчуць абцасамі сотні бязлітасных ног. І, можа, самай першай наступіць на яго тая самая, дзеля якой!..»



Алена ВАСІЛЕВІЧ, пісьменніца,— за апавяданне «Элегія» (№ 3).

«Тое, што зрабіў К. Чорны для развіцця нашай прозы, сапраўды цяжка пераацаніць. Ён свядома ступіў на шлях нялёгкі і няпросты, але адзіна правільны і плённы — на шлях паглыбленага, аналітычнага псіхалагізму. Бачачы свае задачы як мастака ў тым, каб раскрываць унутраны свет чалавека, выяўляць тое, як уплывае на яго жыццё, як уплываюць гістарычныя абставіны і акалічнасці, у тым, каб сцвярджаць ідэалы новага, савецкага ладу і асуджаць стары ўласніцкі свет логікай саміх жыццёвых фактаў, логікай развіцця чалавечых характараў, і, стараючыся ажыццяўляць гэтыя задачы сваёй творчай практыкай, К. Чорны шмат зрабіў для таго, каб беларуская літаратура выпрацавала сваю сталую празаічную традыцыю.»



Мікола ГІЛЬ, пісьменнік,— за літаратурна-крытычны артыкул «Зіхоткая вяршыня» (№ 6).

«Цалкам згодны, што смешна адмаўляцца ад каштоўнасцей, якія ствараюцца для людзей, для таго, каб іх жыццё было добраўпарадкаваным, зручным. Аднак залішняя раскоша з маленства, якой дамагаюцца з адзінай мэтай — вылучыць сваё дзіця сярод іншых, выклікаць зайздрасць аднакласнікаў,— адна з самых агідных рыс няправільнага выхавання. Гадзіннік на танюсенькім запясці вучня малодшага класа, ашаламляльны ўбор да выпускнога вечара, аўтамабіль як заахвочванне да вучобы пасля паступлення ў інстытут — гэта ўжо не дастатак, гэта — крокі ў бюргерства з максімальнай гарантыяй атрымаць у выніку такога «выхавання» спажыўца, духоўна ўбогага чалавека, які не здольны адрозніць сапраўдныя жыццёвыя каштоўнасці ад уяўных».



Аляксандр ШЧАРБАКОЎ, публіцыст,— за артыкул «Дзе ты, залатая рыбка?» (№ 6).





Міхаіл ЖЫЛІНСКІ, фотажурналіст,— за каляровы здымак «Ансамбль танца «Радасць» (№ 1, 4-я старонка вокладкі).

«Флегматычная фігура» ў разуменні Старавойтава — абыякавы да сваёй справы чалавек, работнік-падзёншчык, для якога на тым жа полі хоць камень, хоць трава не расці.

Калі ўжо сказана пра кагосьці пры ўсім народзе «флегматычная фігура»,— больш трапнай характарыстыкі няма, усе разумеюць сэнс сказанага. А сэнс у тым, што абыякавасць — самая небяспечная хвароба земляроба, бо абыякавыя не робяць зямлю лепшай. Араць і сеяць яны могуць, таму што хлеба хочацца ўсім, у тым ліку і абыякавым. Але толькі араць і сеяць — недастаткова для сапраўднага земляроба, цывілізаванага земляроба. Вось у чым сэнс празмерна патрабавальнай, я б сказаў, парадаксальнай прамовы Старавойтава пра камень, які ляжыць на хлебным полі і выклікае боль у чалавечай душы.»



Анатоль КАЗЛОВІЧ, пісьменнік,— прэмія калгаса імя Жалезняковіча за нарыс «Сярод людзей» (№ 9).

# З НАМІ — «СВЯТА»

Мир. 12-182



Танцуюць апранутыя ў старадаўнія народныя строі хлопцы і дзяўчаты, гучаць прымаўкі, песні, частушкі, пацяшаюць народ скамарохі. Але не гэта зачароўвае і з першых жа хвілін прыкоўвае ўвагу залы, калі выступае ансамбль народнай музыкі «Свята» Беларускай дзяржаўнай філармоніі: такое афармленне не рэдкасць і на іншых канцэртах. Здзіўляе музыка. Гэткага набору інструментаў, празрыстага, шматгалосага іх гучання, відаць, яшчэ не было на прафесійнай сцэне.

— Сапраўды,— пацвярджае кіраўнік і стваральнік ансамбля Васіль Купрыяненка,— мы першыя рызыкнулі выконваць чыста фальклорную музыку без усялякага пералажэння або «сучаснага прачытання», што характэрна для іншых прафесійных калектываў, нават такіх папулярных, як ансамбль «Песняры» або «Харошкі». Падкрэсліваю: прафесійных. Таму што ў Беларусі ёсць нямала самадзейных калектываў, якія выконваюць самабытную музыку, але, на жаль, робяць гэта не заўсёды кваліфікавана. Адсюль наша задача — сабраць усе існуючыя ўзоры народнай музыкі і інструментаў і данесці іх да самай шырокай аўдыторыі.

— А якія адносіны слухачоў да творчасці ансамбля?

— Наша музыка, як гэта ні дзіўна, зусім не простая для ўспрымання сённяшняга слухача. Яна вельмі своеасаблівая па інструментальнаму ладу, шматгалоссю, па рытмах. І ўсё ж яе сустракаюць з вялікай цікавасцю і разуменнем, асабліва моладзь. У гэтым мы пераканаліся ў час гастрольных паездак па рэспубліцы. Дый першае міжнароднае выпрабаванне — удзел у фестывальнай праграме ў Маскве — ансамбль вытрымаў з гонарам.

Галіна АДАМОВІЧ.
Фота Яўгена КОКТЫША.

Цана 35 кап. «БЕЛАРУСЬ», 1985, № 12, 1—36. ISSN 0320-7544 Індэкс 74820